Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАДДЗЬВІНЬНЕ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ АЛЬМАНАХ ПОЛАЦКАЙ ФІЛІІ УСЕБЕЛАРУСКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ ПАЭТАЎ І ПІСЬМЕНЬНІКАЎ „МАЛАДНЯК“.







ВЫДАНЬНЕ
ПОЛАЦКАЙ ФІЛІІ „МАЛАДНЯКА“.
ПОЛАЦАК, 1926 г.

# Наш шлях.

Народ, які знаходзіўся пад шматвяковым палітыка-сацыяльным і нацыянальным уціскам, мова якога разглядалася як мужыцкая, каравая, на якой нельга перадаць ні сваіх думак, ні пачуцьцяў. Зараз на гэтай мове, маладой (у літаратурным сэнсе), будуе пад кіраўніцтвам пралетарыяту і камуністычнай пертыі, «нацыянальную па форме, пралетарскую па зьместу культуру».

Літаратура, як пэўная зьява культуры, выйшла на шлях свайго разьвіцьця, толькі з пары сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня Беларусі Кастрычнікавай рэвалюцыяй.

Мастацкія сілы, абуджаныя раскатамі Кастрычніка, на Беларусі, увайшлі ў арганізацыю Усебеларускага аб'яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў «Маладняк».

Маладняк арганізаваўся якраз тады, калі пытаньне «Хто каго», паўстала і на культурным фронце. Вось чаму «Маладняк» адразу ухваліў у сваёй дэклярацыі не фармальна мастацкія літаратурныя напрамкі, а стала вызначыў сваю палітычную і ідэолёгічную пляцформу—па шляху да сацыялізму пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі.

Шлях, выбраны «Маладняком» па апанаваньню літаратурай. як сродкам клясавае барацьбы, а ў руках пралетарыяту—сродкам сацыялістычнага будаўніцтва—не індывідуалістычнае апанаваньне, не канкурэнцыя, а калектыўная арганізаванасьць.

У калектыве і праз калектыў—вось шлях Маладняка Маладняк за 3 гады свайго існаваньня мае сваю значную гісторыю, якая складаецца з гісторыі як паасобных філій, так і ўсяго аб'яднаньня ў цэлым, і зьяўляецца гісторыяй разьвіцьця пралетарскае культуры на Беларусі.

Першы кругабег гісторыі «Маладняка» вызначаецца шпаркім ростам, павялічэньнем сваіх шэрагаў за кошт рабочых і сялян, масавым адчыненьнем філій, студый і гурткоў, правядзеньнем шырокае вуснае агітацыі ў выглядзе публічных выступленьняў, дыспутаў, літвечароў, і масавым друкаваньнем творчасьці, якая па ідэйнаму зьместу была прасягнута захапленьнем непасрэднай барацьбой і трыумфам перамогі.

І гэта натуральна. Усякі навароджаны, калі ён выходзіць на сьвет, перш за ўсе падае свой голас—набіраецца паветра, каб штурхнуць свае сілы да жыцьця. І чым мацней крык, тым ён здаравейшы. Такі крык—крык аб'яднаных мастацкіх сіл на Беларусі, крык моцны, які паказаў на жыцьцёвасьць, здольнасьць да працы, і вызначае першы кругабег Маладняка.

Зараз жа, гэты голас знайшоў водгук сярод гушчаў працоўных Беларусі, і прывабіў да сябе цікавасьць.

За гэты кругабег свайго жыцьця і барацьбы, «Маладняк» зрабіў два вялікіх і важных дасягненьні: «палітычна заваяваў сабе дамінуючы стан у Беларускай літаратуры, умацаваў у ёй свае рэвалюцыйна-наватарскія ідэі, і выпрацаваў мэтады шырокае, літаратурна - грамадзкае працы, дасягнуўшы нябывалае блізкасьці у злучнасьці пісьменьніка з чытачом, пашырыўшы магчымасьць выяўленьню новых творчых сіл таленавітым выхадцам з працоўных гушчаў.

«Маладняк»—першае на Беларусі згуртаваньне паэтаў і пісьменьнікаў, увабраўшы у сябе ўсе літаратурныя сілы на Беларусі, зрабіўся кузьняй рэвалюцыйнае беларускае літаратуры. К часу першага зьезду (лістапад 1925 году) аб'яднаньне налічвала каля 500 таварышоў, з якіх 123 сапраўдных сябры, астатнія студыйцы і гурткоўцы.

На адчыненьні зьезда прадстаўнік Наркамасьветы сказаў наступнае: «цяпер вы ня знойдзеце ні воднай газэты, часопісі, дзе-б ня было процантаў на 75 матар'ялу маладнякоўскае працы, і трэба сказаць, што самая ўдалая па сваім зьместу, па сваёй ідэолёгіі, дынаміцы, гэта ёсьць тая частка нашае літаратуры, якую дае «Маладняк»... Матар'ял дзеля выхаваньня моладзі ў рэвалюцыйным духу і здольных да сацыялістычнага будаўніцтва дае аб'яднаньне «Маладняк». Дадаваць што небудзь да гэтага ня трэба.

Маладняк,—гэта вынік рэвалюцыйнага развязаньня сацыяльнага і нацыянальнага пытаньняў рабочымі і сялянамі пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі. Маладняк выкліканы да жыцьця дзеля будаўніцтва пралетарскае літаратуры на Беларусі. З паляпшэньнем дабрабыту нашае краіны, больш яскрава вызначаецца і клясавае расшластаньне грамады.

На Беларусі у зьвязку з гэтым прайшла дыферэнцыяцыя мастацкіх сіл, адпаведна тым напрамкам, па якіх імкнецца жыцьцё паасобных груп грамады.

Маладняку прышлося правесьці значную барацьбу ў сваіх шэрагах супроць розных хістаньняў з боку цэлае групы паэтаў

і пісьменьнікаў, але гэта змаганьне больш загартавала аб'яднаньне, больш канкрэтна паставіла пытаньне аб задачах літаратуры ў наш час і яе характару.

Полацкая філія ўсягды стаяла і стаіць на шляху, які заняло ўсё аб'яднаньне. Розныя хістаньні ў справе будаўніцтва пралетарскае літаратуры ў пераходны кругабег, якія маюцца ў літаратурным сьвеце па за Маладняком, нашае філіі не крануцца, і ня зрушаць яе з таго шляху, па якому яна ішла і будзеісьці надалей.

Як было сказана вышэй, у гісторыі Маладняка, вялікае значэньне маюць гісторыі паасобных філій. Бабруйская і Барысаўская філіі ўжо падарылі свае зборнікі прыгожай беларускай літаратуры, Калінінская і Аршанская—свае часопісі. Полацкая філія ўносіць таксама свой уклад.

Полацкая філія заснавалася ў 1924 годзе. Першыя крокі працы філіі былі ня лёгкія. Полаччына нядаўна была тады яшчэ далучана да БССР, і працу прыходзілася пачынаць пры ня зусім спрыяючых умовах.

Полацак з яго вялікім гістарычным мінулым, Полацак дзе радзіўся першы беларускі друкар Францішак Скарына, Полацак —сталіца былой Полацкай Русі на руінах мінулага, на руінах іезуіцкіх кляштараў і «православных церквей» будуе новае жыцьцё. Але спадчына мінулага засталася яшчэ і часамі воража цяўкае «носитель былого величия». Яскравым прыкладам гэтага можа служыць чорнасоценскае, вялікадзяржаўна шавіністычнае выступленьне ў друку Пшчолкі ў сёлетнім годзе, які сам паходзіць з Полаччыны.

Задачаю «Маладняка» Полаччыны зьявілася разгортваньнем сваёй працы па Полаччыне, разьвеяць імкненьні «пшчолак» якія тады цішком імкнуліся паралізаваць разьвіцьцё беларускай культуры.

Праз наладжаньне літаратурных вечароў і выступленьняў полацкія маладнякоўцы заявілі аб сабе, сказалі моцнае слова аб разьвіцьці беларускай літаратуры і сваёю творчасьцю падмацавалі гэта.

Далей болей праца філіі посоўвалася наперад. Пачалі зьяўляцца маладнякоўскія творы на старонках, тады яшчэ выходзіўшай на расейскай мове, полацкай газэты.

Усё гэта абудзіла імкненьне да творчай працы сярод гушчаў вясковай моладзі Полаччыны. У рэдакцыю пачалі масава паступаць творы маладых вясковых паэтаў.

Шляхам выездаў і пісьмовай сувязі Полацкая філія разгарнула сваю працу шырэй.

Па раёнах пачалі арганізоўвацца гурткі. Пад кіраваньнем Полацкай філіі яны пачалі працаваць над вывучэньнем беларускай літаратуры і над выхаваньнем тых творчых самародкаў, якія зьявіліся ў гэтых гуртках.

На сягоньняшні дзень такіх гурткоў—3—у Валынцох, Ветрыне, Расонах і заложаны пачатак да арганізацыі такіх гурткоў у іншых раёнах.

Гэтыя гурткі на сягоньняшні дзень яднаюць да 40 чал. моладзі, жадаючай вывучаць беларускую літаратуру і працаваць на культурным фронце. Сярод іх выхоўваюцца і будучыя паэты пісьменьнікі, творчасьць якіх зьмяшчаецца ў гэтым зборніку.

Працуючы над сваім літаратурным выхаваньнем «Маладняк» Полаччыны пачаў рэалізаваць сваю творчасьць праз выданьне літаратурных старонак пры газэце і друкаваньне асобных твораў у ёй-жа, і нарэшце, праз выданьне літаратурнага дадатку пры газэце.

Маладняк Полаччыны сваёю творчасьцю нясе ў працоўныя гушчы сваю радасную маладую песьню, пазбаўленую бурапены мінулага, авеяную сучаснымі імкненьнямі рабочых і сялян Савецкай Беларусі, да будаваньня сацыялізму.

Так з творчасьці паасобных філій, і паасобных сяброў «Маладняка», складаецца беларуская пралетарская літаратура, нацыянальная па форме, якая магучым патокам увальлецца ў русло агульна-чалавеччай літаратуры.

М. Грашчанка.

---



ЯНКА КУПАЛА.

# Акоу паломаных жандарм...*)

На палеміку аб беларускай мове.

Акоў паломаных жандарм,
Сьліўнём зарыўшыся ў нару,
Сядзіць расейскі чынадрал,
«Слуга оцечаству, цару».

*) Верш быў зьмешчаны ў «Савецкай Беларусі». Напісаны ў адказ на выступленьне ў друку супроць беларускай мовы некаторых вялікадзяржаўных шавіністаў з Полаччыны.

Ён сьніць былую моц і шыр:
Цары, царыцы, цэрквы, трон,
Пагромы, катаргі, Сібір...
О, Русь! прымі раба паклон!

Табе такой служыць па гроб
Ня кіну я, і расьцярзаць
Ня дам дзяржаўнасьці «оплот»,
Цябе, «единую», о, маць!

Здарма-ж двуглавы твой арол
Праз векі ў кіпцюрох трымаў
Мільёны ўбогіх хат і сёл,
Рабоў мільёны?... Не, здарма!

У твой ланцуг былі, о, Русь,
Уплецены з усіх бакоў
Украіна, Польшча, Беларусь
І сотня іншых «языкоў».

Цяпер, што бачу я кругом?
Пасад маўклівы збуран скрозь...
Рэспублікі? ды з «языком»
З іх лезе кожная ўсур'ёз.

А ты, о, рускі мой «язык»!
Мой «обшчарускі», што з табой?
Табе слухмян быў мал, вялік,
Быў славен ты сваёй кляцьбой.

Табой сам самадзержац цар
Пісаў ланцужны свой закон,
Што маці Русь есі жандарм
Усёй Эўропы!..

І свой сон

Сьніць далей гэты царадвор,
Калі надыдзе яму дзень,
Ізноў пад лёзгат царскіх шпор
Свой распасьцерці чорны цень.

Ён гэты скінуты сатрап
Ня знае, што ў свабодзе жыць;
Яму дай вісельню, дый каб
На ёй «языкі» ўсе ўшчаміць.

Не па нутру, як сьмерць, яму,
Што беларускае дзіцё
Бяжыць у сьцюжную зіму
У школу пазнаваць жыцьцё.

Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх,
Напоўадзеты вёскі сын,
У роднай мове ўчыцца змог?...
О, стыдна, рускі «гражданин»!

Язык твой царскі ён табе
Ня выража, спакойны будзь!
Цябе тваім-жа ў кляцьбе
Ен не забудзе памянуць.

Былых ня выклічаш вякоў
І ты, Масквы кароннай гразь,
Парваных ня скуеш акоў,
З якой брахнёю ня вылазь!

Акопы, 5—VI, 1926 г.

---



# Ліст да палачан народнага паэты Беларусі Янкі Купалы *).

## Дарагі тав. рэдактар!

Не адкажэце надрукаваць гэты мой ліст у Вашай паважанай газэце «Чырвоная Полаччына».

У часе майго кароткага прабываньня ў Полацку з прадстаўнікамі вышэйшага Беларускага Савецкага Ураду—Старшынёй Саўнаркому т. **Адамовічам** і Наркомам Асьветы т. **Баліцкім**—полацкае настаўніцтва і учнёўства пасьвяцілі адзін вечар (11-га мая), прысьвечаны майму прыезду ў Полацак.

Трудна мне выказаць словамі сваю шчырую ўдзячнасьць і сардэчную падзяку за той мілы і гарачы і папраўдзе братні прыём слаўных і вольных палачан і палачанак, які быў мне аказаны з боку іхніх арганізацый: Акругкому, Чырвонай арміі, камсамолу, маладняка, настаўніцтва, вучнёўства, і інш. Я толькі магу адно сказаць, што па звароце у Менск, сталіцу БССР,—мае самыя лепшыя думкі будуць аб пралетарскім чырвоным Полацку.

Пажадаю Вам, палачане і палачанкі, каб тая першая падумка Вашага славутнага продка, ураджэнца г. Полацку, вялікага вучонага **Ф. Скарыны**, што для «люду посполітага» трэба пісаць кнігі на яго простай зразумелай для яго мове, была заклікам да працы над эканамічным і нацыянальным адбудаваньнем нашае многапакутнае бацькаўшчыны.

Хай заціхнуць званы сафійскія і ім падобныя манастырскія званы, якія званілі славу князём, царом і астрогам, а няхай зьвіняць у Вас вечна песьні радасьці і волі нязьмеранай і дакацяцца гэтыя песьні вызваленьня аж туды—за пагранычныя слупы, дзе яшчэ Вашы браты і сёстры цягаюць ланцугі сацыяльнай і нацыянальнай няволі.

Пажадаю Вам, таварышы, дружна трымацца таго сьцягу, які Вам дала вялікая пралетарская рэвалюцыя, а на варце і абароне якога стаіць праўдзівая барацьбітка за вызваленьне працоўнага люду ўсяго сьвету,—камуністычная партыя.

Няхай у Вашых думках вечна жыве адно жаданьне—гэта цьвёрда і нязломна працаваць для эканамічнага і культурнага падняцьця сваей Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.

**Янка Купала.**

Полацак, 12 траўня, 1926 г.

*) Ліст быў зьмешчаны ў газэце «Чырв. Полаччына» ў час прыезду Я. Купалы ў Полацак.



С. ХУРСІК

## С. ХУРСІК.

# Францішак Скарына.

## (Аповесьць).

### I.

Тысяча пяцьсот трыццаты год быў суровым, сумным і страшным для усёй Беларусі і асабліва для гораду Вільні. Памятка аб ім надоўга засталася ў памяці людзей якойсьці чорнаю, непазбытнаю ды зьзяючаю плямай— ранаю...

Вясна ў гэтым годзе прышла раньняя, захаплліва-радасная, пышная.

Шмат гадоў прайшло з таго часу, як бачылі беларускія палеткі такую магутную ды дзівосна-пульхную зеляніну. Зялёныя лугі, бясконцыя бы мора, усьміхаліся кветкамі, зьзялі мітульгой рознастайнай. Жыты, як хмары ў небе, вайдаваліся, плылі.

Радасьць людзей была бязьмежнаю: усе чакалі багатага жніва, вялікага ўраджаю.

Дні ішлі спакойныя, ціхія, нібы ў вырай журавы плылі.

А сонца прыпальвала ўсё мацней ды мацней.

Гэтак адсьмяліся, адцьвілі цэлыя тыдні, а на небе не паказалася ніводнага воблачка.

Пачаўся сухмень.

Занепакоілася, захвалявалася беднота вясковая, замшавелыя вёскі нямы жах абхапіў.

А багатая Вільня, тым часам, жыла спакойна, весела, бястурботна. Сьпякоты дзён зьмяняліся сінімі вечарамі, пахучымі ды мяккімі чарнявымі начамі. У гэтыя ночы ў небе зоры

іскрамі пырскалі, часам падалі кудысьці ў ніз, як буйныя сьлезы з воч, зара з зарою цалаваліся.

Багатыя вільняне жылі весела і бястурботна...

* * *

Ліпнёвы дзень сканаў, захліпнуўся. Яшчэ пырскаў захад сьмехам лілёвым, але ў гэтым яго сьмеху ўжо чулася штосьці адпетае, аджыўшае, пакаваўшае без надрываў,—такое, што ня можа вярнуцца назад, а бывае ў жыцьні толькі аднойчы.

Дзень сканаў, захліпнуўся. Ён утапіўся ў растопленым золаце вечару...

Вільня зашумела, залаташылася, аддалася вясёласьці. Вуліцы заліліся сьвятлом.

Гул вуліц і музыка начы зьліліся ў адзіную нявымоўную мэлёдыю, у вадзіны гымн жыцьцю...

Але нічога гэтага сёньня ня чуў і ня бачыў слаўны вучоны палачанін Францішак Лукіч Скарына. Ужо больш як з поўгадзіны ён узрушана хадзіў па сваім невялічкім, цёмным і суровым пакоіку.

У шэра-блакітным змроку начы яго аграмадная чорная фігура казалася нязвычайна вялічэзнай і магутнай, нібы з жалеза выкутай.

У кароткіх гуках, што вылятаў з-пад яго ног, і ў зложаных назадзе руках чулася непамерная, казачная моц.

Хадзіў па пакоіку і аб чымсьці ўпорчыва думаў.

— Труцень агідны!—вырвалася ў яго, нарэшце,—ліха няма на вас, ляхі!..

Спыніўся ля акна і застыў. Цьмяна-зеленаватае неба з золатам зор патыхнула на яго чымсьці блізкім і знаёмым, чымсьці родным, дарагім сэрцу, але даўно запамятаваным. Стаў успамінаць.

— Гэта я на Полаччыне, дома, яшчэ ў дзяцінстве такія ночы бачыў, зялёнае неба,—ачнулася ў яго ў памяці,—калі я часта ў дзіцячым задуменьні сядзеў над шумлівай і бойкай Палатою, або над гордаю, магутнаю Дзьвіною... Колькі харараства там... і гора было...

І як хмары па небе, як цені па жытнёвым полі, паплылі ўспаміны пярэстыя перад ім.

Вось ён бачыць сябе маленькім хлопчыкам, калі вучыўся ў Полацку ў царкоўнай школцы. Нахмураны, суровы настаўнік поўпісьменны важна ходзіць па клясе, як пры ганяты, за чубы каго трасе, каго за вушы...

Патом Вільня.. Шчырае вучэньне... Пераход у каталіцтва, каб у Кракаўскі унівэрсітэт папасьці... Зноў напружаная праца...

Дыплём бакалаўра філёзофіі... Агіднасьць да ачумелай каталіцкімі ідэямі прафэсуры...

Далей вандраваньне аж у Гіталію, у Падуанскі унівэрсытэт... Мучэньні, нявымоўныя мучэньні... беднасьць бязьлітасная... Урачысты экзамен... Новы дыплём «доктара лекарскіх навук»...

Потым зноў вандраваньні... Знаёмства з друкарскай справай... Друкаваньне беларускіх кніжак у Кракаве... Адтуль выжылі... думалі, што забудуся на свой край, забудуся,—хто я!.. Тупавумныя!.. Воўк і той любіць сваё логава, свой куст, дзе радзіўся!..

— Эх, ня быць прыгнёту!—сказаў Скарына скрозь зубы ў голас і адышоў ад вакна.

— Алеська!—гукнуў ён праз хвіліну,—прынясі мне сьвятло!

Скрыпнулі зьлёгку цяжкія дзьверы і ў пакой увайшла з лямпаю у руцэ прыземістая дзяўчынка. Паставіла лямпу на стол, за якім заўсёды працаваў Скарына, і на дыбачках выбегла з пакою.

Скарына расшпіліў на сабе сваю доўгую чорную мантыю і прысеў за стол. Порстка адгарнуў убок кавалачкі дрэва, на якіх ён вырэзваў узоры, каб пасьля аддрукаваць іх у кніжцы, узяў невялічкую дошчачку з недаконченым узорам і пачаў яго асьцярожна дамалёўваць, каб пасьля было як вырэзваць.

Цёмна-сінія вочы ўпіліся ў вузор. Белая, як мармур, правая рука паслушна выводзіла чорныя рыскі, фігуркі. У моманты перапынку чуць прыкметнаю дробнаю дрыгвоткаю дрыжэлі доўгія пальцы...

А калі рука выводзіла нязвычайна цяжкі завіток, то твар мастака напружваўся. Па ім пачыналі перабягаць цені, уздрыгваць мускулы ды вялікі, крыху вуглаваты, падбародак..

Прайшло толькі некалькі хвілінак і на твары Скарыны і сьлядочку не засталося ад нахмуранасьці і нездаволеньня. Цяпер па ўсім яго абліччы разьлілася якаясьці ласкавая, мяккая замілаванасьць да гэтых чорных выкрунтасаў—завіткоў, да справы. Мажліва, што ў гэты момант дзесь глыбока ў сэрцы думка пяшчотная зацяплілася ды зазьзяла на твары цёплаю і мяккаю ласкавасьцю.

Зайдзі ў гэты момант у яго пакой хто-небудзь пабочны, дык і падумаць ніколі не падумаў бы, што гэта сядзіць за такою простаю справаю той вялікі палачанін, «бакалаўр філёзофіі» і «доктар лекарскіх навук», чыё імя вядома ўсяму вучонаму захаду, хто адмовіўся ад пыху і блеску каралеўскіх двароў абы толькі працаваць на карысьць свайго народу.

Але-ж Скарына мала лічыўся з тым, што пра яго могуць

сказаць людзі, што на яго могуць паглядзець з кплівым задзіуленьнем. Справа для яго была ад усяго даражэй. Вось надрукаваць бы яму кніжку лішнюю ды даць яе для навучаньня не багатыром, не князём, а «люду простаму, паспалітаму», як ён часта сам казаў. Вось гэта было для яго ўсім. Вось таму і сядзеў ён так пільна над сваёю працаю ды старанна выводзіў рыскі, завіткі, фігуркі: усё-ж кніга будзе прыгажэйшаю.

— Яшчэ толькі адны суткі,—думаў Скарына за працаю,— і выйдзе новая кніжка. . Гэта—вялікае сьвята!.. Кожная новая кніжачка—крок да самазабароны, вялікі крок да перамогі беларуса-бедняка над сваімі ворагамі! Хай ідуць да сьвету, вучацца, разумнеюць, каб цемра беспрасьветная не асіліла, вораг люты і бязьлітасны не асядлаў, не запанаваў бы!..

Так сядзеў, углыбіўшыся ў сябе, аддаўшыся дарагім і блізкім сэрцу думкам і пільна з захапленьнем працаваў.

— Юры Лукіч,—раптам гукнула за дзьвярыма дзяўчынка, што прыносіла ў пакоі лямпу,—Даніла да вас прышоў!

— Ага?.. Калі ласка .. Хадзі, браток... Ну, як там?..

— А нічога. Ужо ўсё гатова .. Набралі... Усё якраз, толькі малюначкі,—сказаў, увайшоўшы Даніла (высокі танклявы хлапец, год дваццаці пяці, адзін з найлепшых супрацоўнікаў Скарыны ў яго друкарні).

— Я зараз канчаю, прысядзь пасядзі,—прагаварыў Скарына ня кідаючы працы і нават вачэй ня ўзьняўшы.

Даніла ціха апусьціўся на абітае зялёным сукном крэсла і сумотна суцішыўся.

— Ну, што чутно, Даніла?.. Мо дзе навіны якія?.. Я сёньня, дык цэлы дзень працую, ня вылажу з пакою,—спытаўся Скарына.

— Сумныя. Адно гора-горкае. . Кажуць, што маскоўскі цар сабірае вялікае войска .. Зноў усё дашчэнту зруйнуюць.. Быццам крыві мала. І так ці цеперся палюць, нішчаць ўсё... божа—божа!..

— Ты ад каго чуў?—зацікавіўся Скарына і на момант дапытліва спыніўся на смуглым засмучоным твары Данілы.

— У горадзе адзін пан польскі казаў.

— Хто такі?

— Якійсьці Кубінскі.

Касая дрыгвотная ўсьмешка перацяла ў Скарыны вусны. З-пад нахмураных броваў бліснулі іскаркі.

— Есьць каму верыць?—саркастычна прыкмеціў ён,—я гэтага пана нядаўна з пакою пратурыў, морда яго ляская! Ведаю іх, крывапійцаў гэтых!

— Калі-ж гэта?.. Сёньня?...

— Сёньня.

— І завошта?

Скарына прыкра паморшчыўся. Урэшце, адказаў.

— Вар'ят! Ці-ж я ведаю, ці пазычаў мой пакойны брат у яго грошы, ці не, а ён чамусьці ка мне чэпіцца: «аддай», шляхецтвам сваім выносіцца недарэчным, а «доктар лекарскіх навук», дык гэта яму нішто!.. Я сваім розумам і цярплівасьцю дабіўся «доктара лекарскіх навук»... Ну і паказаў я яму яго шляхецтва!

— Няўжо так узялі і выгналі?

— Што-ж мне з ім валаводзіцца? Узяў да пратурыў! Мяне ўвесь Захад ведае!.. А хто ён? Крывапійца!

Дзеля чаго яны цяпер слыхі такія разносяць, што быццам маскоўцы на нас вайною зьбіраюцца? Гэта ўсё запужваюць...

Вуніі хочуць. Гэта знамянуець, да сваіх рук нас хочуць прыбраць і... ужо, па крысе, прыбіраюць!...

— Ня можа гэтага быць?!

— Яно так ёсьць. Толькі шмат хто гэтага ня бачыць, а шмат хто бачыць, ды толькі радуецца гэтаму...

— Хто-ж няволі будзе рад?—наіўна зьдзівіўся Даніла.

— Гэтай няволі радуюцца нашы багатыры, паны, бо польскае панаваньне нясе з сабою няволю толькі для сялянства, яно нясе з сабою для сялянства паншчыну, яно заставіць яго на сябе дарэмна працаваць. Вось таму і хінуцца нашы паны да польскіх паноў, вось таму яны і мовы роднае зракаюцца, звычаяў, ды сваіх дзяцей пасылаюць для навучаньня ў польскія школы.. Здраднікі!..

— І народ маўчыць?

— Што-ж народу рабіць?.. З аднаго боку маскоўцы паляць нашы сёлы і гарады, а з другога боку—і палякі кожную часіну гатовы рынуцца гэта-ж чыніць... Пятля на шыю накінута ды зацягваецца павольна... Палякі гэта бачаць ды выкарыстоўваюць, насядаюць з вуніяй.

Даніла нэрвова ўсхапіўся з крэсла і шпарка пачаў хадзіць па пакоі. Цераз некалькі хвілін суровы і сумны спыніўся супроць Скарыны.

— Няўжо-ж наша дзяржава прападзе, народ загіне?!.. Доктар, вы-ж вучоны чалавек, скажэце?!..

— **Omnia mutantur**—усё пераменяецца,—казалі калісьці рымляне—адказаў ціха і паважна Скарына,—усё можа быць... Можа здарыцца так, што народ і ня вытрымае прыціску, памрэ, закоціцца, як сонейка за лес...

— Ня быць гэтаму, доктар!..—ускіпяціўся Даніла, бліснуўшы чорнымі зранкамі,—мы народ абаронім, хоць бы за

гэта жыцьцё прышлося аддаць. Усе да адзінага, калі трэба будзе, загінем!..

— А што з гэтага?—Сумна адказаў Скарына,—гэта ня выхад з палажэньня, што мы ўсе загінем.. Ды хто ўсе?.. З паноў мала хто вытрымае да канца... Яшчэ з маскоўцамі будуць усе змагацца, а супроць палякаў—не... думаюць, што з вуніі, злучэньня з палякамі, толк выйдзе... Распачаць змаганьне і з маскоўцамі і з палякамі —гэта значыць без пары сябе загубіць...

— Але чаго маскоўшчыне гэтай хочацца?.. Ці даўно сама под татарвою была... Чуць-чуць сама вызвалілася, ужо другога імкнецца заняволіць... Вось народ дзе бязьлітасны!.. І што рабіць?.. што рабіць!?..

— Трэба сялянства ратаваць.

— Як?

— Трэба адукоўваць яго,—задуменна адказаў Скарына, нібы сам з сабою разважаючы,—гытым мы яго захаваем ад ворагаў, не дадзім яго на зьежу ім.. Калі і зваліцца на яго няшчасьце, то лягчэй яму будзе вызваліцца ад яго.. Трэба кніжак больш даць, а то можа запанаваць чужая кніжка, чужая мова, і народ тады—памёр!..

— Не дачаканьне ім!.. Зубы паломяць!.. Апошнюю сарочку здымем з сябе, а абаронімся!..

— Апошнюю сарочку,—толькі пранеслася ў галаве ў Скарыны. Ён нічога не адказаў. У пакой усунулася якаясьці цяжкая, самлелая ціша ды здавіла іх. Нікому з іх не хацелася парушаць яе, бо, здавалася, зрабі толькі хоць адзін гук і гэта ціша выдасьць гаспадара яго, падхопіць нотку дрыжаньня, гора, ці сумненьня ў голасе дый панясецца з ім усюды, на паказ...

Скарына ізноў узяўся пільна за працу, якую часова быў спыніўшы.

— Ну, на, вузоры,—хвілін цераз пяць,—зьвярнуўся ён да Данілы.

Апошні хуценька ўзяў іх, закруціў у чырвоную хустачку, разьвітаўся нэрвова і вышаў.

А Скарына задумаўся. Цёмна-русыя паймы валасоў вострымі грабеньчыкамі выбіліся між пальцаў з пад белай рукі і дрыжэлі, як жывыя.

Думкі беглі і мяняліся, як гукі ў песьні, як у сэрцы кроў...

— Не дамося у крыўду!.. Адукацыяй, розумам пераможам..

На-днях кніжка выходзіць, трэ' было-б друкароў маіх крыху падахвоціць... Працуюць добра, сумленна, ня лічацца ні з чым... А грошай хоць бы капеечку дзе ўзяць. Сродкі нашы амаль усе вышлі...

Ды як-жа і працу бяз сродкаў пашырыць?.. Шмат кніжак ня выдасі..

А час уходзіць... Чакаць ні хвілінкі, ні капелечкі ня можна, бо пятля на шыі народу ўсё больш і больш зацягваецца.

Скарына раптам устаў з-за стала і, ашчарэпіўшы голаў рукамі, заснаваў па суровым і хмурым сваім пакоіку.

— Люду, мой люду!.. Як цябе ратаваць?!.. Адкуль сілы ўзяць?!..

Але ўсё наўкол маўчала, нібы прытаіўшыся; толькі ціша ў пакоіку станавілася ўсё званчэйшаю і званчэйшаю ды за вакном, на дварэ ўсё сыпаліся й сыпаліся з неба зоры залацістыя, сыпаліся буйныя, спакойна, як з воч маткі сьлёзы над дзіцячаю магілкаю.

II.

Вялічэзнай, сумнай і цяжкою, нават гнятучай, аграмадзінай выглядзеў сярод звычайных драўляных будынкаў Вільні мураваны Троіцкі кляштар.

Высокія і войстрыя, як пікі, вежы, мураваныя сьцены наўкол і такія-ж мураваныя будынкі з маленькімі акенцамі з кратамі, як у вастрозе, нявольна ранілі кожнага глядача сваёй завостранасьцю і наганялі нявымоўны смутак і невядомы страх сумнаватай няпрыветнасьцю і цяжкасьцю.

Замкнуўся гэты кляштар ад акаляючага яго кіпучага жыцьця ў мураваныя сьцены і жыве сваім уласным маленькім жыцьцём, з сваімі цікавасьцямі, з сваім горам і радасьцямі.

Сёньня, як і заўсёды, кожны тут быў заняты сваёю справаю з самага ранку: большасьць манахаў малілася, некаторыя фізычна працавалі, а некаторыя, найбольш адукаваныя, сядзелі ў сваіх кельлях ды перапісвалі кнігі. Былі і такія, каторыя, замест малітвы, саматужным чынам усьціхамірвалі свае палы, задавольвалі цела «грэшнае».

Старэнькі ігумен, айцец Анісім, чуть сьвет пачаў рабіць абход па кельлях.

Першым чынам, чуць чутна падкраўся да кельлі «зло адзержымага бясамі». Прыслухаўся. Там чуліся якіясьці пастуканьні і нібы нэрвовыя ўздрыгваньні.

Ігумен прытка адчыніў дзьверы. На падлозе ля сьценкі штосьці чорнае вялізнае латахнулася і хутка шмарганула рызаю.

— Ахрэм, бога ты не баішся?..

Вялікі, здаравенны чорны манах, дрыжучы ўсімі членамі, узьняўся на ногі і зараз-жа апусьціўся на каленькі перад ігуменам.

— Аз грэшан есьм,—балесна пачаў манах, ня ўздымаючыся,—праз усю ношч маліўся. Токма расьніцы зьвёў,—бачу: ідзе жанчына, якая была мне калісьці знаёмаю... уся як ёсьць, голая... усьміхаецца, маніць мяне... А яна такая поўная, павабная...

Я загарэўся, кінуўся . . . . . . . . . . . . . . .

Прачнуўся, памаліўся... А яна ўсё ня выходзіць з галавы... Зноў мяне пацягнула, а ўспрацівіцца не магу, сілы не хапае... кроў у мазгі стукае, я і пачаў . . . . . . . . каб ад сэрца адлягло . . . . . . .

— Маліся, сын, маліся!... Гасподзь Хрыстос сказаў: Ашчэ цябе левая рука змушчае, то вазьмі адсячы яе ды выкінь»...

— Уладыка праведны!--перабіў яго манах, лепей бы я зусім бяз гэтага радзіўся, як-жа я адсяку?!.

— Маліся, сын, і пасьціся і гасподзь бог памілуе цябе і правазі нясе.

Айцец Анісім перахрысьціў яго і пайшоў далей рабіць абгляд, а «грэшны» Ахрэм прычыніў дзьверы сваёй кельлі, прыслухаўся да крокаў ігумена і ўноў заваліўся да сьценкі.

Прайшоўшы па ўсіх кельлях, айцец Анісім даў, каму трэба было, належныя настаўленьні, рады, пахрысьціў усіх-сустрэчных і папярэчных, зрабіў некаторыя распараджэньні на гаспадарцы і, урэшце, зайшоў у сваю кельлю, каб крыху адпачыць.

Прысеў. Цяжка перавёў дыханьне. Пагладзіў рукою доўгую клінаватую бародку, якая выступала белай ручайкай льну з-пад доўгага тонкага, крыху кручкаватага носу. Чорныя, выцьвіўшыя ад старасьці, вочы бяссэнсна моргалі, ня то—блудзілі дзесьці ў паветры.

Яшчэ ня ўсьпеў айцец Анісім сабрацца з якой-колечы думкай, як ціхі стук у дзьверы парушыў яго спакой.

Стрыгануў вачыма. Паморшчыўся, аднак хутка прыняў, звычайны для яго, строга-набажны від і сказаў—прашу.

Нясьмела і сукромна ўвайшоў яго паслушнік.

— З якою весьцію?—Ціха зьвярнуўся да яго айцец Анісім, даў пацалаваць яму сваю руку і мэханічна блаславіў яго.

— Прышоў стараста царкоўны Грыгор; той самы, што быў у нас пазаўчора,—усё так-жа ціха паведаміў паслушнік і парабскі схіліў уніз галаў.

— Хай войдзе — загадаў ігумен, паправіў на аналоіку вялічэзную пэргамэнтную кнігу з срэбным крыжам на ёй і ў чаканьні схіліўся над столікам, што стаяў перад ім.

Цераз хвіліну, няўмела ступаючы і спатыкаючыся, увайшоў Грыгор.

Гэта быў нізенькі чалавечак з аграмаднаю калматаю галавою і маленькімі жывымі і жорсткімі жоўтымі вачыма.

Вопратка бедная. Доўгая белая саматканая сарочка, падпяразаная чырвоным з узорамі самаробным паясом, даходзіла амаль-што да самых палатаных каленак.

Босыя ногі, як і рукі, кідаліся ў вочы сваёю непамернаю вялічынёю і такою бруднасьцю, што, здавалася, быццам бы ён толькі-што воз сорак гною ў полі рукамі разьбіў. Відаць было, што мала сьветлых хвілін бачыў у жыцьці гэты чалавек.

На момант спыніўся ля дзьвярэй. Урэшце, ступіў крокі два наперад ды кініўся прад ігуменам на каленкі.

Ігумен даў пацалаваць яму руку і нярухома пачаў чакаць.

— Сьвяты айцец, уладыка,—узрушана пачаў стараста,—жытцо наша гіне!.. А дажджу як няма, дык і няма! усе поле... сонца усё выпальвае... з голаду, значыцца, прыдзецца памерці... а суседзі мае лаюць мяне... значыцца, і наш поп-айцец маліўся і другі бацюшка маліўся і вы, сьвяты айцец, маліліся і шаптуноў ужо мо' з дзесяць малілася, а дажджу як няма, дык і няма! . Чорт яго ведае!.

— Супакойся, сын,—папрабаваў айцец Анісім супакойваць Грыгора.

— Дык дзе-ж, бацюшка бачылі?.. дык суседзі-ж мне жыцьця ніякавага не даюць, значыцца, лаюць мяне... «Ты,—кажуць,—гадзюка, грошай папу (значыцца, вам, бацюшка) не аддаў, а прапіў, кажуць іх, а поп, кажуць, за гэта кепска памаліўся, таму і дажджу, кажуць, няма»!.. Дык, я думаю, сьвяты айцец, мо' яшчэ з разочак можна памаліцца ды каб ізноў з гэтым самым, як яго!.. з гэтым?.. з крапілам!?.

— Супакойся,—па хвіліне маўчаньня, з ноткай нездаволеньня ў голасе, прагаварыў айцец Анісім,—гэта ўсё за грахі, за грахі за нашы цяжкія, за праступкі... 'але будзем маліцца: бог міласьціў!

Уздыхнуў. Сашчапіў рукі. Падняў вочы ўгару.

— Многа ёсьць на сьвеце сваявольства, непаслушэнства, бясчынстваў і гэрэсяў бога-праціўных, і гасподзь бог наш карае за гэта нас!...

— Вось гэта дык праўда!.. Яй-богу, праўда!—пачаў паддабрывацца Грыгор,—шмат, ой шмат, мы, бацюшка, вінаваты... вядомая рэч—халопы.. Яно так і ёсьць, што халопы... але-ж, бацюшка, мне ніякавага жыцьця няма ад іх! Хто вінават?—Стараста? Ты, кажуць, стараста, грошы браў, а ці-ж я сам маліўся?. . вельмі я шмат разумею ў гэтым маленьні?... Вот, скажам, як баран у новых варотах?!. А за ўсё адказвай стараста!.. Ну дык ці-ж гэта-ж добра?.. га?.. Бацюшка маліўся і

ўсе маліліся, а я толькі грошы плаціў... што я ведаю, як тут што?!. Усе маліліся, а бог ні капелечкі не дапамагае... мо' і я тут вінаваты: мо' рука ў мяне такая: цяжкая?.. хто яго ведае?!

— А не дапамагае таму,—пачаў забараняцца айцец Анісім, —таму, што сярод пшаніцы ёсьць плевелы!.. і з-за іх нас гасподзь-бог наш і карае, ня ўнемле маліцьве нашай... Так-так!.. Токмо малітва шчырая і гарачая, пакаяньне і добрыя ўчынкі вывядуць нас на пуць ісьціны... і гасподзь-бог тады ніспашле нам благадаць сваю!..

— Так-так, бацюшка, разумею, разумею,—перабіў ігумена Грыгор,—дык кажаце, што тутацькі Плевіл якійсьці вінават?.. Ды я, каб убачыў яго, то яй-богу-ж на шматкі разарваў-бы!

Грыгор скамячыў кулакі, нібы ён вось-вось з кім у бойку ўступаў, і так гэраічна пасунуўся з імі да айца Анісіма, што той аж зьбялеў ды рукі ад страху расставіў, як-бы забараняючыся ад нападу.

— Супакойся, сын!—урэшце выгукнуў ён здаўленым голасам,—што гэта? Гэта смуцьянства!..

Грыгор адхіснуўся назад, як паднятая былінка касою.

—Не—не—не, бацюшка; вы ўжо і перапужаліся?.. Я толькі так... бачыце, мужчыны лаюць мяне...

Змоўк і сагнуўся ля дзьвярэй, нібы просячыся, каб яго хаця ня білі тут.

— Грэшнікі мы ўсе і плевелы мы самі,—ізноў пачаў айцец Анісім навучальным тонам, але раптам абарваўся, бо ў гэты момант ізноў пачуўся стук у дзьверы.

Зноў увайшоў паслушнік.

— Хто яшчэ якую патрэбу да нас мае?

— Друкар прышэд.

Айцец Анісім палахліва прыўстаў.

Хто-хто?—запытаўся ён узноў.

— Друкар нейкі, заве сябе Скарынаю.

— Друкар Скарына?!—Ускрыкнуў ад зьдзіўленьня ігумен і тройчы перахрысьціўся,—упасі, госпадзі, ад гэрэціка!.. ад наважджэньня дзьявальскага!..

Затарапіўся. Пералажыў левую нагу цераз правую, потым правую цераз левую, потым уноў левую цераз правую, а, урэшце, прыўстаў і ўжо зусім звычайна сеў.

Пальцамі пачаў кнігу церабіць і папраўляць на ёй крыж срэбны, які й бяз гэтага ляжаў акуратна; другою рукою схапіўся за залаты крыж, што вісеў у яго на грудзёх.

— Вайдзеце—дрыжачым голасам папрасіў айцец Анісім.

Грыгор крокі два адступіўся ў кельлю і ўставіўся вачыма ў дзьверы.

Роўнаю і цьвёрдаю паходкаю ўвайшоў Скарына. У кожным яго руху адчувалася спакойная гордасьць, паважнасьць і сіла.

Прывітаўся. Заўважыўшы неспакой ігумена, паморшчыўся і на момант адвёў убок свой погляд.

— Выбачайце, вы будзеце ігуменам?—спакойна і ветла спытаўся ён у айца Анісіма.

— Так-так-так!..

— Я—доктар Скарына!..

— Так-так... вельмі рад... садзецеся, калі ласка.

Скарына прысеў на пададзенае паслушнікам крэсла.

— Справа вось у чым,—пачаў ён цераз некалькі момантаў,—я—доктар лекарскіх навук Скарына (я думаю, што вы крыху аба мне чулі?).

— Так-так-так,—у знак згоды затараторыў айцец Анісім.

— Дык вось,— працягваў далей Скарына,—а цяпер я тут кірую друкарняй...

— Вельмі цікава,—перабіў яго ігумен,—я дык ні разу гэтай рэчы ня бачыў... Што там такое... ведаю, што кніжкі там неяк пішуць, а як?..

— Ня дзіва, што вы ня ведаеце,—з гордасьцю заўважыў Скарына,—друкарні ёсьць толькі ў немцаў, у чэхаў, да вось я ўтварыў, у нас, а больш нідзе, ні ў адным краі ня знойдзеце...

Твар яго засьвяціўся чуць прыкметным сьветам ціхай і цёплай радасьці.

— Гэта спанарад такі:—дабавіў ён цераз некаторы час,—рэч, праўда, хітравумная,.. Тут і варштат, і літары, і вузоры, і шмат чаго іншага... наогул, лепей было-б, каб вы калі-небудзь самі да нас зайшлі...

Грыгор увесь час стаяў ля сьценкі нібы слуп і толькі часта вачыма ўспаленнымі лыпаў.

— Іш ты,—толькі вырывалася, падчас, у яго з вуснаў,—га?..

Айцец Анісім таксама замёр на адным месцы і толькі мацней сьціскаў рукою крыж залаты.

— Я прышоў да вас, айцец ігумен,—прыступіў проста да справы Скарына,—каб утварыць з вамі адну згоду, згоду вельмі вялікага значэньня, згоду ня толькі карысную для мене, для вас, але і для ўсяго нашага краю.

— Так... чаго хошчаце вы ад мяне, грэшнага раба божага? — устрывожана запытаўся ігумен і тарапліва-недаўменна заморгаў вачыма.

— Я хацеў-ба-б запрасіць вас да сябе ў супольную справу?..

— Што вы?.. што вы?...—яшчэ больш напалохаўся ігумен,—

мая справа сукромная: памаліцца за душы нашы грэшныя... гэта так...

— Паважаю гэта,—ветла сказаў Скарына, але бачыце, цяпер сьвет стаў крыху інакшым, як быў раней, цяпер людзі пачалі навучацца прамудрасьці рознай жыцейскай... Я быў на Захадзе... Там народ жыве інакш ад нашага, у многа крат лепей... Там многа вучоных, нават людзі паспалітыя, простыя, там шмат праўсьпялі ў навуцы, а ў нас—цемра. А нявучоныя людзі—гэта тая-ж самая жывёла, толькі-што душа ёсьць, але душа гэта... сьляпая... Вучоны чалавек і жыцьцё сваё ўмее лепей утварыць... Ад нявучонасьці шмат зла на сьвеце і несправядлівасьцяй...

Вось я і думаю, што і ў нас ужо пара пачынаць вучыць люд. Патрэбна шмат кніжак... таму і залажыў я тут сваю друкарню... Хай сеюцца веды... Хай будзе сьветла і прыгожа і ў нашай староньцы.

Спыніўся. А айцец Анісім, схіліўшы на бок голаў глыбока аб чымсьці думаў. Не варушыўся. Сядзеў, нібы зачараваны.

Скарына казаў далей:

— Я маю друкарню, я маю майстроў, а вы дапамажэце мне сродкамі?.. Наконта прыбытку, я думаю, мы таксама згодзімся.

— Ха!..—бы ад сну абудзіўся айцец Анісім,—а нашто-ж вам люд праваслаўны?. вы-ж католік?.. Нашто, мы мы вам?!. Га?!.. вучэце католікаў?!..

Гэтыя словы былі так шчыра-фанатычна і ў той-жа момант нечакана сказаны, што ў Скарыны адразу па ўсіх нэрвах драпанула і па твары забегалі цені адна хмурней другой.

Аднак, ураз-жа аправіўся. Усьмешка скрывіла вусны. У вачох бліснуў аганёк.

— Дык, па вашаму, я ня маю права для свайго народу працаваць?!—адказаў Скарына запытаньнем і бліжэй нахіліўся да ігумена.

— Хэ-хэ-хэ!—кпліва захіхікаў айцец Анісім,—якое-ж тут права, калі вы самі, па сваёй уласнай ахвоце, зракліся гэтага «люду паспалітага», зракліся яго веры!.

— Дазвольце, айцец ігумен,—абарваў яго Скарына,—бог—адзін, але-ж там... а, урэшце,—гэта мая асабовая справа!. А калі хочаце ведаць, чаму я перайшоў з праваслаўя ў каталіцтва, то дазвольце вам паведаміць, што гэта было тагды модным, як і цяпер, я быў маладым, але самае галоўнае. гэта мне трэба было атрымаць асьвету вышэйшую ў Кракаўскім унівэрсытэце, а праваслаўных туды ня прымалі... але цяпер гэта каталіцнасьць для мяне ня мае аніякага значэньня...

Паміж іншым, трэба згадзіцца з тым, што ў каталікоў царкоўная справа больш арганізавана пастаўлена, чым у праваслаўных, там хутка вар'ятамі пастануць усе: дыхнуць нельга!.. асабліва ў Польшчы...

— А ўсё-ж вам міла яшчэ каталіцтва: усё-ж вы яго яшчэ ня кінулі?.. Што-ж будзьце каталіком, а нас праваслаўных пазбаўце ад інквізіцый і іншых богапраціўных спраў!..

— Айцец ігумен,—раптам узрушыўся Скарына,—Да я-ж працую для праваслаўных... Аб каталіцтве я толькі так гавару, а для мяне ўсёроўна... Я вам кажу, што мне трэба было вучыцца, ну таму ўзяў дый перайшоў у каталіцтва... Мэтаў рэлігійных я ніякіх ня маю: гэта мяне ня цікавіць...

— Рэлігійных мэтаў, кажаце, ніякіх ня маеце?—усё наступаў айцец Анісім,—а з майго кляштару, дык, па вашаму, і можна ўтварыць вярцеп разбойнікаў ?.. Га?!

— Айцец ігумен,—спакойна зазначыў Скарына,—вярцепаў ніхто ніякіх ня будзе утвараць, мы будзем толькі кніжкі друкаваць, кніжкі добрыя, рэлігійныя і ня ў кляштары!.. Вы дайце толькі сродкі?!..

— А сказаць, па праўдзе,—пачаў ігумен, скрывіўшы хітранькую грымаску,—нашто гэтыя кніжкі? каму яны патрэбны?.. Я лічу, што яны нават шкодны!..

— Як-та?—зьдзівіўся Скарына,—кнігі шкодны?.. вы хіба жартуеце?!..

— Я—ігумен, і мне жартаваць не належыць!..

— Прабачце. Але можа будзеце ласкавы растлумачыць, чаму, павашаму, кніжкі шкодны?

— Зусім проста,—пачаў гіранічным і высокамерным тонам ігумен,—вы былі ў немцаў і бачылі, што там робіцца?.. Як гэта вам падабаецца?.. Што робяць там халопы? Ёсьць там права хоць якое, ці закон?.. Ці можа лепей, каб раб сваім гаспадзінам кіраваў?.. Га?.. А хто ў гэтым вінават?..

— Я інакшай думкі трымаюся,—толькі ўставіў Скарына.

— Не-не... вы не перабівайце,—ужо зусім пасьвецкі разважаў і спрачаўся айцец Анісім,—дайце дакончыць... А чаму ў немцаў столькі гэрэсяў розных зьявілася?.. Хіба ва ўсім гэтым ня кнігі вінаваты?... Кніга і толькі кніга!..

Скарына маўчаў ды толькі пільней прыглядаўся да ігумена..

— Дык, па вашаму, люд наш трэба так і пакінуць у цемры, без асьветы, у нішчаце?!—абурыўся Скарына,—трэба, каб ён толькі жывёлаю застаўся?.. Да вы, бадай і ў хрыста ня верыце?!

— Гэта вы мо' ня верыце?!—энэргічна абарваў яго прамову ігумен,—люд трэба навучаць, я не кажу, што ня трэба,

але навучаць яго належыць ізусна—так, як у нас, на сьвятой Русі, з даўных заведзена!.. Вось як!

Скарына паморшчыўся, насупіў густыя бровы і моўчкі ўзьняўся з крэсла. Склаў на грудзёх рукі, разы два павярнуўся па кельлі ды ізноў застанавіўся супроць айца Анісіма.

— Дык кніжак, значыцца, не патрэбна нікому?

— Для «лепшых» людзей хопіць кніжак, што напішуць схімнікі і манахі... А падругое, вы-ж самі ня духоўнік: што вам да гэтае нявучонасьці халопскае?.. Якую вы маяце праву у гэтыя справы ўмешвацца?.. Вы дохтур—ну і лячыце сабе людзей, дапагайце ім у нядугах іх цялесных?.,

— Вы кажаце, што ад кніжак зьяўяцца беспарадкі, а я кажу, што гэтых беспарадкаў у сто крат будзе больш, калі люд будзе не асьвечаным... Цяпер час такі, што ў многіх старонках жыцьцё старое ломіцца; ёсьць, бязумоўна, і беспарадкі; вядомая рэч: кожны раз пры перабудове бывае гэта...

Аб гэтым аб усім чуткі даходзяць і да нас, люд прыслухоўваецца, бярэ сабе ў глузд, могуць і ў нас такія беспарадкі пайсьці!, бо няпісьменны люд усё бярэ на веру, а сам ня можа зьверыцца па пісаньнях. Асьвета людзей паспалітых накіруе толькі на добры шлях... Дапамажэце нам?!.

— Ха-ха-ха!.. дапамажэце,—разыйшоўся айцец Анісім,—вы думалі, што калі вы будзеце там на сваёй гэтай друкарні па сто кніжак у дзень пісаць, ды танна іх прадаваць, дык у кляштару ўвесь даход адаб'еце, прымусіце манахаў з голаду паміраць, думалі, што манахі кніжную справу так і акінуць? Ха-ха-ха! З намі бог!.. Да я вас і вашы кніжкі праклёну прадам, так што ў вас ніхто ні аднэй ня купіць!.. А я—сто манахаў і схімнікаў богаўгодных за пісаньне кніжак засаджу, і мы вашэ дзьявальскае наваждзэньне, вас і вашу друкарню,—пераможам!.. З прававернымі бог!..

— Калі так, дык я вас магу ўпэўніць што праз якіх-небудзь пяць год на вашы кнігі нават ніхто і зірнуць не захоча!.. Я-ж сваю кніжку у сорак крат таньней прадам чым вы!.. На вашы праклёны і увагі ніхто ня зьверне!.. Я вось прапаную: ідзеце ў супольку да нас, дапамажэце нам сродкамі, і будзе для ўсіх вялікая карысьць...

Апрача таго, калі ваш кляштар пачне друкаваць кніжкі, то вы будзеце праз іх мець вялікі ўплыў на паспаліты люд, вам будзе надзвычайна лёгка змагацца з каталіцтвам: народ увесь пойдзе за вамі!.. Падумайце на гэтым, айцец ігумен... будучыя пакаленьні будуць падзячны вам за гэту вялікую справу?.. Падумайце!...

Змоўк. Энергічны, бы з сталі выкуты, твар пылаў агнём,

а па лобе і шчаках ўжо даўно каціліся, як град, буйныя сьветлыя кроплі.

Айцец Анісім маўчаў і аб чымсьці мазгаваў, закрыўшы жоўтаю худою рукою падсьлепаватыя вочы.

Скарына ўважліва сачыў за ім і напружана—нецярпліва чакаў адказу.

Так прайшло некалькі хвілін.

— Бачыце, тут справа такая,—нерашуча пачаў айцец Анісім,—дапамагчы вам, ня ведаю, можа й можна было-б, але-ж я сам, адзін, не магу... Яно-то мо' й добра было-б? Я хіба параджуся з некаторымі манахамі старэйшымі, са схімнікамі богаўгоднымі?..

— Айцец ігумен, ведайце, што зразумелая для простага люду кніжка надзвычайна лёгка паб'е і гэрэсі, і каталікаў. і каго хочаце.. А кніжку я ўжо выдам добрую. Цяпер нават і немцы ня могуць выдаваць такіх прыгожых кніжак, як я ды, апрача таго, я здолею выдрукаваць кніжку, зразумелую для кожнага.

Так-так, добра-добра...

— Я буду чакаць на вас...

— Добра-добра... я параджуся са схімнікамі... хаця наперад не абяцаю...

— Дый што-ж вам, урэшце, мучыцца пісаць кніжкі, калі іх друкаваць у сто крат лягчэй?!.

— Добра-добра... мы падумаем... Вы на-днях мо' наведаецеся да нас.

— Добра.

Скарына разьвітаўся і пайшоў.

— Адно кепска, што каталікам лічыцца, а то мог-бы быць вельмі карысным чалавекам,—сказаў услых ігумен.

— Бацюшка!—раптам азваўся Грыгор, які ўвесь час стаяў у кутку,—ды гэта мо' і ёсьць той Плевіл?...

— Які Плевіл?—зьдзівіўся забыўчывы ігумен.

— А той, што бог дажджу не дае з-за яго?..

— Ня ведаю.

Айцец Анісім пацёр лоб рукою і задумаўся.

— А што-ж будуць кнігапісцы-манахі мае рабіць, калі гэту друкарню завесьці?--раптам стукнула яму ў голаў,— наваждджэньне дзьявальскае!..

Устаў. Некалькі раз перахрысьціўся. Пацалаваў чорную ікону.

— Так мой сыну, зьвярнуўся ён пасьля гэтага да Грыгора, сумна-дрыжачым і балесным голасам,—хоць ён і вучоны, але ён плевела шкоднае... богапрадаўца!.. Ён зрокся сваёй веры,

законаў дый яшчэ думае навуку пашыраць!.. Смуты ён зьбіраецца сеяць, цэрквы божыя нішчыць! .. Сатанін сын, Лютар ён акаянны!..

— Бацюшка!—заенчыў раптам Грыгор, — ня вытрымаю, яй-богу ня вытрымаю!..

Айцец Анісім акінуў Грыгора дзікім і недаўменным поглядам, у якім разам з гэтым і запытаньне выражалася «Ці здолееш, ці хопіць сіл? Раптам здрыгануўся, махнуў рукою і сказаў—ідзі.

— Дык не, бацюшка—сьвяты айцец, а як-жа што мужчыны лаюцца?

— На днях я буду ў вас... памолімся...

Грыгор пацалаваў ігумену ў руку і выйшаў.

— Рабі, што хочаш... хай дапаможа табе бог, а я... умываю рукі...—сказаў наўздагон Грыгору ігумен, апусьціўся прад іконаю на калені і пачаў маліцца...

Хвілін праз некалькі прачыніліся дзьверы і ў кельлю ізноў прасунулася лахматая галава Грыгора.

Бацюшка,—патаёмна спытаўся Грыгор,—а дзе ён жыве?..

— Ня лезь,—пачуўся знадворку голас,—я табе скажу!

Дзьверы кельлі зачыніліся.

— А, Ахрэмка?.. Ну як ты жывеш?—пытаўся Грыгор ўжо на дварэ.

— Дармо...

— Але ведаеш, братка, ось хвост ужо, дык хвост! а—я—яй!..

А айцец Анісім узьняўся з каленак, схапіўся рукамі за галаў і, хістаючыся падышоў да крэсла і ўпаў у яго, як падбіты...

III.

З кляштару Скарына накіраваўся ў сваю друкарню, якая зьмяшчалася ў доме бурмістра гораду Вільні Якуба Бабіча.

Ішоў і думаў.

А летні дзень хвіліна-ад-хвіліны ўсё больш і больш сьвятлеў, разгараўся. Сонца чаравала ўсё наўкол, сваім сьмехам трапятлівым, прымушала ўсё жыць, радавацца, цьвісьці.

Сьпявала птаства.

Горад варушыўся, як мурашнік, шумеў.

Толькі-ж Скарына быў заняты сваім. Рой думак вярцеўся ў яго галаве, цэлы натоўп пачуцьцяў розных атуляў яго сэрца.

— Мабыць, кепска я зрабіў,—думалася яму.—што сказаў ігумену, што карыстаючыся друкам, будзе лёгка з каталіцтвам змагацца?.. Кляштар, напэўна, за гэта ўхопіцца дый мо' захоча

ўсялякую бязглузьдзіцу друкаваць?.. А тут кніжка патрэбна звычайная, на нашай мове, для навукі людзем паспалітым, дзецям малым?..

Сродкі то яны дадуць, толькі ці згодзяцца кніжкі такія друкаваць, якіх мы хочам? Хіба прыдзецца ўтлумачыць ім... Значыць, крыху падвесьці іх... Вось жыцьцё: за капейкі, за грашы няшчасныя прыходзіцца душою крывіць!?.. А дзеля чаго ўсё гэта мне?.. Толькі-ж хто, апрача мяне, возьмецца за такую справу?...

І бог на гэта спакойна пазірае?.. Чаму яго праўда гэтак далёка ад нас?.. А мо' яе і зусім няма, мо' наўкол, усюды толькі пустэча?..

Чалавек, камень, дрэва... ну якая розьніца паміж ім?.. Чаму чалавек памірае, чаму яго чэрві ядуць таксама, як і каня здохлага, сабаку?..

Божа, божа!.. Прабач мне!.. Хаця адкуль і што я ведаю?..

— Мітвох грошай прасіў,—раптам, як з-пад вады, усплыла думка,—добры, шчыры чалавек і, покуль што, найлепшы з майстроў у друкарні... Хоча боты купіць... Яно-то і трэба было-б даць; ён такі і, сапраўды, чуць ня босы ходзіць... даць трэба... мо' ў бурмістра што-колечы ёсьць... а ў мяне хоць бы грыўня за душою!.. ах!..

* * *

Друкары Скарыны, тым часам, пільна працавалі. Іх было толькі траіх: немец—Мітвох і два тутэйшых—Даніла і Цімох. Сапраўднымі майстрамі лічыліся толькі двое: Даніла і Мітвох. Цімох быў значна слабейшым ад іх.

Сёньня да працы яны прыступілі раней звычайнага, бо пачалі набіраць апошні разьдзел кнігі і ім хацелася што найхутчэй скончыць набор; праз якіх-небудзь два дні, да нядзелі. Скончыўшы раней працу, у сьвята можна было-б і «дыхнуць вальней і пагуляць, што называецца»...

Працавалі. Калі-ні-калі перакідваліся адным—двумя словамі, жартавалі.

— Даніль!.. а, Даніль!..—Пазваў сябру Мітвох.

— Слухаю,—сур'ёзна адказаў той, не пакідаючы працы.

— Ты чаму такі сур'ёзны?

— А ў чым справа?

Мітвох пашавяліў чорнымі густымі брывамі, усьміхнуўся і даў сабе пад бараду пстрычку.

Даніла засьмяяўся.

— Што гэта за штука, немец?

— А ты ня ведаеш?.. Скажы, Даніль, ці дасьць нам дохтар к сьвяту на піфца?..

— Каму што, а курыцы крупы...

Момантаў некалькі памаўчаў, паправіў на століку лісты, з якіх набіраў, дабавіў:

— Чаму - ж не?.. Я думаю, што дасьць, абы было... не пашкадуе...

— Ужо ізноў хочацца піфца выпіць.

— Абавязкова піўца?..

— Немец піф любіць...

— А яшчэ што?..

— Го-о-о!..

— Ну, скажы ты мне, братка, па праўдзе: маеш ты цяпер якія-колечы зьвесткі ад сваёй Міны, ці не?..

Мітвох страпянуўся, як ужалены. Пачырванеў. Патупіўся. Потым зусім зьмяшаўся.

— Н—не!.. Н—ня ведаю... ня варта гафарыць,—сказаў ён, урэшце, дрыжача—ўпрашаючым голасам і апусьціў вочы ўніз,— гэта быль так дафно... я ня ведаю.., мо?..

— Мо' ўжо замуж вышла?!.—пажартаваў Даніла,—ды яно так і будзе!.. Хіба-ж ёй чакаць покуль валасы на галаве не пабялеюць?.. Дый ты-ж ужо стары: бадай, гадоў сорак будзе?..

— Будзе,—ціха адказаў Мітовох і пільней пачаў набіраць. Пальцы хвіліна-ад-хвіліны ўздрыгвалі і з іх падалі на падлогу літары...

— Ня журыся, браток,—пачаў супакойваць свайго сябру Даніла.—На сьвеце ўсяляк бывае... Вось пабудзь яшчэ ў нас троху... Хай падвучыцца крыху Цімох... Тагды мы цябе адпусьцім... Міна твая мо' яшчэ пачакае цябе?..

— Ай, кінь! Многа ты ўжо набраў?..

— Што гэта ты, Мітвох, сёньня такі сур'ёзны?... Ха-ха-ха!?

— Чаго пытаеш?..

— А чаго-ж ты, Даніль!? Го-о-о!..

— Думаеш, што і ў мяне Міна ёсьць?·. не, няма...

— Ня круціся.

— Не; сапраўды, няма.

— Баба ты, а не чалофек!

— Калі захачу, то дзесяць буду мець, а ты страціў Міну і другой ня знойдзеш!.,

— Кіньма аб гэтым!.. Можа хутка я сабе нофы бот куплю...

Даніла нездаволена ўхмыльнуўся.

— Нашто табе новыя боты, старому?

— А што-ж: працафаць, працафаць дый нічога ня мець?

— Галава твая!.. У труну з сабою ўсё-роўна ня возьмеш!?

— Сьмешна!.. Я паеду яшчэ дадому. Дык усё будзе патрэбна.

— А чаго табе ехаць?.. Хіба тут кепска?..

— Тут мне смутна. Ужо нямала я тут жыву, а на дом не забыцца аніяк... Паеду, усёроўна паеду!.. ня вытрымаць!.. **Vaterland, libe Vaterland!..** (бацькаўшчына, мілая бацькаўшчына!..).

На вачох у Мітвоха навярцеліся сьлёзы. Ён ізноў сутуліўся над столікам і ізноў пачаў шпарка набіраць дрыжачымі пальцамі, стараючыся ні на каго не пазіраць.

Даніла, заўважыўшы настрой Мітвоха і ведаючы, як кепска на ім адбіваюцца жарты (заўсёды, пасьля такіх напамінаньняў аб Міне і бацькаўшчыне, Мітвох па цэлых днях сумаваў: суцішаўся, амаль-што ні з кім нічога не гаварыў, імкнуўся быць на самоце, нават адмаўляўся ад яды), адразу стаў уноў сур'ёзным і пачаў гутарыць з Цімахом.

* * *

У калідоры пачуліся крокі, і ў друкарню ўвайшлі Скарына і бурмістр Якуб Бабіч.

— Ну, як справа ідзе?—ветла спытаўся ў друкароў каранасты, плячысты бурмістр. Сінія крыху задуменныя, вочы бліснулі з-пад чорных, як аксаміт, броваў, засьмяяліся ласкавай радасьцю.

— Нічога... добра,—адказаў, з павагай да бурмістра, Даніла,—яшчэ крыху ёсьць працы.

— Хутка скончыце?...

— Да нядзелі думаем.

— Ага.. добра-добра... так... цяпер, паважаныя працаўнікі я магу вам крыху грошай даць,—сказаў бурмістр, і пры гэтым дастаў з кішэні вялічэзны партманэт і даў друкарам па некалькі зьвёртачкаў з манэтамі.

— Покуль-што небагатка,—дабавіў ён,—у хуткім часе справы нашы мо' палепшацца; наш паважаны доктар і кіраўнік у гэтым можа заўпэўніць нас.

— Дзякуем і за гэта... трэба жыць і меркавацца,—адказаў Даніла.

— **Danke sehr!... Danke sehr!**—крычаў узрадавана Мітвох,—цяпер пайду і зараз-жа куплю сабе нофы бот! Эх, жыфе я!..

— Так—так, абавязкова,—падтакнуў яму бурмістр і пачаў разглядаць нядаўна прыгатаваныя Скарыною клішэ.

Скарына-ж стаяў непадалёку ад Данілы, каля століка, і набіраў.

— Скажэце, доктар,—спытаўся ў яго Даніла ўзяўшыся

ўноў за працу,—што за мажлівасьць палепшыць нашу справу у вас знайшлася?

— Мажлівасьць ёсьць,—адказаў Скарына,—і мажлівасьць дужа цікавая!

І ён рассказаў Данілу аб сваім наведваньні ў кляштар і гутарцы з ігуменам.

— І што з гэтага выйдзе?—спытаўся Даніла, калі Скарына скончыў апавядаць.

— Покуль-што нічога асаблівага, але трэба спадзявацца, ва ўсякім разе хоць разварушыў іх крыху, прымусіў страхнуцца ад пылу, абудзіцца ад сну... Ах, а багацьці якія там, у гэтым кляштары!.. каб нам хоць дзесятую долю гэтага!..

— О, го-го!

— На днях трэба ўноў зайсьці ў кляштар,—працягваў далей Скарына,—ігумен абяцаўся парадзіцца з сваімі старэйшымі манахамі.

— Тады мы зажылі-б!...

— Так.

Падышоў бурмістр.

— Аб чым вы тут талкуеце?...

Скарына адказаў.

— Але вы, доктар, бяз працы напэўна, ня можаце жыць, як рыба без вады?—поўжартаўліва заўважыў бурмістр,—ну, але хоць бы адну хвілінку пагулялі?...

— Покуль жывы—трэба працаваць, а адпачнем, як памром.

— Так-то так, але...

— А мне нешта ня верыцца, што нам ігумен можа дапамагчы?—раптам усумніўся Даніла.

— Чаму-ж?—спытаўся бурмістр.

— Я ігумена Троіцкага кляштару ведаю, Гэта фанатык сваёй справы і, апрача таго, надзвычайна вузкі чалавек па сваёй натуры... Малая з яго карысьць будзе!

— Я таксама, па праўдзе сказаць, крыху сумляваюся,—агадзіўся бурмістр.

— Бачыце, я на справу гляджу іначай,—заўважыў Скарына,—я думаю ўсё-ж, што мне ўдасца ігумена ўламаць... Нам самае галоўнае зрабіць хоць з адзін зварот грошай, а тады мы нажывём і свае ўласныя і духаўнікоў розных і знаць не захочам.

Падумайце: ня людзі, а непаразуменьне нейкае; мы бяромся дапамагаць ім адукоўваць людзей і ў гэты момант трэба амаль - што на каленках вымальваць у іх грашы медныя! «Вы, кажа, доктар, дык ня маеце права ўмешвацца ў адукацыйныя

справы», а сам ён, дык амаль—што сапраўдны шаптун... Але прыдзе час!..

— Юры Лукіч,—паважна і ветла пачаў у сваю чаргу бурмістр,—я лічу, што супроць духаўнікоў выступаць покуль-што ня варта і ня можна. Трэба ўзгодніваецца з імі. Добра было-б, каб у нас, на Беларусі, свая ўласная царква ўтварылася, але-ж гэта невядома.., Каталіцтва, зразумела, толькі шкоду прынясе: апалячыць наш народ, а, ў згодзе з праваслаўным духоўніцтвам, мы будзем заўжды лепшы уплыў мець на люд паспаліты, які яшчэ ўпорчыва трымаецца праваслаўя... Можа ў нас, як і ў немцаў, пашырыцца вучэньне Лютара, тады мы зусім самастойна будзем жыць.

Пры апошніх словах бурмістра Скарына раптам нахмурыўся. Па твары праскочыла нэрвовая ўсьмешка.

— Лютаранства--глупства чысьцюсенькае. Я толькі дзіўлюся, чаму яго (Лютара) вучэньне распаўсюджваецца ў Нямеччыне?.. Хто мог-бы гэтак здрадніцкі падвесьці свой люд, паспаліты люд у васаблівасьці, як Лютар. Узбурыць сялянства, падштурхнуць яго да змаганьня за сваю долю, а потым праклінаць яго і заклікаць князёў і шляхту «вешаць сялян, як сабак»—гэта зрабіць мог толькі Лютар!..

А калі я яму напомніў аднойчы пра гэта, дык ён мяне антыхрыстам абазваў, зрабіўся маім ворагам лютым!.. Не, лютаранства—гэта недарэчнасьць!.. Гэта—ашуканства!..

З праваслаўем было-б мо‘ і дармо, але-ж з імі нельга паладзіць?..

— Я вас разумею, але-ж мы яшчэ покуль-што слабенькія... Трэба покуль-што ладзіць... Бязумоўна, прыдзе час, калі царкоўныя прамовы ня будуць адзінай крыніцай асьветы народу, будзе ў нас шмат кніжак, будзе шмат школ для ўсіх людзей: і для лепшых і для паспалітых, гэтак званых «подлых».

— Згадзіцца цалкам, паважаны мой бурмістру, не магу: у нас з духоўнікамі розныя шляхі: я ведаю, што яны пішчом трымацца будуць за старую славянскую мову і захочуць толькі на ёй кніжкі друкаваць, а славяншчына ўжо незразумела людзём паспалітым... З славяншчынай трэба змагацца!.. За граніцай ужо ўсе заходнія народы пачынаюць кідаць латынь, кожны народ пачынае ўжываць і ў навуцы сваю родную мову... Ня трэба быць і нам сьляпымі...

Тут мы з духоўніцтвам рана, ці позна, а разойдземся .. Эх, беднасьць наша!

— Нічога ня зробіш,—ціха адказаў бурмістр і задумаўся. І ўноў яго вочы, як блакіт задуменна—ціхія, сінія, кудысьці ў далячыню сягнулі.

— Хадзем, доктар, да мяне,—сказаў, па хвіліне задуменьня, бурмістр.

Скарына пакінуў працу, і яны ўдваіх, гутарачы паміж собку, вышлі.

* * *

— Хадзем, Цімох бот купляць,—гаварыў Мітвох да другога свайго сябры, калі яны ўсе ўтраіх выходзілі з друкарні, каб ісьці папалуднаваць.

Цімох, здаравенны белабрысы хлапіна, спачатку пачухаў патыліцу, хаўкнуў разы два, гледзячы на сонца і, урэшце, апатычна прамямліў:

— Хадзем. Чаму-ж не?...

Пашлі.

Пасьля полудню Мітвох прышоў у друкарню з новымі ботамі.

Даніла, насупіўшыся, ужо працаваў.

— Ну, як мой бот?—спытаўся у яго Мітвох.

Той узяў нехаця ў рукі адзін бот, пакамячыў яго крыху, паціскаў пальцамі падашву ды моўчкі паставіў да сьценкі.

— Ну, як?—боязка ўноў спытаўся Мітвох.

— Колькі ты заплаціў за іх?

— Рубель.

— Я лапцей добрых за іх ня даў-бы!.. куды яны варты,— зайздросьліва аценіў іх, урэшце, Даніла,—куды галянішчы варты?. Мядзьведзю іх толькі насіць: якраз яму па назе будуць!.. А-а-а-х!..

І ўжо амаль-што да самага вечару друкары працавалі моўчкі: Даніла з Мітвохам нібы-то пасердзіліся, а Цімох, наогул, заўсёды любіў маўчаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Чаму-ж ты ботаў з сабою не бярэш?—сказаў толькі Даніла, адыходзячы ўвечары дадому і заўважыўшы, што Мітвох хавае іх у друкарні.

— Не хачу... баюся, каб на кватэры ня ўкралі.

— Ну, як сабе хочаш?—холадна-ніякава адказаў Даніла, замкнуў на замок дзьверы друкарні, і ўсе ўтраіх разыйшліся хто куды.

---

## IV.

Лёгкай хмаркай праляцелі два дні; быццам іх і ня было. У пятніцу к поўдню друкары скончылі набор кніжкі У друкарню пазьбіраліся розныя магнаты беларускія, мэцэнаты. У майстэрні запанаваў вясёлы прыўзьнята-сьвяточны настрой.

— Любыя другі мае, майстры!—зьвярнўуся да сваіх друкароў Скарына, калі тыя скончылі працу,—за вашу працу шчырую, добрасумленную ад шчырага сэрца беларускі дзякуй!

Ваша праца, браты,—вялікая і пачэсная праца!.. Хай людзі нашы паспалітыя маюць карысьць ад яе. Хай навучаюцца па кніжках, якія вы ўжо некалькі год друкуеце, навукам розным! Няхай жыве і красуецца збожжам у полі наша справа друкарская! Хай цьвіце і красуецца кветкай чырваньчю наша асьвета беларуская!.. Хай жывуць і працуюць на карысьць людзям верныя сыны Беларусі, няўхільныя змаганьнікі, волаты, змаганьнікі за лепшую будучыну цёмнага люду паспалітага!

— Віват!.. віват!—ускрыкнулі ўсе.

— Няхай жыве беларуская адукацыя і яе лепшы будаўнік Скарына!.. Віват!..

— Віват!..

— Віват!..

— Паважаныя другі!—зьвярнуўся да ўсіх бурмістр Якуб Бабіч,—сёньня ў нас вялікае сьвята. Мне хацелася-б сёньнешні дзень адзначыць, як дзень асабліва для нас радасны, як дзень урачысты. Мне хацелася-б сёньня вас усіх бачыць і мець за гасьцей у сябе.

Прашу не адмовіцца і зайсьці да мяне на невялічкую трапезу!..

— Паважаныя друкары!—зьвярнуўся ён асабіста да супрацоўнікаў Скарыны,—зрабеце мне гонар сваёю прысутнасьцю на нашым сёньнешнім сходзе ў мяне, я буду вельмі рад і падзячан вам.

— Шчыра дзякуем, вельмі рады!

— Так пойдзем, паважаныя госьці!

Усе накіраваліся ў пакой бурмістра.

У багата абстаўленай залі, з старыннымі партрэтамі дзядоў і прадзядаў бурмістра, з каштоўнымі малюнкамі лепшых сваіх і замежных мастакоў і з цэлым іконастасам ікон у куце, ужо былі расстаўлены сталы і крэслы. На сталох горамі настаўлена і накладзена была ежа і закускі рознай, выпіўкі.

Госьці амаль-што бясшумна пачалі рассажвацца ў паказаныя гаспадаром месцы, па-старшынству, радавітасьці і багацтву.

Скарыну з яго супрацоўнікамі пасадзілі на першым месцы, найбольш ганаровым.

Гаспадар дому, бурмістр Якуб Бабіч прывітаў гасьцей кубкам старыннага моцнага мёду, які ён выпіў поўнасьцю.

Усьлед за ім, пачаліся прывітаньні гасьцей, пайшлі прамовы, тосты, пажаданьні.

Хвілін цераз дзесяць зашумела бяседа, загула, залілася зьветлай радасьцю вясновага дню.

Паляцелі гадзіны адна за другой, як хвалі шумнацечнай ракі... Госьці гадзін ня лічылі...

Няпрыкметна і вечар чорнакудры пад сінія вокны падкраўся, а госьці ўсё шумелі і шумелі, гутарылі.

Некаторых нарэшце і змора браць пачала.

Раптам узьняўся Скарына.

— Другі паважаныя! зьвярнуўся ён голасам зычным да грамады,—я маю зараз сказаць вам адну надзвычайна цікавую рэч. Я знарок адлажыў быў яе надалей і не сказаў спачатку...

Усе схамянуліся. Пахіліліся да прамоўцы. Замёрлі ў чаканьні.

— Я сёньня,—працягваў далей Скарына,—дагаварыўся з Троіцкім кляштарам!.. Зрабілі згоду!..

Кляштар нам дае сродкі на выдрукаваньне кніжак... Сродкі, праўда, невялічкія, як-бы для спробы, але я спадзяюся, што з цягам часу гэты кляштар стане для нас самым карысным сябром!

— Віват!.. Доктар, віват!.. няхай жыве адукацыя!—грымнула грамада.

— Доктар!... друг паважаны!—усхвалёвана гаварыў Якуб Бабіч, вітаючы Скарыну з посьпехам і цалуючыся з ім,—вы вялікі чалавек!.. Чым і як дзякаваць вам!?.

— Няхай жыве Скарына!—крычаў і Мітвох,—няхай жыве Deutschland (Нямеччына)!..

Абарваўся голас. Мітвох закрыў далонямі твар і прынік к сталу...

— Няхай жыве беларускі друк!—грамовым маладым голасам ускрыкнуў усьлед за Мітвохам і Даніла,—ён павінен жыць, ён будзе жыць!!. Няхай жыве разам з ім і кіраўнік наш Скарына!..

— Няхай жыве!..

— Няхай жыве!..

— Няхай ..

— ...Жыве! . Няхай... жыве!..—крычалі ўсе.

І ўноў усё захвалявалася, зашумела, загуло...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Толькі прыблізна каля поўначы госьці разышліся, бяседа замёрла.

Скарына прышоў дадому, калі ўсе ўжо спалі. Сам запаліў лямпу і на момант прысеў да стала.

Нечакана штосьці назойліва заварушылася дзесьці глыбока ўнутры: ні то сум чорны агідна ўзварухнуўся, ні то крыўда

якаясь, даўно забытая, але калісьці балючая, ледзь-ледзь ня прыпомнілася але бясьследна зьнікла невядома куды, як праскаўзнуўшаяся зорка на чорным небасхіле.

Напружана стараўся прыпамятаваць Доўга сядзеў і мучыўся. Але ўспамін, урэшце, сам сабою прышоў, нейк раптам, нечакана.

— Гэта цень якаясьці чорная была мільгатнулася непадалёку ад мяне,—думаў ён,—калі я выходзіў сёньня ад Бабіча... Цень палахлівая, чорная... Дык штож-тут такое?.. Мо' проста цікавы хто ў вакно стараўся паглядзець?.. Мо' ляхі?..

Раптам да слыха Скарыны данёсься якійсьці нязвычайны шум і гуд, якія момант-ац-момант у усё больш і больш узмацняліся.

Скарына мэханічна ўзьняўся з крэсла і падышоў да вакна, але нэрвова адхіснуўся назад, нібы яго знадворку хто ў грудзі штурхануў, і схапіўся рукамі за галаў.

---

V.

Позна, амаль да самай поўначы, блішчаў, у ваднэй з акраінных брудных карчомак Вільні, цьмяны сьвет.

Хваравітым, брудна-чырвоным аганьком гарэла на сьцяне старая лямпа бяз шкла.

Па сьценах, па дзьвярах і па аблупленай і падрапанай печцы сумнымі і палахліва-дрыжачымі ценямі сьвет бегаў, марнеў і, урэшце, бясьследна стушоўваўся на чорных шыбах акон.

Шум карчмы ўжо даўно спыніўся. Хто быў—паехаў, хто прыбыў—спаць лёг—па лаўках, на падлозе.

Толькі ў адным далёкім і цёмным куточку яшчэ сядзела два мужчыны і аб чымсьці ціха гутарылі.

Адзін з іх—пан Кубінскі (што Скарына на днях выгнаў з сваёй хаты) пахвілінна падліваў у чаркі сабе і свайму суседу Грыгору (царкоўны староста) і мэханічна выпіваў. Грыгор усе сілы напружваў, каб не застацца. Пілі і закусвалі бяс конца, быццам у якуюсь procьму саджалі ўсё гэта.

— Вы думаеце, што ўсё гэта жартачкі?—патаёмна шаптаў Грыгор,—не, гэта справа цяжкая!. я перакананы ў тым, што я выканаю толькі боскую волю.

— Для мяне ня важна: чы боску, чы волю д'ябла ты выканаш,—сярдзітым тонам на зьмешанай беларуска-польскай мове зазначыў пан Кубінскі,—тшэба зробіць!.. розумеш?!

— Так-так, паночку,—пакорліва падтакнуў Грыгор.

— За працу атшымаш; магу і цяпер крыху даць...

— Так-так... але хто вы такі, паночку?..

— Гэта табе не патшэбна... На цо тобе?..

— А як-жа з грашыма, з усімі? — нясьмела заўважыў Грыгор на яго запытаньне.

— Ах до сту д'яблуў!.. хлоп!.. На, тобе поўны партманэт... Ну, цо—здавалены естэсь?! «Подлы»!..

Грыгор схапіў аберуч скураны кашалёк, набіты срэбнымі манэтамі і, дрыжучы ўсімі членамі, пачаў перакідаць яго з рукі ў руку, мацаць і аглядаць з усіх бакоў, не асьмельваючыся заглянуць ў сярэдзіну яго.

— Схавай! — скрозь зубы загадаў пан Кубінскі.

Грыгор павініўся загаду, як пакорлівае дзіцё: паслушна схаваў, потым запытаўся:

— Дык скажэце-ж, калі ласка, хто вам нараіў мяне?

— Мой фурман і...

— І сьвяты айцец? — перабіў Кубінскага Грыгор.

— Які там чорта сьвяты!.. І ня ён!..

— Але ці ведаеце? — узрушана і недаўменна — радасна пачаў Грыгор, — я дык сёньня ужо наперад усё ведаў... Сасьнілася — навярзлося мне сёньня чорт ведае што... Адразу гарэлкі наўкол мяне дык о-ё-ёй колькі!.. але ні аднэй бутэлькі не адкупарыць!.. потым чорт, гадзюкі, ваўкі... а раптам анёлачак.. зьявіўся ды загадвае мне ваўкоў з лесу выгнаць... я і пашоў...

— Гы-гы-гы-ы-ы!.. — хітра зарагатаў пан Кубінскі, — нігды не чакаў, каб хлоп, подлы хлоп быў такі мондры.. Ну, тэраз ідзь, юж час... астатне пенёндзы ютро за лясэм, дзе я мувіў, атшымаш... ідзь!

Грыгор тарапліва ўсхапіўся з-за століка, дзе яны сядзелі, і ўзрушана затупаў на адным месцы.

— Ідзь, ідзь! — прыкрыкнуў пан Кубінскі.

Прыкметна падзёргваючы рукамі і нагамі Грыгор вышаў.

Счакаўшы некалькі хвілін усьлед за ім вышаў і пан Кубінскі.

* * *

Час быў к самай поўначы. Срэбны маладзічок ужо больш гадзіны было таму назад, як закаціўся.

Наўкол было ціха і прыгожа.

Толькі сьветла-сінія зорачкі чагосьці ўглядаліся на зямлю ды палахліва дрыжэлі, нібы поўраспранутыя на марозе дзеткі — сіроты.

Хвілінамі здавалася, што яны зьбіраліся аб чымсьці закрычаць, перасьцерагчы кагосьці, але нямы жах скоўваў іх вусны, і яны толькі рабілі непамерныя патугі, надрываліся моўчкі ды бязунімку дрыжэлі...

Шэры змрок зачараваў усё навокала, прыспаў. У салодкай поўдрымоце аб чымсьці гутарылі паміж собку высокія стройныя, як дзяўчаты, таполі, разьвесістыя поўныя ліпы, бялявыя, сінявокія бярозкі.

Злыя-ж думкі людзкія нішто ня можа ні прыспаць, ні зачараваць!..

Толькі пракрычалі дзесьці пеўні першыя, як у васяродку гораду выбухнуў раптам аграмадны клубок дыму. Крывавачырвоныя языкі полымя радасна запрыгалі, загулялі у паветры, зашыпелі зьмеямі. Лізанулі высь.. схаваліся... раптам уноў ірвануліся ўгару, як прывязаныя разьюшаныя львы...

Пяць хвілін... і ўсё неба залілося крывавым заравам пажару. задрыжэла, затрапяталася, бы дзявочая каса, сіньсмуга начнога неба, замільгала пераліваміі дзівоснымі, паутонамі.

Зазьвінелі, загрымелі, загукалі на вежах гарадзкіх званы.

Горад страпянуўся, бы ранены зьвер, загуў, залаташыўся. Народ морам рынуўся да месца пажару.

А к гэтаму моманту ўжо дагарэў і разваліўся дом бурмістра Якуба Бабіча і больш дзесяці суседніх былі ў агні..

Рвануўся вецер. Аграмадным роем узьвіліся ўгару іскры, вуглі, галавешкі... ляцелі ўноў уніз... раптам яшчэ ў некалькіх мясцох гораду загулялі чырвоныя языкі агню.

Народ замяшаўся, завыў.

— Дзетачкі-ж мае!...

— Ай людцы!...

— Божухна!...

— Ратуйце!...

— Трымайце! трымайце!.. лавіце!..

— Вады падайце! Сюды вады!..

Частка натоўпу яшчэ спрабавала змагацца з агнём.

Нечакана вецер накіраваўся на паўднёвы—усход, захапіўшы з агнём большую палову гораду і рвануўся наперад з гураганнай сілай.

Нават самыя стойкія з натаўпу ня ўтрымаліся цяпер супроць агню, і ўсе, зьбіваючы адзін другога з ног, топчучы ўпаўшых, крычучы, стогнучы і праклінаючы адзін другога і ўсіх без разбору, рынуліся наўцекі за ветрам.

Цераз некалькі хвілін зусім апусьцела ад народу аграмаднае вогнішча, толькі вуглі і галавешкі скаліліся на зямлі, як воўчыя зубы.

— А-я-яй!.. гу-у-у!—галосіў непадалёку ад руінаў друкарні Мітвох,—нофы бот згарэў!.. а-я-я-яй, зусім нофы!.. ах-ха-ха-а!

А ніўцешны плач яго, плач балесны і ў той-жа час наіўны,

як дзіцячы, вецер утрапёны захліпаючыся глытаў ды заглушаў яго дзікім рогатам.

— Ты чаго галосіш, Мітвох?! — спытаўся ў немца Даніла, які вынырнуў з Цімахом з-за вугла, як з процьмы зьзяючай,— глупства, пашыеш новыя, чорт ты гэтакі!..

— Ай—зай,—усё несупакойваўся Мітвох, — такі агонь!.. ай-вай!.. і нофы бот і усё! а-а-ай-вай!..

— Вось дзе яны! крыкнуў адзін з кучкі людзей, якія выбеглі ў гэты момант з цемры незачэпленага агнём перавулачку, —гэта брукары падпалілі! бі іх!... га-а-ах!!. растакую іх маць!..

Кавалак яшчэ гарачай ад агню цагліны ўпіўся вострым кантам у скіўіцу Мітвоху.

Агошні толькі ўзьняўся на наскі нэрвова, схапіўся рукою за шчаку, хіснуўся, як ракіцінка ад ветру, і клубком зьвіўся на зямлі.

Уздыхнуў хрыпла і глыбока, страпянуўся, як з прастрэлянымі грудзьмі птушка, і сканаў...

Даніла з Цімахом кінуліся наўцекі ў заходнюю частку гораду, адкуль дзьмуў вецер і дзе ня было агню.

Адным каменем яшчэ хапіла і Данілу па назе, аднак надалей пагоні за імі ня было і яны, крыху прабегшы, супыніліся ў адным з глухіх перавулкаў.

— Ну, цяпер куды?—спытаўся Цімох у свайго сябры, дрыжучы ўсім целам і чуць зводзячы дыханьне.

— Трэба да доктара забегчы,—адказаў Даніла,—ты—як сабе хочаш, а я пайду!.. Божа, божа мой!...

— А я да Аньковых пабягу!?.

— Бяжы!—крыкнуў ужо здалёк Даніла і зданьню зьнік у ружовым змроку вузенькага перавулачку

* * *

Скарыны ў дому ня было.

— Куды-ж ён пайшоў?—спытаўся Даніла ў жонкі Скарыны, якая з сваёй служанкай Алеськай зьвязвала ў клункі розную вопратку і іншыя рэчы і перакідала іх у перапудзе з аднаго кутка ў другі, хвалявалася і плакала.

— А вы яго ня сустрачалі?!

— Не!..

— Бог сьвяты ведае!... Бажочкі мае! . Пашукайце яго Данілачка!.. родненькі!..

— Добра, добра... Вы толькі не палохайцеся так,—супакойваючы сказаў Даніла,—ён цяпер, напэўна будзе ў Аньковых, куды перабраўся і бурмістр.

— І бурмістр Бабіч сгарэў?!

— Ды з яго-ж дому пачалося і гарэць,.. падпаліў хтосьці, —сумна адказаў Даніла і апусьціў уніз голаў.

— Данілачка, бяжэце пашукайце!.. Яж сама пашла-б, ды нельга.. тутака-ж усё.. бяжэце, родненькі!..

— Добра, добра.. Мы хутка прыдзем.. Толькі вы не палохайцеся так.

Пашоў.

У Аньковых Скарыны таксама Даніла не знашоў.

Усе занепакоіліся. Падняўся цэлы шурум-бурум. Якуб Бабіч, малады Аньcoў, Даніла і Цімох усе кінуліся адшукваць доктара.—Хоць-бы жывым знайсьці,—было ў кожнага на вуме.

VI.

— За што наказуешы о божа!—ускрыкнуў Скарына, калі згледзяў праз акно полымя,—ай божа!...

— Што там?—спыталася ў яго жонка з другога пакою.

— Нічога такога!...—адказаў ён здаўленым голасам, баючыся перапужаць яе.

—Як нічога?!—устрывожана спыталася яна і ўсхапілася з пасьцелі,—божачка!... гарыць!!... Дзе гэта?!

— Ня ведаю... Пайду пагляджу...

— А што-ж мне рабіць?... Куды ты?!...

— Я-ж не пайду... я толькі пагляджу куды агонь накіраваўся...

— Вой!... Ня йдзі!... Як-жа дзеці!... ай!..

—Гм!... Чаго ты так?... Складвай рэчы, якія хочаш, а я выйду зірну... там мо' людзі гінуць... Ад нас агонь яшчэ далёка!

— Дык варочайся назад хутчэй, а то я ня ведаю, што рабіць!...

* * *

Скарына вышаў на вуліцу.

— Дзе гарыць? спытаўся ён у першага сустрэчнага.

— Чаго пытаешся?!—груба адказаў яму праходзіўшы,— ужо палова гораду згарэла, а ён пытае!!...

Нічога больш ні ў каго ня пытаючыся, Скарына кінуўся наперад.

Думкі ў галаве віхром іскраў закруціліся. Не хапала моцы застанавіцца на якой-небудзь аднэй з іх.

Бег далей, і сам ня ведаў і ня думаў, куды бег.

Раптам прышоў у сябе.

— Яшчэ раз завярнуць направа... на вуліцу... і будзе дом відаць, дзе...—падумалася яму,—няужо няма?!... О, божа!...

Выбег на вуліцу.

Далёка ўперадзе полымя разьюшанае лізала неба, цяжкімі чорнымі хмарамі ўздымаўся дым угору; бліжэй-агнявая завіруха пагульвала, круціла і гнала наперад цэлыя воблакі сьняжынак залатых...

— Вось і пляц,—мільгатнулася ў думках у Скарыны.

Спыніўся на вуглу. Пачаў шукаць вачыма дому Якуба Бабіча.

— Няўжо няма¿!...

Аглядзеўся навокала і ўноў кінуўся наперад.

— Так... няма!... згарэла!! Вось і месца, дзе была друкарня!.. Спыніўся. Рукамі схапіўся за галаў.

Перад Скарынам, сапраўды, былі толькі напалову параскіданыя печкі ад дому Бабіча ды дзьве-тры галавешкі курэла дымам сьмярдзючым.

Па твары ў яго шпарка пакаціліся кроплі халодныя, сьветлашкляныя, буйныя Скарына ня вытрымаў ад болю, заплакаў.

— Ах, божа!!—прастагнаў ён,—зашто пакараў ты нас?!

З момант памаўчаў, нібы акамянеўшы.

Крутнуў вецер і абсыпаў яго пылам і іскрамі з ног да галавы.

Скарына страпянуўся. Скрыгануў зубамі.

— О, божа!!—ізноў паўтарыў ён не сваім голасам,—ты вар'ят, бог!. Ты—няправы!.. Што ты скажаш людзям на сваім страшным судзе? А я ў цябе спытаю!!!...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... А мо' цябе і зусім няма?! — няважна... вось друкарні няма і людзі стогнуць... і ўсе прапала!.. а-ах!..,—ах-ха-ха-ха!— дзіка зарагатала жанчына ў лахмоцьцях, якая ў гэты момант выбегла з вуліцы, адкуль прышоў Скарына,—мае дзеткі на неба паляцелі, мае дзеткі анёлачкі!.. ха ха-ха!.. Юрку скачэце! крутуху вярцеце!.. ха-ха-ха!.. Ух-я!.. Ух-я!.. Скачэце!!.

Жанчына некалькі раз перакруцілася перад Скарынам і ўзьвізгваючы і прыпяваючы пабегла далей.

Скарына сумна паглядзеў ёй усьлед, павярнуўся і ціхім крокам пашоў назад.

Ня думаў куды ішоў.

— Цяпер ужо ўсёроўна,—думалася яму.

Вышаў за горад і ўсё ішоў...

— Там ня так,—думалася яму,—спакайней... а чаго-ж я ад людзей уцякаю: там стогнуць, плачуць, а я?..

Аглянуўся на горад.

Там яшчэ стаяў гул, быццам навальніца толькі што разыгралася. У далі полымя шугала За ветрам, па зямлі цяжка сунуліся чорныя валы дыму. (Было ўжо сьветла). Поле, лес,

лагчыны—ўсе закрылася дымам, як аграмаднай таўшчэзнай коўдрай. Роем зорак сыпаліся іскры, рэзалі цемру дыму, фігурна віліся ў гарачым паветры, цалаваліся з апошнімі зорамі неба, зьляталі наўкось уніз і гасьлі...

Чуць-чутна дзесьці вылі сабакі, раўла канаючая жывёла.

— Хіба пайсьці назад?—надумалася раптам Скарыне,— трэба дапамагчы каму-небудзь?

Супыніўся і павярнуў к гораду.

Цераз хвіліну ўноў супыніў я, павярнуў назад і пашоў, хістаючыся, як п'яны, да бліжэйшага пярэляску.

---

VII.

Даніла бег у канцы вуліцы, захліпаючыся ад сьлёз і чуць перастаўляючы ногі. Больш трох гадзін ужо шукаў ён доктара Скарыну, дзе толькі ня быў, у каго толькі ня пытаўся, але адшукаць ніяк ня мог.

Хацеў стрымацца як-небудзь ад плачу, але нейкі балючы неадвязны жаль агарнуў яго сэрца, заціснуў яго, як у клешчы, і даві́ў бязжаласна, самі сабою падступалі к горлу сьлёзы...

— Чаго ты плачаш, чалавеча?—спытала ў яго пажылая жанчына, якая стаяла каля варот аднаго дому.

— А-а-ах!—ўсхліпнуў ён,—няма чалавека, згінуў дзесьці.

— Якога чалавека?.. мо'?..

— Доктара няма, Скарыны...

— Нядаўна тут ішоў якісьці поп?.. але я ня ведаю...

— У доўгай у чорнай вопратцы?!. — радасна спытаўся Даніла.

— Але-ж... Я-ж кажу... Як поп... ішоў і пайшоў вэнь туды, у той бок,—адказала жанчына, паказаўшы ў бок лесу рукою.

— Туды?!. Дзякую шаноўная!—крыкнуў Даніла і проста пабег, куды паказала жанчына.

— Доктар!—крыкнуў ён яшчэ здалёк, заўважаўшы ў беразе лесу чорную фігуру,—доктар!..

Спаткнуўся і далавах упаў назем. Войстры боль праскочыў па ўсім целе і тупа заныў у косьцях... Чуць узьняўся на ногі ўноў. У цяглях нылі жылы. Дробнай дрыгвоткай задрыжэлі калені. Пад сэрцам стала млосна.

— Што цяпер будзе?—з болем думка мільгнула,—і доктар, відаць, засумаваў?..

Спабым, няўпэўненым крокам пашоў у напрамку чорнай фігуры, якая ўвесь час сядзела нярухома.

— Няўжо-ж ён ня чуе?—падумалася Данілу, і ён прыбавіў кроку.

Падышоў.

Навокала сумны зялёны ельнік. Па зямлі, як аксаміт, блішчэў сьветла зялёны мох; здавалася, ён пераліваўся адценьнямі. Па ім жоўтыя іголачкі парассыпаны. Дзе-ня-дзе чорныя шышкі ў зямлю паўрасталі, а дзе і траўка бледная рэдзенька павыбівалася на сьвет.

Скарына сядзеў на абросшым зялёным мохам пні, абхапіўшы голаў рукамі.

На зямлі перад ім ляжала яго шапка і некалькі паймаў яго сьветларусых валасоў.

Вочы бяссэнсна глядзелі кудысьці ў даль...

Калі падышоў да яго Даніла, ён нават і галавы не крануў.

— Доктар!—абазваў яго Даніла,—доктар, вы тут?!.

Скарына маўчаў і не парушаўся.

— Юры Лукіч!?—ужо трывожна ўскрыкнуў Даніла.

Скарына ўноў не варухнуў ні адным членам.

— Юры Лукіч!—паўтарыў напалохана Даніла і тармазнуў яго за плячо.

Скарына не варушыўся.

Даніла ўпаў да яго ног і заплакаў горка і ніўцешна, як дзіця.

Скарына не кранууся: ён нічога ня чуў і ня бачыў, ён быў у якімсьці акамяненьні...

— Ах ты, Лявоніха, туды тваю...

Не хадзі маёй капусты ламаць!..—хтосьці гаркнуў ублізку грубым голасам, падобным хутчэй да рыканьня, чымсі да сьпеву.

Скарына страпянуўся... Даніла ўсхапіўся на ногі, адступіўся ў бок і прыпёрся плячыма да бліжэйшай елі.

— ...Ня мытую мне кашулю дала!.. ых!... ых!.. ха-ха-ха!— усё пяяў той-жа самы голас.

Скарына ўзьняўся з пня, хіснуўся ў бок і ўноў зваліўся на тое самае месца, дзе сядзеў.

— Хто гэта?!!—ускрыкнуў ён разьдзіраючым нутро голасам і ніўцешна заплакаў.

Даніла стаяў над ім, увесь трасучыся, ня ведаючы што рабіць, нібы вінаваты ў чым...

Хвілін цераз пяць у беразе лесу паказалася п'яная постаць царкоўнага старасты Грыгора.

— Во хто!.. во ён!!—здаўленым ад болю і гневу голасам крыкнуў Скарына, падняўся на ногі і накіраваўся да Грыгора.

Апошні з момант паглядзеў п'янымі аслупянеўшымі вачы-

ма на Скарыну, чухнуў патыліцу і рапгам кінуўся наўцекі ў лес.

Скарына спыніўся.

— Бедны мой люду!—сказаў ён, схапіўшыся рукою за грудзі і гледзячы на Данілу,—сам сябе ты губіш, у няволю прадаеш!!.

— Што вы кажаце, Юры Лукіч?—спачуваючы і трывожна запытаўся Даніла.

— Не!!. Каты маскоўскія і польскія!!! не запанаваць вам над нашай краінай!.. не заняволіць вам бядноты нашай, не заняволіць сялянства!!. Так ня будзе!!!

Даніла падхапіў Скарыну пад руку і амаль пацягнуў за сабою к полю.

— Пачакай!—раптам апамятаваўся Скарына,—што-ж ты?.. шапку дай вазьму.

Пры гэтым ён вызваліў сваю руку з-пад пахі Данілы, вярнуўся, падняў шапку з зямлі і шпарка пашоў з лесу.

— Vox populi—vox dei!—прагаварыў ён ужо ідучы па полю.

— Што сіе знамянуець, доктар?—спытаўся Даніла.

— Сіе знамянуець: глас народу—божы глас!—цьвёрда адказаў Скарына,—і на цэлы народ ніякі кат ня мае права і ня сьмее працягваць сваю драпежніцкую руку!!. Але хутчэй хадзем: мо дапаможам яшчэ каму ў горадзе... Так ня будзе!!.

Прыбавілі кроку.

А чырвоныя праменьні сонца, тым часам, старэнна забегалі, заснавалі па полі і залатымі пікамі пачалі брудны чорны дым у лес зганяць...

Замест большай часткі гораду, зьзяла на зямлі страшная і дзікая, як процьма, ванючая рана...

Тысяча пяцьсот трыццаты год для ўсёй Беларусі і, асабліва для гораду Вільні, быў суровым і страшным...





**АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# ДЗЬВІНА.

1.

Добры дзень,
зялёныя загоны-дываны,
я прышоў паслухаць з вамі
гутарку Дзьвіны.

Сакалінай пераліўнай
прывітала песьняй даль,
плынь бурлівых, цёмна-сініх
векапомных хваль.

Залаціцца-весяліцца
звонка-струнная вясна,
добра дзень, вам, палачане,
добры дзень, Дзьвіна!

2.

Шустры ветрык жартаўліва
у кустох зашалясьціць
Гоман хваль Дзьвіны бурлівай
чую першы раз ў жыцьці.

Мілагучныя вясьнянкі
ў сэрцы туляцца ў мяне.
Ля ўзбярэжжа палачанкі
песьняй шлюць паклон вясьне.

Радасьць—іскрамі шугае,
ў полі—кветкамі гарыць.
Хвалі звонкія змываюць
бераг замкавай гары.

Плыньню плаунаю, свабодай
ціха коцяцца чаўны.
Прывітаў я песьняй роднай—
бацькаўшчыну Скарыны!

3.

Росная раніцца
сонцам румяніцца,
нібы дзяўчына—
каліна.

Птушкі-вясьнянкі
пяюць спазаранку
ў сасоньніку,
як на гармоніку.

Смутку ня знае
вясна залатая
ніколі
ў бязьмежным полі.

Хвалі, бывае,
журбу абуджаюць,
ня весела стане,
як глянеш...

4.

Жыцьцю маладому вясной не астыць,
ня спыніць яго песьні стазвоннай.
Чарадою плывуць па Дзьвіне плыты,
мінаючы горы, лясы, балаты,
пад сьпеў маладых плытагонаў.

Забаўна плывуць за плытамі чаўны,
хістаюцца ў золаце хваляў.
Любыя песьні гульлівай Дзьвіны
ў сонечнай радасьці звонкай вясны
чаму спавілі мяне жалем?

Жудасна... Крыўдна... Яшчэ вярста
і гоман прывольля зьнікае.
Сьлёзы нядолі там льле бедната
пазбаўлена ў роднае хатцы кута,
мовы роднае іх пазбаўляюць...

Сьцюдзёным туманам на сэрцы іржа
балюча атручвае радасьць.
Дротам калючым сьціскае мяжа,
а за мяжой кайданы бражджаць;
кучаравыя сохнуць прысады...

5.

Вечарам, ясна-вясеньнім,
люблю рассыпаць лятуценьні.
Хочацца ціха, пакорна
прытуліцца да ночанькі зорнай,
забыцца аб дзённай завеі
хвілінкай маленькай аднэю.

Хочацца думкамі ўзьвіцца
над вольнаю, роднай зямліцай!

Люблю прытуліць лятуценьні,
але... цені, праклятыя цені,—
Беларусі спраўлялі хаўтуры
сваёю гвалтоўнай «культурай».
Беларусь не па сэрцу, скрыгочуць,
засланілі-бы, гады, ёй вочы?

О, цені, прыблудныя цені—
носіць імглістая цемень,

Як вецер лістоту разьвеяў,
параскідвала вас Расея,
баярская маці—Расея,
сканаўшы у сьвінцовай завеі.
... Узышла, зацьвіла, залаціцца,—
маладой Беларусі зарніцца.
Але... цені, прыблудныя цені—
носіць імглістая цемень.

6.

Сказ пра Дзьвіну нам раскажа парою
лірнік, схіліўшысь пакорна, журбе:
— Бераг, твой срэбны, дно залатое,
— кроў працякала, Дзьвіна, праз цябе.

— Шляхта, ксяндзы, ізуіты, зьвярына
— глумілі бязьвінных, тутэйшых людзей...
— Набегам няволілі нашу краіну
— хэўра разьюшаных рускіх князей.

— Дый палачанкі княжны Ефрасініі
— сёньня стаіць не адзін манастыр,
— хоць змоўклі—заціхлі ў зарасьлях ціны
— шумныя хвалі сівой Палаты.

— У гарадку, дзе радзіўся Францішак Скарына—
— чакалі стагодзьдзямі сонечны дзень.
— Раней—ізуіты глумілі бясчынна,
— дый пакаленьне праклятых князей.

7.

Неяк думкі ўзьвіюцца варожа,
глянь адно—за царквою царква.
Гэтым скарбам падужацца зможа
з перамогаю толькі Масква.

Пасінеўшы стаяць камяніцы,
а калісь пад звон... шпор—
кадзеты хадзілі маліцца
ў праславуты Сафійскі сабор.

І многа, ой, многа было іх:
аплялі як на пасяцы мох.
Але ўсёткі народ наш ўстоіў,
захаваўшы хоць мову ў грудзёх!

Сёньня новымі ўзорамі звычаі
сталі наша жыцьцё аздабляць.
А чынушы «былога величия»
Хоць за... ногі гатовы кусаць.

8.

На вуліцах сьціхне ўвечары гоман,
«былое величие» ў пролазах цьмы
песьню заводзіць пад хрып грамафона:
— «Бывали дни, гуляли мы»...

Зьбяруцца суседзі, з блізку з далёку,
паслухаць «восточный страстный романс»...
Вып'юць па чарцы вішнёўкі салодкай,
пульку сыграюць адну ў прафэранс.

Вістуюць усе. Азарт забірае...
Бяз козыра... ў цёмную... Бубні-звон...
Жанкі «пакіднога» сабе падкідаюць,
хрыпіць пацяшаючы іх грамафон.

Анекдот?—бясспрэчна. Жарт?—Бязумоўна.
Сьмех—гэта радасьць пары залатой
... На вока папаў «Беларускі Слоўнік»—
застыла вясёласьць, зьмяніўся настрой...

9.

Скубуць намі ўзьнятае роднае слова,
расьцьвіўшае пышна, як сонца, як дзень!...
Слову служылі—грудзі аховай,
ня вытруціць вольна ўздыхнуўшых грудзей!

О, пакаленьне, «пшаніца Хрыстова»
было узьнялося, як вецер з-за гор,
стрыножыць імкнуліся роднае слова,
што вызваліў Наш Семнаццаты Год.

Ніколі ня сьцяць ім жыцьця маладога,
не замяніць нашых сонечных дзён.
Няхай-бы гулялі сабе ў «падкіднога»
І соладка слухалі-б свой грамафон.

О, спадчына лютая! Хто-бы забраў бы?
Жыцьцё не да смаку бяз розных прыкрас.
З пасагам аддалі-б з прыбыткам, запраўды—
адно, каб ня стала іх толькі у нас.

## 10.

Шэлест гульлівы, шэлест вясеньні
ветрыкам носіць мае лятуценьні.

Звонкае поле... Зялёныя сьцежкі,
сэрца ўзбудзілі квяцістай усьмешкай.

Знаю я, знаю, рассыпецца цемень,—
зьнікнуць загінуць прыблудныя цені.

Вораг, як хваля ў сьнежні застыне;
Эх, залатое, Наддзьвіньне!

Полацак, 1926 г.





АЛЕСЬ ЗВОНАК.

# Полаччыне.

Хваля за хваляй, над хвалямі ветры
Ласкава срэбрацца воды Дзьвіны...
Дні залатыя з усьмешкаю ветлай!..
Дні прадвасеньнія, ціхія дні!..

Хвалі празрыстыя. Жвір на адмелях.
Сонца ружовы усход і заход...
Хвалі калісьці крывёй чырванелі.
Край руйнаваўся з году у год.

Ворагі злосныя, хціўвыя ворагі—
Царскай Расеі чыноўнічы люд
Ўсё асьмяялі, што родна і дорага,
З роднай зрабілі чужую зямлю.

Кляштары, цэрквы, крыжы златарогія...
Звон багамольны, набожны тразвон.

Была Расея царквой, ды вастрогамі
З ўсходу на захад, з паўдня на паўноч.

Роднае, блізкае з гразьзю зьмяшалі,
Ўсё дарагое рабілі чужым.
Край беларускі ня раз руйнавалі,
Множылі вогнішчы, турмы, крыжы.

Было, ды няма, засталіся ўспаміны.
Было, ды ня будзе. Змоўк ротат завей.
Мінуўшчыне сёньня спраўляем памінкі...
Трazвон багамольны змаўкае навек.

У сіняе сёньня, у сьветлае заўтра
Нязнанаю радасьцю ўкрыем зямлю.
Дарэмна падчас яшчэ ваража цяўкае
«Чиновный, былого величия, люд».

Падчас «господа» яшчэ цешаць надзеі,
«Руси православной» ім сьніцца пара...
Дарэмна!.. Сягоньня жыцьцём ружавее
Вякамі загнаны, заплаканы край.

У сіняе сёньня, ў лілёвае раньне
Савецкай радзімы вітаем зару.
Сягоньня на новых шляхох палачане,
Сягоньня на новых шляхох Беларусь!

Полацак 1926 г.

---

# Пранясуся шалена па краю.

Пранясуся шалёна па краю,
Абхаджу ўсю раўнінную гладзь!
... У гармонік бярозавы грае
Сіняй ноччу срабрыстая мгла...

Лес... Палі... І бясконца раўніны..
Як браты абняліся дубы...
Трэба выцярпець шмат за айчыну,
Каб яе навучыцца любіць.

Стань, прыслухайся, вухам прынікні
На успоены потам дол,

Як жыцьцё б‘е кіпучай крыніцай
І уздрыгам стальных гарадоў.

Над палеткамі роднымі вецер
Разьвявае мінуўшчыны здань.
І зямлі жытнёвае сэрца
Залатую імклівіць рань.

А ў імгле на шляхох камянёвых
Гарадоў жалезная дрож...
Скора, скора праймчыцца век новы
Па зьвілінах старых дарог!

І над краем калісьці загнаным,
Над краем спрадвечнай журбы
Новай песьняю дзень прагарланіць
Вітаючы новую быль...

Толькі ноч па старому ўзыйдзе
Сыпаць зор залаты авёс,
Ды месяц папасьвіцца выйдзе
На сінюю пашу нябёс.

Полацак 1926 г.

---

# Прысьвячаю Якубу Коласу.

Землі раўнінныя, сіняя гладзь...
На раздарожжы бярозы стаяць...

Землі радзімыя яркнуць у рань...
Выйду, спаткаю абноўлены край.

Выйду ў празрысты імклівы прастор
І пакланюся вясьне залатой...

Ў родным бязбрэжжы ступае нага.
Сэрца, як колісь, ня сьцісьне туга.

Ў шэрую муць не спаўецца зямля...
Многія пройдуць замецены шлях...

Многія пойдуць дарогай тваёй;
Многія пойдуць з табой, за табой...

Ў зарыве золака вынікнуў дзень—
Слова ня змоўкне гарачая зьвень...

У навальнічную золкую стынь,
Ў годы былыя запал не астыў.

Бор малады там, дзе быў буралом...
Роднае слова жыве і жыло.

Вокам акінеш—і гордасьць расьце—
Край дарагі прыгажэй, залацей...

Землі раўнінныя сіняя гладзь...
На раздарожжы бярозы стаяць..

Полацак, 1926 г.

---

# У сьнежнявай замяці.

Маўчыць прастор... Маўчаць нямыя далі...
Ў сьнягох прапалі сьвежыя сьляды.
Барвянасьць лісьцяў ў стынь паасыпалі
Жыцьця майго цьвітучыя сады...

Такія белыя бязбрэжныя раўніны!..
Такая звонкая зімовая туга!..
Раскінулася ў шыр мая краіна,
Са шчок бялявасьцю змываючы загар.

Імчуся я... Б'юць капытамі коні,
Пазваньваюць званочкі галасьней...
Панёсься-б так у далечы, ў бясконцасьць,
Забыўся-б у трывожна-чулым сьне.

Занадта шмат душы перажываньняў,
Занадта струны тонкія ў душы,
Каб не маліцца ў пробліскі сьвітаньняў
І не клясьці найшоўшы сум цішы...

Чаго таіцца—быў душою хворы,
Чаго маўчаць—хварэю і яшчэ,—
А не сказаў і не скажу, што скора
Пагасьне сьвет успыхнуўшых вачэй...

Заўсёды: ўранку, ўночы, на зьмярканьні
Гатоў стаяць на варце нашых дзён,
Гатоў, як акцябронак—галаштаньнік
Пабегчы ў даль, жыцьцю наперагон...

Ступаю цьвёрда... Знаю мэту нашу—
Шляхі наперадзе няўхільныя, адны...
І як другія мэты не дагнаўшы,
Я ня згублю дарогаю штаны...

А калі дужа шмат перажываньняў
І як струна нацягнут кожны нэрв,
хачу імчацца ў дзікім парываньні
Ад меж да меж па роднай старане...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Імчуся я... Храпуць стамлёна коні...
Вакол—сьнягамі вытканая бель.
Яшчэ прабег... Пярэлясак... Сасоньнік...
І спыняць коні свой шалёны бег.

Сьнежань 1926 г.
г. Полацак.

---

# Ей...

Вясной жыцьцё
Заўсёды прыгажэй...
Вясной жыцьцё
Ня роніць жоўтых лісьцяў.
Няхай увосень—
Лісьцю парыжэць.
У весну-ж—цьвецень
Яблынь белаліцых.

Ня лірык я.
Гнусавіць каб аб «шчасьці»,
Ідылій кволых
Павуцень плясьці.
Люблю
— Няўклюжымі радкамі шастаць
І процiў плыні
У жыцьці
Плысьці.

Ах, чэрвень мой!..
Залатарусы Чэрвень!..
Я так люблю,
Я так люблю цябе...

Мне сум душу
Ніколі не ачэрніць,
Ды й ня схілю я
Голаву журбе...

Ах, любы мой,
Ў зялёным калыханьні!..
Гатоў расплёскаць
Усю душу да дна...
Бывае
І бяз лірыкі каханьне
Калі
Мяцежных дзён юнацтва—
Не дагнаць...

Многа такіх,
Такіх як ты прыгожых...
Многа—
З такою просіньню ў вачох
І што-ж?
Бывае, што і ў дзень пагожы,
А хмарамі зацягнена жыцьцё.

Ах, дружа мой!...
Я вельмі, вельмі молад.
Ці можна-ж так
Пераварачваць сэрца?..
Яшчэ
Не перарос я камсамола,
Яшчэ
Нядаўна кінуў піанэрыць.

І вось, як я—
Такога сумазброда,
Што знае толькі
Песьні, сьмех і шум...
Твой сіні зірк,
Такі прасты і родны
Глыбока раніў
Ў самую душу.

І хай...
Душа ня будзе
З песьняй чорнай...
І хай жыцьцё й цябе
Сёньня люблю.

Ня важна,
Што пашлеш паэта к чорту—
Паэтаў часта
К чорту шлюць...

Няхай і так,
А з маладых грудзей
Заўсёды радасьць
Песьняй будзе ліцца...
Вясной жыцьцё—
Заўсёды маладзей,
Вясной жыцьцё
Ня роніць жоўтых лісьцяў...

Полацак, 1926 г.



## ТАРАС ХАДКЕВІЧ.

# ДНІ.

Праґрымелі сталёвыя дні
Ў навальніцах, у дзікіх віхорах.
Сёньня радасьць у песьнях зьвініць
Ды у сэрцах славамі гаворыць.

Дзесь далёка міргнула зара
І палае ўсё болей і болей...
Маладая юнацкая раць
Гучным сьпевам сягоньня сваволіць.

Загарэліся ў сэрцах агні,
Загарэліся і не пагаснуць,
Бо выкоўваюць новыя дні
Рук мільёнамі новае шчасьце.

Гарадоў не змаўкаючы гул
І палёў залатыя прасторы
Хіба-ж вернуць бабулю—тугу,
Хіба-ж вернуць стагоднае гора?

Не, ня вернецца, што адыйшло,
Што схавалася ў шэрым тумане...
Знаю—хопіць агністых слоў
Апяваць залатое раньне.

* * *

Загрымеце сёньня ў высі,
Заґрымеце дні ізноў,
Каб праменьнем сонца ўзьвіўся
Буйны віхар сьмелых слоў.

Каб па вёсках і па сёлах
Хаты радасьцю цьвілі...
Ў нябясох гарыць вясёлка,
Агнём—полымем гарыць.

Залунае шчасьце ў далях,
Апаўе палёў блакіт,

Што ў сабе калісь хавалі
Хмараў грозныя палкі.

І пурпуравыя росы
На лісточках заблішчаць...
У даліне пад адкосам
Мне прышлося сьпеў пачаць...

Хай арліны ў небе клёкат
Страшыць песень пераліў...
Я-ж люблю жыцьця узьлёты,
Я-ж люблю жыцьця разьліў!

В. Шайтрава, 1926 г.

---

# Сугучнасьці.

* * *

Годзе блудзіць у тумане,
Сэрца аб крыўду параніўшы...
Хай залацістае раньне
ў родную вёску загляне.

Хай усьміхаецца жыцьце,
ў радасьці ціхай імжыць
ў вёсцы, у полі, у жыце,
ў нівах аўса на мяжы...

Мо' дарагія напевы
ў полі хутчэй зазьвіняць?
Пойдзем усе мы наперад
к радасьці вольнага дня.

Ведаю: ў бацькавых гонях
выльлецца песень размах,
бо у жыцьцёвым «сягоньня»
працы сталёвы узмах.

* * *

Ой, вы хмары—птушкі чорныя
у бяздоннай сіняве...
Хмары, хмары непакорныя
Пераплылі белы сьвет...

Рана, рана навальніцаю
праляцелі грозна вы...
Нагіналі лозы ніцыя
Да зялёнае травы.

Вашы воблікі туманныя
нібы гаварылі мне,—
Што з-за вас вясною раньняю
Сонца яснае міргне,

І яно міргнула ласкава,
асьвяціла сьветам ноч.
Усё старое сумнай казкаю
паляцела ў далі—проч...

## Зьвінелі косы...

Зьвінелі косы на лугах,
звон ціха таяў дзесь далёка
і толькі сінякудры гай
у гэтым звоне не галёкаў.

Зьвінелі косы Думаў я
аб тым як ў залатым прасторы
вось гэтым звонам зазьвіняць
дзён новых сьветлыя узоры.

І будзе шчасьця карагод
над полем мілым вечна госкаць,
мо' больш ня сьцісьнецца тугой
і дарагая сэрцу вёска.

Зьвінелі косы. Рэшту дня
хаваў туман у сваіх нетрах.
А мне хацелася абняць
людзей, лясы, палі, паветра.

Я ведаю—што на'т туга
ня будзе больш нідзе галёкаць—
...Зьвінелі косы на лугах,
звон ціха таяў дзесь далёка.



**АЛЕСЬ ДУДАР.**

# Полацак.

Цябе гісторыя ў свае скрыжалі
ўпісала гранямі руін.
Ні кроплі літасьці, ні іскры жалю
твае ня ведалі страі.

Муры Рагнедзіны, сьцяг Рагвалодаў,
шчыты нарманскіх караблёў...
Бандыты Захаду, цары Усходу
тваіх грудзей гramілі бронь!

Чужынцы з ніў тваіх зьбіралі зерне,
каралі гневам і вайной...
Цябе рэспублікі, цябе імпэрыі
таптаалі кованай пятой.

І попел хат тваіх, твае заветы
праносіў з болем між вякоў . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зямля вялікая, зямля Саветаў
адна дала табе спакой.

Дзе-ж тыя злосьнікі, што гнулі шыі
перад Варшавай і Масквой?...
Усім варожыя, усім чужыя—
ня будуць каркаць над табой.

Ня ўзьняць бяскрылым ім ў простор галовы!..
Ім ня блудзіць, ім не грашыць
бо словы цьвёрдыя, як крэмень словы
цяпер спаткаюць подлы шып.

Замест Сафійскае—гара Скарыны
і над Дзьвіной чырвоны сьцяг.
Твае пажарышчы, твае руіны
ў мінулым толькі шалясьцяць.

І, новай сілаю цяпер сагрэты,
ня ўбачыш больш варожых сноў.
Зямля магутная, зямля Саветаў
і тым—ў сям'і яе сыноў.

15—VII—1926 г.

## М. ДУБОВІК.

# Парвалася залатаструньне дня...

Парвалася залатаструньне дня;
ў вячэрняй мгле загаласіла
халодная, нямая цішыня
і зоры задрыжалі ў цьмянай сіні.

Жыцьцё такая песьня—было-няма;
жыцьцё такая песьня—сон дзівосны,
і хочацца усе, абняць:
Вясну і восень . . . . . . . . .

А песьня будзе дасьпявана,
як дасьпявана не адна,—
імклівіць мора хвалямі
і быццам лёсам,
на некаторых ракавіны дна
на берагі выносіць.

1926 г.

# Бы хмель асалоды...

Бы хмель асалоды,
бы зелень галін,
на дні, што надыйдуць
вянок завілі.

Вянок завілі
і на хвалях рачных
варажылі
ў купальскай начы.

і хвалі вянок
панясьлі,
панясьлі . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Там да самага долу
схіляецца сінь...

Бы хмель асалоды,
бы зелень галін
на дні, што надыйдуць
вянок завілі.

Полацак, 1926 г.

* *
*

Да мураванае сьцяны
прынікшы ціха, сіратліва
стаіць дзіця.
У сэрцы холад ад цаглін...
Панэль ня любіць лілій.

Панэль. Ідуць прайходзяць людзі,
на вуліцы машынны бег...
Дзіцяці вочы ў пылу блудзяць,
дзіця забылася сябе.

І ўсё няўцям.

І дзівіцца дзіця:
— Як хараша грукоча горад,
якія дзівы, харастcompleted...
Такіх ні ў полі, ні ў лясох
яшчэ нясьнілася учора.

І вочы дзівяцца дзіўным,
і радасьць у душы дзяцінай,
а сэрца ня прыкметна стыне
ад мураванае сьцяны.

Полацак, жнівень 1926 г.

## АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ.

# На мяжы.

Прысьвячаю вучням Ветрынскай сямёхгодкі.

I.

Павольна, а то і са сьвістам,
загудзіць верхалінамі вецер;
непакорлівы вецер, сьцюдзёны
з узгор'яў заходняй Дзьвіны.
... Пад нагамі Буланага сьнег хрушчыць—залівaецца,
шэры, стоптаны сьнег.
Дарога санная...
Дарога нудная...
Дарога доўгая...
Спакойныя, вечна, вазёры скаваныя сінім лёдам,
зацярушаны сьнегам імглістым. Вербалозьзе,
бярозкі сагнуўшыся, зьледзянелыя моўчкі хістаюцца.
няпрыветна.
Пуста.
Звычайна.
Прасторы бязмежныя сьнег сьпеленаў, дзе-ні-дзе
Сьцяной цёмнаю лес стары,
Задуменна—сумна пакажыцца.
Калыбаю чорнаю хмары ляглі
на грудзі зямлі асьнежанай.
Няпрыхільна...
Цягуча...
Туманна...
— Яшчэ вярста!
— Яшчэ адна
і за мяжою:
жудасна...
Цікава...
Крыўдна...

II.

Мястэчка—
панурае, старое, клапатлівае.
Драўляныя, чуць згорбленыя хаты
як-бы ўрасьлі ў бель-сьнежную зямлю.

Мястэчка...
    беднасьць...
        Імкненьне жыць!
Дарогаю спаткаў, як талесы, сівога гандляра.
Ен хадзіў па вуліцы, углядаўся ў неба,
церабіў бародку і, відаць, маліўся.
— Спакойны дзень, спакойнае жыцьцё,—
так думаў крамнік, думаў так гандляр.
    У хаце, на сталэ, пад абрусам маца;
у школе ён спакойна малітву прачытае,
з суседам здолее гішэфт абгаварыць.
    Пройдзе пэйсах, пройдзе сьвята,
адчыніць крамку зноў...
зноў капейку да капейкі, так, гэтак,
дзе там гандаль,—«Эт, спакойнае жыцьцё».
    Незадоўга—недалёка гоман неўгамонны,
радасна—вірлівы прывабіў да сябе.
  Пайшлі. Спыніліся, забаўна.
    Кучаравыя дзяўчаткі і хлапцы
цешыліся першым сонечным праменьнем.
— Вясна ідзе! Ідзе вясна жаданая,
закрасавалі вочкі дзетак хараством вясны.
  Дзеткі жыцьцёрадасныя, бедната сялянская,
гульліва карагодзяць—забаўляюцца.
  Разгаварыліся, зайшлі у школу, школа беларуская.
  Цікавяцца, пытаюцца:
— а ці вялікі Менск?
-- а як жывуць і вучацца там дзеткі?
— Ці многа кніг у горадзе вялікім?
— Ці бачылі, хоць раз, вы, Коласа, Купалу?
І чытаюць вершы, з любасьцю чытаюць,
з гордым хараством, мовай чыстай, роднай.
Дзеткі любяць вершы!
Любяць вершы—
        калі льлюцца плаўна,
        калі льлюцца думкамі радасьці, жыцьця.

А за вакном віднеецца пахілая бярозка.
Стаіць у нярухомасьці заклятай,
і быццам-бы баязьняю ссутулілася, плача.
Зямелька наша!
Па дарожцы-сьцежцы зараз, вось цяпер,
хацелася-б пайсьці і страсануць, каб залілася
радасьцю бадзёраю, юнацкай,
пакрыўджаная, сумная бярозка.

— О, не! Сягоньня ты ня пройдзеш, цябе ня пусьцяць, ты ня маеш права.
Першы раз!
Першы раз, на дваццатай вясьне
жыцьця вясёлага свайго,
пачуў, як моцна сэрца сьціснулася жалем.
— «Цябе ня пусьцяць, ты ня маеш права»,—
а там пануе вораг і табе ня можна
пайсьці і сьцяць яго імкненьне да крыві.
Бедная зямліца!
пакрылася ты колерам крывавым,
пакрылася сьлязьмі нявольнікаў—братоў.

III.

... З гурбой заўсёды бурнаю,
з шустрай дзетварою,
пайшлі, як-бы вясёлыя,
на мяжу—граніцу.
Засьпявала песьню дзетвара сялянская,
а ў мяне на сэрцы смутак зашуршаў.
Глянеш, роўніца-раўніна
няма ні ўзгорку ні купінкі,
— мяжа.
Стаіць з арлом двухглавым шэры слуп,
у некалькі радоў працягнен дрот калючы,
у крокаў тры ад нас стаіць паляк-жаўнер,
— мяжа.
Непадалёку, блізка вёска выглядае,
стрэхі саламяныя, вось як і тут, у нас,
а па-за хатамі палі бязьмежныя,
— мяжа.
Змоўклі дзеткі, вочы патупілі,
крыўда спавіла,
— мяжа.
Ім цяпер ляцець-бы з сілаю наперад,
узьлётам думкі, імкненьнямі жыцьця.
Ахапіць сусьвет, захапіць узвышша
і новае сваё стварыць, узьняць,
— мяжа.
Дзетвара сялянскай беднаты,
надзея нашай бацькаўшчыны вольнай.
Надыйдзе час, віхры ўзьвіюцца,
і толькі ў памяці застанецца
— мяжа.

IV.

І сьнег, як хмары, шэрым стаў.
І вецер подыхам прадвесьні
калыша сінь лясоў.
Ідзе вясна!
Яна аздобіць радасьцю жыцьцё радзімай старану,
загоіць раны сэрца,
павевам шчасьця спавіе.
І сонечны, як дзень вясны, я бачу ў думках
родны край.
   Гордым пералівам пальлецца песьня Сонца.
Вясна ідзе!
прыдзе,
      верым:
         Радасьць,
            Сусьвет
               Сонца.

Полацак, ліпень 1926 г.





ПАЎЛЮК ШУКАЙЛА.

# На Беларусі...

На Беларсуі
вада з крыві,
палеткі з курганоў
і крыжоў.
Хто нож ёй у грудзі
ня ўбіў?..
Ня плюнуўшы ў твар
хто прайшоў?..

Адны ішлі
сьмяяліся ў вочы
Шчасьця ў словах давалі.

З камнем за пазухай
цёмнаю ноччу
трабавіну рыхтавалі...

Другія словамі навукі
бровы «серьезно надвинув»
гаварылі,
і сьвет слухаў
што беларус не чалавек—
быдліна...

Чулі шмат чаго мы,
чулі
і на сэрцы таілі.
На сьлязох
расьлі кветкі ў полі
Мы стагодзьдзямі йшлі ў магілу...

Прыш-ў час
паўсталі мы.
І мёртвыя
вышлі на барыкады.
На шляхох у нас—
агні... агні
у барацьбе за волю
і праўду...

Хто нас прыпыніць,
загародзіць пуцявіну?
Нас мільёны,
наш сьцяг—
за волю
Нам дзьверы жыцьця
ужо не зачыняць,
не загоняць
у падпольле.

Хоць яшчэ квакаюць
жабай нацыяналісты,
«русацяпы»
каркаюць варонамі
Беларусь цела
ад іх ачысьціць
высыпаўшы
сталёвымі калёнамі.

Яшчэ рэжуць цела Краіны
за Нёманам
і Дзьвіною стогн...
Касьцьмі ляжам
на пуцявіне
а трутнёў
з Беларусі
вон!...

26—XII—1926 г.
г. Полацак.

# Марыльцы.

Мары
марыш
Марылька,
Сьмехам
душыш сьлёзы...
Гавары радная
гаварыка
Аб чым там шэпчуць
Бярозы...

Засьмейся,
Засьмейся
Марылька!
Жыцьцё
абсьмей сьмехам.
Хвілінкі мяняюцца
хвілінкамі,
Жыцьцё
з хвілінак—
рэха...

Хай плачуць
людзі-мурашкі
іх душы вякамі
напоўнены сьлязамі.
Шлях жыцьцёвы
наогул цяжкі,
Зачым яшчэ
плачам цяжарыць...

Засьмяемся
з табой,
зарагочам,
Песьняй
жыцьце
зробім вясельле.
Мы ж
ня ныць
а жыць хочам,
кружыцца ў жыцьцёвым
пахмельлі...

Расоны, 1926 г.



## ЯНКА ВІДУК.

# Пэрлы дзен.

Мой розум
ня тухне у падпольлі,
ня бутляюць
у заняпадзе
нэрвы.

Прыслухаешся—
кроў юнцом гамоніць
і пырскае
дзён русакудрых
пэрлы.

Мой жыцьцяцьвет
ня стане жоўталісьцем
і не сьпяе
сымфонію мне ростань.

Я не хачу
узьлезьці на узвышша—
няхай само
узвышша
мяне просіць.

Каб сэрца мог
я паказаць
усім,
вырваўшы яго
з грудзей кляшчотак—

Зьдзівіліся-б
бо на 120 сіл
энэргія
вулканам клакоча.

Хто думае
што бура
і віхор
Ня могуць быць
адбіткамі
натуры?
А, я скажу:

і мэтэор
нішто
супроць імкненьняў бурных.
І розум мой
ня тухне у падпольлі
ня кіснуць
у запрудзьдзі нэрвы
Мая душа
і сэрца
ў комсамоле
выкрэсаюць
дзён русакудрых
пэрлы!

Расоны, 15—x—26 г.

## З лейцамі сьвежых дум.

З лейцамі сьвежых дум
пад стазвон каласоў на душы
па полі сягоньня пайду,
задушу у абнімках шыр.

Няхай б'е мне вясна паклон,
а я песьню сьпяю ёй у дар.
Можа ўсьплясьне задуманы клён
пад мой на цымбалах удар.

Можа ўсхліпне каліны куст
і сьцяне галавою у тахт,
бо на тое-ж я беласус
каб няўтомна іграла рука.

Бо на тое-ж люблю я сьвет,
каб яго цалаваць нагбом.
О, каб быў я штатны паэт
сваю душу зрабіў-бы ў звон.

Але з лейцамі сьвежых дум
пад стазвон яравых каласоў
я па полі сягодня пайду,
буду пець
хоць-бы нават бяз слоў.

Расоны.



## ПЯТРУСЬ БРОЎКА

* * *

Ой, ды над узгоркамі
Зоры срэбраясныя!..
Закахаўся зоркаю
У хвіліны шчасныя.

* * *

Ў ночанькі ліпнёвыя,
ночанькі квяцістыя
Пахі піў сасновыя
з зоркай прамяністаю.

Пілі ды ўпіваліся
шырынёй пахучаю...
Ой, ды любаваліся
зоранькай бліскучаю.

* *
*

Сёньня-ж за узгоркамі
сінія мяцеліцы...
Залатымі зоркамі
думкі мае сьцелюцца.

г. Полацак, 1926 г.

# Ня буду я стаяць на раздарожжы.

Лісты, лісты бяроз сягоньня мне сьпяваюць,
А я паклоны б'ю адказам на прывет.
Хай радасьць дум маіх у полі разьліваюць
Ракой бурліваю ў пахучы ружацьвет.

К табе кудравая, што вісьне над лагчынай
Прыду, прыду каханьня піць віно.
Мо' ты на радасьці ды страсянеш чупрынай
І заплюскочам даль мы песьняю адной.

Туманнай раніцай, сьпяваць мне хочацца,
Пад той бярозкаю ды слухаць салаўёў,
Дзе сьпеў палёў у зелені палошчацца...
І дораг той напеў, хоць і няма ў ім слоў.

Сьцюдзёная журба і крыўда ў сэрцы нікне
Калі у шырыні бурлівіць сьпеў вясны,
І зьнік сівы туман у даліні блакітнай
Пад куплам сінявы радзімай стараны.

Ня буду я стаяць, стаяць на раздарожжы,
Вачмі маркотнымі блукаць у далячынь,
Ў шляху квітнеючым, ды ў колерах прыгожых
Ніколі не авее мяне увосень стынь.

Дык пакланюсь зямлі і стану на калені
Прад росквітам тваім, прыгожы ў кветках дзень,
Няхай ў палёх маіх адвагай радасьць пеніць.
Каб крыўды ды й журбы не засталось нідзе.

г. Полацк 1926 г.

* * *

Майскім раньнем я вас пакідаў,
Аксамітна—зялёныя ўзьмежкі.
Майскім раньнем прыду прывітаць,
Радасьць дум па загонах разьнесьці.

Ой! ты рэчка, паяс серабра!..
Што купаешся ў траўцы шаўковай.
Ля цябе я свой сум разганяў,
Варажыўшы аб вёснах, аб новых...

Сэрца там ня скрыпела тугой,
У грудзёх не сьціскала ад болю.
З ціхім шэптам радных мурагоў
У радзімых прасторах сваволіў.

Хоць клякоча, бурлівіць жыцьцё
Б'е і пеніць агнём ў камяніцах,
Прад табою, зялёны прастор,
Я схіляюся сёньня ніцма.

* * *

Стары друг мой!—стальная каса
Ты напэўна сумуеш па мне?..
Будзем росы з табой разсыпаць,
Што каралямі зьзяюць ў траве.

А як сонца прысядзе за лес
І зардзеецца захад малінай,
Будзе песьня ад нас ў даль ляцець
Запалошчыць узгоркі, лагчыны.

Ў захад ветлы, ліпнёвы—празрысты
Будзе ветрык гуляць у паветры,
А мы з другам маім гарманістым
Будзем кідаць мэлёдыі ветрам...

Прыдуць, прыдуць да нас шмат дзяўчат
І мая златакосая Ганна...
Мы на прызьбе усядземся ў рад
Песьні будзем сьпяваць да заранак...

Дык прыду... не пакіну пяяць
На палёх тваіх, родная вёска.
Няхай песьняй шуршыць сенажаць,
Хай вясна рассыпае пялёсткі...

г. Полацак, 1926 г.

## ПАЎЛЮК ШУКАЙЛА.

# Аднойчы вясною...

(АДРЫВАК З АПОВЕСЬЦІ).

Хваісты лес ківаў кудзелямі галоў... Сонца залаціста-срэбным пералівам сваіх праменьняў песьціла іх. Грэбень-вецер пяшчотна расчосваў і кучаравіў як валасочкі перабіраючы зялёныя лісткі адзінокай бярозкі. Яны шапацелі,
штоосьці, гаварылі,
сьпявалі,
ігралі—
гралі сымфонію,
якой—сусьветнай кансэрваторыяй
прысвоена назва:—
Шалясьценьне.
Прыгожа. О, як прыгожа!

* * *

У-лю-лю-лю-лю-лю...

Чуліся гукі пасьвісьцёлка ў хваёвым лесе, жалобныя, сумныя,—як пахавальная песьня, гукі.

У-у-у-у-у

Адказала дзесьці карова, быццам гаворачы іграку:—хадзі сюды, мне адной, таксама, сумна, заграй песьню, хоць-бы й сумную...

Клін клінам выганяюць.

Іграючы зразумеў жаданьне каровіна. Па зьвілістай сьцежцы, вядучай у напрамку к гукам вышаў белавалосы хлапчук год—дванаццаць.

У губах быў пасьвісьцёлак.

Ён усё іграў...

* * *

З-за куста паказалася карова

. . . . . . . . . . . . . . .

Перастаў сьвісьцець пасьвісьцёлак.

Вочы хлапчука глядзелі, не пазнавалі карову:

Чыя?..

Дзе яго?..

. . . . . . . . . . . . . .

Зьмяніў ход-пабег...
Упор з-за куста паказалася дзяўчына...
Абое спалохаліся.

— Ясуль!

— Люба!

— Ты ня бачыла мае Лысае?

— Не, а што?

— Ды вось не найду ніяк. Пайшоў у возера ваду піць, заставіў яе пры беразе, прышоў і яе няма, — зьнікла. Пайду шукаць...

— Ідзі, гукай. Адкажу каб не зблудзіў.

— Нічога, добра...

* * *

— Лысая,—у-у-у-у-у!..
гукаў карову хлапец, чакаючы водгука.

* * *

Сонца глядзела толькі палавінаю, калі пры апошнім аукань-ні ў недалёку ад Любы паказаўся заплаканы аднавясковец Ясюль.

— Няма?

— Не найшоў..,

* * *

Моцна ўшчарэпіўшыся за валасы, Ясюль паіў сьлязмі зямлю.
Люба супакайвала яго

— Кінь плакаць, знойдзецца...

— Як жа гэта я да хаты вярнуся, ды тата мяне задушыць. Што ж гэта я нарабіў!...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Белакурая дзяўчына—Люба адцягнула рукі ад валасоў белакурага Ясюлькі.
Сьціснула іх...
Прытулілася да яго...
Яны плакалі разам...
Яны ня родныя—
толькі з аднэй вёскі...
Яму было дванаццаць...
Ей было дзесяць..,

* * *

Месяц сачыў за зямлёю.
Зоркі трымалі варту,—калі з хаты з вастрожнымі вакенцамі, скуль кідаўся слабы сьвет лучыны, чуўся голас:
«Ой татулечка, міленькі, родненькі

Пусьцеце, ня біце.
Я больш ніколі ня буду.
Я пайду шукаць карованьку.
Знайду...

* * *

Месяц, як бы знарок, пакіраваў свае ногі ў бок ад хаты Ён не хацеў перашкаджаць катаваць дзіцё, хоць гэта яго быў абавязак, як вартаўніка.

* * *

Што-сь клубком перакацілася цераз парог сяней і як жаба папаўзло пад грушу-дзічку, якая стаяла неўдалёку.

Чуцен быў стогн
маладой,
яшчэ не распусьціўшай добра храсткі,
душы...

* * *

Пазадзе хаты прабегла чыя-сь цень у хустцы...

* * *

На парозе паказалася фігура нізкай, тоўстай, як двацнатка-кадушка ад селядцоў—жанчыны.

У руках быў кубак і міска...

— На йдзі зьеш адваронікаў з масьлянкай.

— Каб ты ведзьма пранцаў наелася, як ты накарміла сёньня мяне праз тату—адказаў ком, з белымі валасамі з-пад грушы-дзічкі.

— Што? Ды я цябе заб'ю... Рыгор, ты чуў, што твой сынок кажа... Вось вывучыў, вось якое маё шчасьце. Пасынак пранцамі корміць, за маё добрае, што кармлю, абшываю, ды абмываю...

* * *

З хаты нёсься бацька,
У руках была вяроўка...

* * *

Пад грушай-дзічкай нікога ня было... Чысеь ногі адлічвалі на сто ў хвіліну напрамкам за сяло...

* * *

Ціха на вясковых могілках у майскі вечар.

Лісткі бяроз цалаваліся з жукамі, якія жужжалі і напявалі любоў к лісткам...

* *
*

Хто вечарам ідзе на могілкі?
Ясь.
Кім нарушана гэтая сымфонія сьпеваў жаб?
Ясем...
Хто перашкодзіў салаўям пачаць пяяць?
Ён
Чые чутны словы на раскопанай сьвіньнямі магілцы:
Мама,
чуеш,
бачыш,
маю пакуту?..
Устань,
збаў,
паглядзі...
да сябе вазьмі!..

На чыіх сьлязах расьлі ўцалеўшыя ад сьвінога рыла магільчыны ягадкі?
— толькі на Ясіных...

* *
*

Што-сь шаляснула за сьпіной Яські.
Сэрца млее...
А што ды пакойнік?..

* *
*

— Яська-гэта ты?..
Ціха, ціха... Рука не пакойніка,—а... Любы
Абвіла шыю Яські.

— На хлеба з маслам...

* *
*

Нурцом упаў Яська на могілкі.
Сьлёзы яго паілі зямлю...
Любчыны цяклі на яго...
Яму было дванаццаць...
Ей—дзесяць.
У яго цёмная і злая мачыха...
У яе цёмны, злосны айчым.

* * *

Засыпаў Яська
на руках у Любкі...
Засьвістаў салавей...
Прыціхлі жабы...
З-пад возера паказаўся вялікі чорны сілуэт.
Пачулася прадоўжнае рыканьне...
Яська ўздрыгнуў...

* * *

Месяц хаваўся то за адным, то за другім воблакам.
Ён забываўся аб сваіх абавязках вартаўніка.
Ён закрываў вочы перад жартамі жыцьця...

* * *

Жабы змоўклі, салаўі сьціхалі.
З душы лілася ня песьня—
а сум...
Станавілася ціха,
зусім ціха...
Ціха, ціха...

10 IV—26 г., в. Расоны.



ГАННА БРЭСКАЯ.

# Францішку Скарыне.

Сёньня сонца нам радасьцю сьвеціць,
Заліло ясным золатам дзень.
Я хачу праз сівыя сталецьці
У мінуўшчыны даль паглядзець.

Зелянеюць на гонях пасевы,
Сочнай руньню ўзыйшоў маладняк.
— А ў вякох непраглядная цемень,
Засьцілала жыцьцёвы шлях.

Ой, вы родныя сьпелыя нівы!
Хто вам цьвёрдую глебу узьняў?
...Мне прыпомніўся вобраз Скарыны
З поўнай жменяй жамчужын—зярнят.

Запаліў ты праменьнем іскрыстым
Крыўдай вечнай засмучаны край.
Па грунтовай зямлі камяністай
Сьвежай ранай прайшла баразна . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нахілілася долу калосьсе,
Ціхім шэптам вітаньне нам шле,
Рассыпаецца чырваньню сонца,
Усьміхаецца радасны дзень.

Полацак, 1925 г.

---

# З каукаскіх напевау.

Белай шапкай калышацца хмель
Паміж гор, дзе бягуць радлікі.
Мае думкі аб новай вясьне,
Ў маіх песьнях ізноў васількі.

На хвіліну агорне журба,
Ня журба, а жыцьцёвы надлом,
Што люблю сакаліны размах,
Што жадаю зімой васількоў.

Я жаданьням дарыла простор,
Хай умруць на марскіх берагах.
Дзікім сьмехам рачога прыбой,
Ў сініх хвалях радзілася рань.

Ў сініх хвалях радзілася рань,—
Сонца косы палошча ў вадзе...
Дык чаго, дык аб чым сумаваць?
Не сягоньня, дык заўтра мой дзень.

Не сягоньня, дык заўтра ў душы
Празьвініць рой разбуджаных слоў...
Не хачу ні аб чым варажыць,
Ні жалець, што ў гадах адцьвіло...

Паміж гор, дзе бягуць радлікі
Белай шапкай калышацца хмель.
Ў маіх думках цьвітуць васількі,
Мае песьні аб сьветлай вясьне.

Каўказ. Чорнамор'е, 1926 г.

---

## КАСТУСЬ ПЧАЛКОЎ.

# Вечар.

Падняўся маладзік бялясы!
Падняўся дзесьці аж з-за гор...
Ой, вечар срэбрана-бялявы!...
Ой, вечар—струнаў перабор!...

О, шчасьце, шчасьце пераэвонаў
У рута-мятах разьлілося;
Нам шчасьце чуецца у звоне
У звоне ласкавым калосьсяў...

І далі, далі пунсавеюць
І у вачох гарацъ вясёлкай...
У сіні вечар, ціхі вецер
Павеяў радасна-вясёла...

Ой вечар, срэбрана-бялявы!
Ой вечар,—струнаў перабор!...
. . . . . . . . . . . . .
Падняўся маладзік бялясы,
Падняўся дзесьці аж з-за гор.

В. Забельле, 1926 г.

* *
*

Па зямлі пасланіся шызыя скрозь цені,
Змрок дарагую акутаў зямлю,
А туман паслаўся ў пухавай пасьцелі
І я ў яго чары сёньня акунуўся.

Разьлілася сёньня навакол прыгожасьць—
Ад таго і хочацца шчыра прапяяць.
А ў аўсох ядраных, ў заірдзелых пожнях
Ня сьціхае вецер.,. Шэпча сенажаць...

Я іду зялёна-вузенькім узьмежкам,
Гольлем нахіліўся малады мне гай...
І сьмяецца вечар ласкавай усьмешкай,
А на небасхіле чырвань патухае.

І ўсё навокал ўсё як у крышталі.
І цудоўнай казкай мне шапоча гай.
Дзіўныя такія, пацямнелі далі,
Вышаў сіні вечар зоры рассыпаць.

Ой, ды прыгалубілася туманамі верба
(ці гэта здаецца, ці гэта здалося),
Толькі усьміхнулася мне сузор'ем неба,
Вецер ціха кратае гушчыню валос...

Ой, і люба выйсьці сёньня на прывольле
Калі радасьць буйная у траве зьвініць...
І спаткаць прыгожыя вечары у полі,
Слухаць сенажацяў залатыя сны...

Па зямлі паслаліся шызыя скрозь цені
Змрок дарагую акутаў зямлю,
А туман паслаўся ў пухавай пасьцелі
І я ў яго чары сёньня акунуўся.

Валынцы, 1926 г.



СЬЦЯПАН СЯМАШКА.

# На пакосе.

Эх пара, пара пакосная! З расой
У радкі трава кладзецца пад касой.
Бязупынна ў небе жаўранак пяе,
Сонца сьпёку на касцоў агнём ліе...
Эх і сьпёка-гарачынь!... Аж папацелі.
Бель-кашулі так ліпнуць, ліпнуць к целу.
Сена з краскамі пахучымі ў стагох.
Старыкі і маладыя на лугох.
Косы звоняць упіваюцца ў траву,
Ў сакавітую кваціcту мураву...
Ціхі ветрык, бы жартуючы з травой,
Нахінае яе к долу галавой,
Покуль тая не расстанецца з расой,
Ды ня схіліцца пад востраю касой.
А там ў высі з сінякудрай галавой
Хмарка крадучысь спусьцілась над гарой.
— Эй, жывей вы там, кабеты,—трэ' сачыць,
Каб сухое сена нам не замачыць,—
Непакояцца мужчыны за пакос,
і кідаючы няскошаны пракос
Пачынаюць працаваць ўжо на стагох.
І кіпіць работа дружна на лугох.
... Эх і люба ж на зары касіць з расой!...
У пракосы луг кладзецца пад касой.

## ЯЗЭП КОЗІК.

# Трыолет.

З жыцьцём інакшым у душы
Я пакланюся ў сінь прадвесьняў
І хай сальлюцца думы-песьні
З жыцьцём інакшым у душы..

Хай залатое сонца ўзьвесьніць,
Асерабрыць нямую шыр —
З жыцьцём інакшым у душы
Я пакланюся ў сінь прадвесьняў.

М. Валынцы 1926 г.

# Настрой.

Нейкімі другімі мы выходзім у людзі,
Неяк болей сілы у плячох, руках...
Мы бадзёрай вышлі на жыцьцёвы шлях,
Дык туга увосень не сашчэміць грудзі.

Не хачу душою я крывіць ніколі,
І хлусіць ня хочу прад самім сабой.
Лепш жыцьцё авею радасьцю хмяльной
Каб пакінуць звычай праклінаць нядолю.

Ой, я вып'ю хмелю срэбраліты кубак,
Каб любіць жыцьця вірлівае прадоньне...
Я ня буду хмурыць у сумоце скроні
Бо у маладосьці не завянуць губы.

* *
*

Эх, далі, далі! Не праменіць
Вас срэбра восені ў цішы...
Бярозы сталі на калені
І не пяюць ў нямую шыр...

Люблю глядзець вачыма ў далі,
Дзе дрэмлюпь вербы над ракою,
І як імпэтлівыя хвалі
Чароўна з лозамі ракочуць...

Пад говар струн, душы сугуччаў
Растане смутак ў словах шчырых...
Больш не акропіць сьлёз гаручасьць
Калісь заплаканыя шыры...

І я, і вы—імкнемся ў далі,
Дзе рубяжы пад сонцам зьнікнуць
І думкі—бы на мель каралі
Выносіць мора ў шпаркай плыні...

Ніколі не спаткаюць ростань,
Жыцьцём палаючыя вочы...
Яны усюды зіркам вострым
Прыгожае заўсёды сочаць...

Чаго на сьвеце мы ня любім?
Хоць часам путае хмель ногі.
У словах кволых, ў словах грубых
Нясём ад сэрца праўды многа.

М. Валынцы 1926 г.



РЫГОР ХВОЙКА.

# Над дзьвіной.

Над Дзьвіной шумліваю
Валам мкнуцца хвалі,
Коцяцца на бераг,
Дзе расьце трысьцё...
Я гляджу, як вабна
Ружавеюць далі,
Як прыгожа сонца
Залаціць лісьцё...

Я глядзеў на Полацак,
Дзе жыцьцё віхурыць,
Дзе гудзяць напевы
Новых, сьветлых дзён.
Камяніцы грозныя
Камяніцы хмурыя...
Эх,
І многа-ж крыўды
Выцярпеў ужо ён...

Быў ён і пад шляхтай,
Быў пад масквічамі
І з Дзьвіной ліліся
Сьлёзы палачан...
А цяпер квітнее

Залатымі днямі
І ўжо песьняй новай
Вуліцы гучаць...

Бо зямля саветаў
Даражэй і бліжай,—
Новаю напеўнасьцю
Зашумелі дні...
Вецер над Дзьвіною
Вольны сьпеў калыша
І люстраццца хвалі
У праблісках зарніц...

Горад!
Новы горад!
Весела з узвышша
Ты сьмяешся гоманам
Соцен галасоў!
Бо зямля саветаў
Даражэй і бліжай
Бо' й між камяніцаў
Чуцен сьпеў аўсоў.

м. Ветрына.

* *
*

Ружавее вёска
Кветкай ружавее...
Радасьць у праменьні
Сонечным імжыць...
Думка вольнай працы
Нібы вецер вее.
Жыцьцё маладое
Няспынна бяжыць.

Васільковай сіньню
Весела шугае
І пяе як птушка
Ветрык малады.
Ах, мая радзіма—
Вёска дарагая,—
Я цябе ня кіну
У гэткія гады...

Вецер, вольны вецер
Нахіліў калосьсі...
Вецер, буйны вецер
Вее у палёх...
Знаю я і веру
Залатую вёску
Не спаткае болей
Нешчасьлівы лёс...

Знаю—
Кліча горад
Грукатам варстатаў...
Хай...
Загартаваным зноў прыду ў палі,
Бо ня знаў радзімей
Заімшалых хатак.
Бо ня знаў радзімей
Роднае зямлі...

м. Ветрына 1926 г.



П. АЛЕСІН.

# Сьцежкі крывыя.

(АПАВЯДАНЬНЕ).

I.

Плакаў за ваколіцай гармонік...

Будзіў пачуцьці, заліваўся і заміраў у бязьмежжы шырокіх палёў. Узьнімаліся акорды высокія, сьмелыя. Была ў іх нейкая разгульная, радасная, разухабістая ўдаласьць. Высокія ноты раптам пераходзілі ў нізкія, густыя, замiраючыя... Кідаліся некуды ў даль, танулі ў зялёных абшарах палёў і клікалі кудысьці ў далячынь нязьведаную...

Эх, радасьць ты, радасьць кіпучая!
Эх, землі вы, землі радзімыя!
Эх, песьні вы, песьні родныя!..

Бялявы месяц сваім прыгожым, як маладосьць тварам рассыпаў срабрыстасьць дрыжачую ў зялёныя гушчыні садкоў. Абліваў мяккім сьветам усё навокал...

Было ціха ў вясновым сьвежым паветры. Толькі звон гармоніка, ды рассыпчаты, як срэбра звонкі сьмех дзяўчат і хлапцоў зьліваліся ў адну сугучнасьць, у вадну стройную, вясёлую, поўную гарманічнасьці мэлёдыю...

Гэтыя гукі сьмеху і песень клікалі да сябе, вабілі сваёю весяласьцю. Хацелася плысьці разам з імі па бязьмежна-шырокіх абшарах радзімага краю. Хацелася імкнуцца ў няведамыя далі. Хацелася жыць.

О, як хацелася зьліцца разам з гэтай грамадой, далучыць свой малады жыцьцярадасны голас да другіх галасоў, каб разам з гэтай грамадой жыць адным жыцьцём сягоньнешнім, захапляцца тымі-ж імкненьнямі маладосьці, маладой, як гэта сьвежая вясна, Юльцы.

Такія ўсе блізкія, такія знаёмыя гэтыя галасы. Іх можна пачуць толькі ў самым росквіце сіл і надзей, у самы разгар адчуваньняў.

Гэта ўся невядомая трывожнасьць і радаснасьць сінявейных вечароў не адзін раз калыхала грудзі, узьнімала завіруху і заклікала да жыцьця маладую Юльку.

Няхай было кепскае, бязрадаснае жыцьцё, няхай загінуў праз чорны кавалак хлеба яе бацька і прайшло ў вечных недахопах і цемры жыцьцё яе маткі і сама яна бачыла мала сьветлых хвілін у сваім мінулым жыцьці, але гэтая цяжкая і напруджаная праца, вечнае імкненьне да лепшага, з верай у гэта лепшае, навучылі яе любіць размах шырокіх бязьмежных палёў і прыгожыя родныя песьні. З песьнямі яна ўзрасла, з песьнямі праходзілі гады яе маленства, з песьнямі і цяжкая праца рабілася лягчэйшай...

Стаяла Юлька на ганку, прыслухоўвалася да песьняў, што несьліся з-за ваколіцы і думала.

Вось людзі жывуць, вяселяцца, сьмяюцца, а заўтра? Заўтра—сэрца, якое стукала сягоньня, кранецца, зробіць апошні удар і стане... І так спрадвеку — учора яны, сягоньня — мы, заўтра другія. Такі закон жыцьця.

Так думала Юлька. І ад гэтых дум нейк сумотна рабілася ёй. І халодна у душы станавілася.

А цемра вячэрняя гусьцела вакол. Ахінала зямлю вэлюмам чорным. А зоры, бы авёс залаты рассыпаліся па сіняму, цёмнасіняму небу. Міргалі зоркі залатыя... А вятрыска ціхі і ласкавы ласкатаў шыю, твар, грудзі.

— Ой, як хораша!.. Ой, як хочацца жыць!..

* * *

Ночка ты мая, ночка смугая!..
Зоры вы мае, зоры брыльлянтавыя!..
Землі вы мае, землі раўнінныя!..
Радзіма ты мая, палявая, ціхая!..
Ветры вы мае, ветры ласкавыя!..
Палі вы мае, палі неабсяжныя!..

Абнімаўся з вамі. Цалаваў вас. Гімны складаў вам. Душу аддаваў вам. Сэрца аддам вам. У навальніцы грозныя, крычаў з ветрамі разам. У дні пагожыя радаваўся з вамі. Маліўся ў сіні блакітныя, у далі зялёныя...

* * *

— Ой, як хораша!.. Ой, як хочацца жыць!... Пабегла-б у прасторы, зьлілася-б з імі, шапацела-б з палямі!.. Але — жыцьцё.

Цэлыя тры дні, неадходна стаяла Юлька пры ложку маткі сваёй хворай; усім, чым магла старалася дапамагчы ёй. Словам ласкавым, словам цёплым суцяшала матку. Усьміхалася, гаварыла, як яны жыць пачнуць калі выздаравее матуля. Вясёлай

усьмешкай, што з твару ня сходзіла супакойвала матку. А на душы была чорная, беспрасьветная ноч. Ня верылася, каб зьбітая гаротным жыцьцём маці лёгка папpавілася. Яе добры дагляд за хворай, яе ласкавыя словы ажыўляюча дзейнічалі на матку. На чацьверты дзень ёй зрабілася лягчэй. Яна ціха і спакойна заснула.

Юлька стаяла на ганку і прыслухоўвалася да ўсяго жывога ў прыродзе. Гэткім вечарам радасьць усяго жывога чуецца ў кожным шапаценьні, у кожным шолаху. У гэтакую пару можна сумаваць толькі тады, калі чалавек адзін. Ен сам сабе здаецца тады такім маленькім, нікчэмным, са сваімі трывожнымі імкненьнямі, са сваімі глыбокімі думамі. Харaство, што вакол яго, падаўляе сваёю велькасьцю, сваёю дзіўнай красой...

...Юлька стаяла на ганку. Сьвежы повеў вячэрняга паветра ласкава хваляваў яе чорныя валасы. Поўнай грудзьдзю ўдыхала яна сьвежае чэрвеньскае паветра і чула прыслухоўвалася ці ня стогне ў хаце старая маці. А так хацелася пайсьці да гэтай маладой вясёлай гурбы хлапцоў і дзяўчат...

Раптам яна выйшла з свайго зачараванага задуменьня. Пераліўчатыя гукі гармоніку і песень набліжаліся... Набліжаліся і плылі ўсё бліжай і бліжай... Узрасталі, рабіліся жывымі і балючымі, калыхалі грудзі, хвалявалі сэрца маладой Юлькі. Грамада падыходзіла бліжэй і бліжэй... Вось яна ўжо праходзіць па вуліцы паўзвароты хаты Юльчынай маткі, а Юлька стаяла зачараваная і слухала, і слухала і не хацелася скрануцца з месца, каб ня згубіць гэту дзіўную мэлёдыю родных песень і сугучнасьць сваёй душы...

---

II.

Малады і неспакойны быў Арцём Ліцкевіч. Ён жыў і браў ад жыцьця ўсё тое, што магло яно даць, чым магло яно яго задаволіць, якіх бы ахвяр гэта не каштавала. Весела і багата жыў ён у свайго бацькі. Ня ведаў ён ні гора, ні пакуты.— Змалку прывык ён глядзець звысака на гаротнае сялянскае жыцьцё. Дзяцінства яго працякло роўна і спакойна. Сын багатага бацькі, які з даўных часоў арандаваў панскі маёнтак, ён ня ведаў таго гора, якое ведалі сялянскія дзеці, ён проста глядзеў на жыцьцё, і з кплівасьцю адносіўся да чужой пакуты, да чужога гора, да чужых сьлёз...

21 году, бойкі сьмелы і разумны ён, як спадчыну, ўзяў ад сваіх бацькоў хітрасьць і хцівасьць. Таксама, як і яны ён ведаў, дзе можна ўзяць і дзе можна згубіць сваё... Нядарам ён хваліўся, што яму заўсёды і ўсюды вязе. За што-б ён ня

ўзяўся, ён заўсёды даводзіў яго да канца. Настойнасьць і ўпартасьць для дасягненьня сваёй мэты, якая-б яна ня была—кепская ці добрая,—заложана была ў яго натуры... Прызвычка глядзець на жыцьцё праз ружовыя акуляры прывілася да яго натуры, яна ўрасла глыбокімі карэньнямі ў яго істоту. Кутнуць, пагуляць і нашумець, каб слава аб гэтым пайшла на ўсю ваколіцу, было для яго любімаю справай... І гэта слава яго была вялікая... Шырокаплечага, прыгожага, сьмелага Арцёма ведала і баялася ўся ваколіца... Ні адна дзяўчына не адварачвалася ад яго сьмелага зірку. Але сёньня было іначай. Мо' першы раз у жыцьці так глыбока, так трывожна засумаваў Арцём...

Чаго?

Ён і сам добра ня ведаў. Нешта неадчуванае дагэтуль, дзіўнае такое, запала ў яго маладую непакойную душу... Нейкі дзіўны вобраз непакоіў і паліў яго, хваляваў думкі і выплываў з вячэрняга туману... Не хацелася ні пець ні сьмяяцца і ён задуменны моўчкі ішоў па вуліцы з вясёлай гурбой...

Дзівіліся дзяўчаты, дзівіліся хлопцы, жартавалі, што вечна вясёлы і задзёрысты Арцём сягоньня быў хмурны такі...

У другі раз, гэтыя кпіны гэтыя жарты закранулі-б Арцёма, ён-бы ня стрымаўся, ён бы даў адпор, але сягоньня ён маўчаў. Іх словы яго мала трывожылі...

...Арцём адстаў ад гурбы...

У вячэрнім змроку заміралі гукі сьпеваў і сьмеху грамады. Яны павольна аддаляліся ў цьмянасьці сьвежага чэрвеньскага вечару.

Арцём застаўся адзін...

Ён спыніўся ля частаколу Юльчынай хаты і замёр. Ён убачыў як на ганку у вячэрнім змроку вырысоўваўся няясны сілуэт Юлькі... Нешта нязвычайнае, неперажытае дагэтуль агарнула яго душу. Кранула яе і прымусіла захвалявацца, мінорна загучэць... Так дрыжачая рука музыкі прабяжыць па лёгкіх струнах і прымусіць іх дрогнуць і доўга і ціха гучэць...

— Юлька!... — ірвалася з яго грудзей... Хацелася крыкнуць, паклікаць, але не адважыўся. А яна такая ціхая, такая прыгожая і сумная стаяла і думала...

У яе вушшу, у яе думках яшчэ стаялі гукі песень і сьмеху толькі што прайшоўшай грамады. Яна глядзела ў цемнату вечару і раптам убачыла нейкую постаць ля частаколу...

Убачыла: ўздрыганулася...

Такой знаёмай здалася яна ёй... Убачыла—і скаланулася. Затахкала сэрца ў маладых грудзёх—нібы спужалася...

Ціха было...

— Юлька!..—нібы пачуўся ёй ціхі дрыжачы шопат... Ці гэта здалося ёй, ці гэта сапраўды нехта кліча...

Ціха было...

---

III.

...Як гэта сталася, як гэта здарылася—і сама Юлька ня ведала. Нейкія тонкія заблытаныя сеткі апл талі яе маладыя дзявочыя думкі. Поўная сілы, поўная маладога агня, Юлька часамі ў цемры чарнявай чэрвеньскай ночы моцна прыціскала да грудз й гарачую, абагрэтую маладым целам падушку. У яе маладой галаве ўзьнікалі такія трывожныя, такія неразгаданыя сны, ад якіх Юлька, не сапсаваная брудным жыцьцём, чырванела, як майскае ціхае раньне... І калі прачыналася, ёй рабілася сорамна ад гэтых сноў... І тады доўга, пад нямоўчны трэск цьвіркуна нейдзе ў шчыліне хаты, Юлька думала.

І нявольна перад ёй няясна вырысоўваўся чамусьці вобраз Арцёма.

— Які ён прыгожы і які добры,—думалася Юльцы. Але чаму яна думае аб ім? І сама яна ня ведала. Неяк сам гэты вобраз прышоў да яе, зачапіў душу, апаліў пачуцьці і больш не пакідаў яе. Мо' таму, што маладая дужа Юлька была і яшчэ ня ведала ўсяго бруду, усяе фальшы, якія бываюць у жыцьці.

З таго часу калі Арцём пачаў часьцяком праходзіць каля яе варот; нібы ў нейкім глыбокім задуменьні, ласкава закідаць зірк на яе вокны, яна пачала адчуваць нейкую непакойнасьць.

Ён увечары тайком прыхадзіў пад частакол, хадзіў, спыняўся і доўга, доўга глядзеў... І калі Юлька выходзіла на ганак, яна ўжо не баялася, як у той першы вечар, калі убачыла яго постаць за плотам. Яна ўжо ведала, што гэта постаць Арцёма. З якім-бы здавальненьнем пабегла-б яна яму настрэчу, але нешта стрымлівала яе, мусіць тая дзявочая сарамлівасьць, якая прымушала ўспыхваць яе ружовыя, як мак, шчокі, калі яна сустракалася з Арцёмам удзень...

А ён такі прыгожы і добры, як здавалася гэта ёй, так ветла, так пасяброўскі вітаўся з ёй. Так спачуваючы пытаўся пра здароўе яе маткі, так ласкава і добра гаварыў з ёй...

І яна чырванеючы адказвала яму. Цяпер неяк ужо ня дзівіла яе, што гэты горды сынок багацея-арандатара, які звысака глядзеў на сялянскую беднату і ня лічыў яе роўнай сабе—Арцёму, так дружна і проста гаворыць з ёй...

Ці то назнарок, ці то выпадкова, амаль заўсёды, калі Юлька ішла ўвечары з працы, Арцём спатыкаў яе, гаварыў пару

ласкавых і цёплых слоў і нібы сьпяшаючыся ішоў далей. А яна доўга ўвечары ўспамінала такую стрэчу.

Ей самой хацелася бачыць яго, хацелася часьцей спатыкаць яго і станавілася сорамна ад гэтай думкі...

Раз адвячоркам Юлька ішла з працы. Яна заўсёды хадзіла адна. Ці таму, што пазьней за ўсіх заставалася на працы, ці таму, што характар быў у яе такі. Неяк дзічылася яна грамады, нібы пужалася яе. Так і цьвіла дзікаю прыгожаю краскаю.

Такою ведала яе ўся вёска. Так і ў гэты раз. Дробнаю, але ўпругаю паходкаю яна ішла з поля зялёным засьценачкам. Высокія грудзі ўздымаліся пад белай лёгкай сарочкай ад хадзьбы і яна ўдыхала імі сьвежае паветра.

А змрокі гусьцелі...

Спакойна і добра было на душы Юлькі..

І калі праходзіла цераз невялічкі алешнік каля сяла яна ўбачыла як настрэчу ёй ішоў Арцём.

— Юлька!.—. ласкава і ціха прамовіў Арцём. Яна-ж засаромеўшыся прывіталася з ім. Некаторы час абое йшлі моўчкі...

— Чаму ты Юлька такая сумная заўсёды, — загаварыў Арцём—заўсёды адна, заўсёды ў старане ад другіх?

Юлька маўчала.

— Чаму, скажы, ты заўсёды стараешся ня бачыцца са мною. Праходзіш і вачамі ня ўскінеш?

— Н-няведаю...—неяк нібы саромячыся адказала Юлька.

Гутарка не вязалася і Арцём пачынаў злаваць. Нейкае нездавальненьне адчуваў. А Юлька маўчала...

Змрокі гусьцелі... Над роснымі сенажацямі ўздымаўся белы туман...

Арцём правёў Юльку дадому. На разьвітаньні яна моўчкі падала яму руку і разьвітаючыся ён адчуваў, як яна затрымала яго руку трошку даўжэй... Шархануўшы спадніцаю яна схавалася ў хаце, а Арцём павольна раздумваючы нешта пайшоў па вуліцы.

* * *

Гэта неяк само прышло да Арцёма. Натура сапсаваная змалку—Арцём усё-ж ня быў натолькі сапсаваны жыцьцём, каб сьвядома ўчыніць якую небудзь подлаcьць. Ен тварыў яе, лічачы, што гэта толькі разухабістасьць яго. Ен ніколі не зьвяртаў увагі на ціхую чорнавокую Юльку, а цяпер калі чуў яе срабрысты голас, яе сьмех, для яго стала шчасьцем бачыць усьмешку на яе маладым ружовым твары. І Арцём часта доўга ўглядаўся ў яе чорныя бліскучыя вочы.

Можа кахаў?

Краталася на душы нешта падобнае да каханьня, але кахаць Арцём яе ня мог. Яна вабіла яго да сабе і адначасна ён ведаў, што так раптоўна, як спадабалася яму, так раптоўна і кіне ён яе. Для яго мэта была мэтаю толькі датуль, пакуль ён не дасягаў яе.

І калі адна думка апаноўвала Арцёмам, ён ня мог пакінуць яе. Адначасна з гэтым неяк нялоўка адчуваў ён сябе перад Юлькай. Яму здавалася, што тая тонкая і хітрая ігра, якую вёў з ёю, вядома Юльцы і яна проста ці насьміхаецца над ім ці... зусім не зьвяртае на яго увагі. Ад гэтакай думкі Арцёму станавілася крыўдна... Як, яго Арцёма, прыгожага Арцёма, якога ўся ваколіца ведае, на якога заглядаюцца ўсе дзяўчаты, адхіляе нейкая галота—ні кала—ні двара—Юлька... Перад ім усплывала яна, як жывая і ў такі момант толькі больш распальвала яго прагныя жаданьні.

IV.

Жартавалі хлопцы з Арцёма. Кпілі. Насьмяхаліся. Як гэта так—Арцём нічога ня можа зрабіць з нейкай Юлькай... Ці мала дзяўчат з радасьцю і шчасьцем кінуліся-б на шыю яму, а яна—і блізка не падыходзь...

А Арцём злаваў. Злаваў і маўчаў. Сьпершку увагі не зьвяртаў. «Ат гаварыце сабе, што хочаце»... думаў. А пасьля ня вытрымаў:

— А вось пабачым!—Хацеў нешта яшчэ сказаць і змоўк, асекся.

— Нічога й не пабачыш.—А бабай ты стаў...

— Го-го-го...

— Лоўка гэта яна яго ўчора выправадзіла...

— Завярнуўся Арцёмка і, як мыла зьеўшы... Шамоль, шамоль і пайшоў..

— Ха-ха-ха...

Стукнуў па сталу Арцём, аж трэснуў стол, аж вокны зазьвінелі... Наліліся вочы кроўю. Устрымаўся, нічога не сказаў і вышаў з хаты. Толькі дзьвярыма ляпнуў. Пераглянуліся хлопцы і нічога не сказалі...

* * *

А ўвечары ў Марыны—самагоншчыцы пілі хлопцы гарэлку.

Закураны махорачным дымам пакой тануў у шызай муці. П'яныя крыкі і няпрыстойныя песьні ірваліся з хаты на вуліцу...

Туманіла маладыя галовы зельле атрутнае. Пілі хлопцы і шклянкамі зьвінелі. Пілі. Крычалі. Сьпявалі.

Весялейшым ад усіх быў Арцём. Больш ад ўсіх піў і больш ад ўсіх крычаў. Пазбыцца ад нечага хацеў. Утапіць сум няпрошаны ў гарэлцы хацеў. І піў...

— М-Марына! яшчэ бутэльку!

— Даёш!..

Гэй палным пална мая кар-робачка
Есьць і сіціц і пар-рча
Эх пажаль-лей душа м-мая зызнобачка
М-маладзецкага пліча-а...

Малады кучаравы хлапец аглядаўся па бакох і неяк нялоўка трымаў шклянку ў руцэ. Асалавелыя вочы недаўменна глядзелі навокал... Арцём наліваў. Хлапец адсунуў сваю чарку і ікаючы казаў...

— Н-ня трэба больш... Не м-магу...

— Пі, сукін сын!.. раўнуў Арцем,—Пі гавораць табе! Пі, маць тваю!..

І вочы ізноў наліліся кроўю, а бутэлька задрыжэла ў руцэ.

— П-п'ю!.., жаласьліва адказаў хлапец і папярхаючыся выпіў. Выпіў закашляўся і выпусьціў з рук шклянку. Яна зазьвінела чарапкамі па падлозе, але ніхто не заўважыў на гэта.

— За Арцёмаву Юльку!—крыкнуў адзін з п'яных...

— За Юльку, якой Арцём ня ўбачыць як сваіх вушэй...

— Што-о?

— А тое, што ня бачыць табе Юлькі, як сваіх вушэй...

— Га? Ня бачыць? Хлопцы! стаўлю паўвядра, калі так!

— Стаўлю паўвядра, калі будзе тваёй...

— Прайграў Арцём...

— Пабачым хто прайграў...

Адзін п'яны хістаючыся падышоў да дзьвярэй... Мацаў мацаў клямку і знайсьці ня мог. Хлопцы рагаталі...

— Ды што за д'ябал дзьверы ходзяць—я сюды, а яны туды. С-стой гавару табе! Стой маць тваю!.. Ды што гэта такое? Стой сьцерва!—тузаў хістаючыся вушак дзьвярэй п'яны хлапец.

А хлопцы рагаталі...

---

V.

— Юлечка, ну выслухай ты мяне...

— Ну што я буду слухаць... не раўня я табе Арцём і не чапай ты мяне... Што бацькі твае скажуць?

— Кінь Юлька пра бацькоў... Я хачу табе сказаць...

— Ня трэба...

— Юлька!..

Двурогі месяц абліваў срэбным сьветам зямлю. Лёгкі вецер чуць калыхаў лістоту дрэў... Было надзвычайна ціха і сьвежа. Арцём блізка прыхіліўся да Юлькі і адчуваў, як сэрца Юлькі тахкае ў тахт з яго сэрцам. Кроў кідалася ў галаву. Прагнае палкае жаданьне паліла яго.

А над абоімі шумелі тапалі зялёнай лістотай і сыпаў срабрыстасьць месяц...

— Ці-ж я табе такі ня любы? Скажы, Юлька, чаму ты гоніш мяне?

А рукі абвівалі стан. Усёй істотай адчуваў Арцём гарачае маладое тугое цела. Прыціскаў яго да сябе.

— Юлька, дарагая Юлька! Чаму ты маўчыш?

Юлька старалася вырвацца з абдымкаў Арцёма і адначасна хацелася заставацца так і яна хінулася моўчкі да яго.

Вусны шапталі: «Не, пусьці», а істота гаварыла другое...

Блізка нахіліўся Арцём да Юлькі, Твар ля твару... Палалі вочы, гэрэлі вусны.

— Ці кахаеш?

Ці адказалі, што вусны ці не—ня чуў. Зачыніў іх сваімі вуснамі, гарачым, як агонь, пацалункам...

Вырвалася Юлька, кінулася сарамліва ўцякаць да дому. Затрымаў Арцём каля варот, схапіў за рукі.

— Ці прыдзеш крышку пазьней туды... за сад... пад гумно?... Ці прыдзеш, любая?

Нічога не адказала Юлька, вырвалася і ўцякла, а ўпэўнены быў Арцём, што прыдзе, бо адчуваў, што кахае яго, але ня верыць. Кахае яго, але баіцца, што ашукае яе і кіне як кінуў ужо не адну.

... І ў імглістай цемені хадзіў за садам Арцём. А старыя яблыні, шапацелі нешта дзіўнае, незразумелае, але такое прыгожае, такое любае, што хараством душу поўніла. А раса лягла на травы росныя, на сенажаці, што раскінуліся за садам, за гумном. І імглістая цемень танула ў бялявым тумане і зьлівалася ў далі ў нейкую цьмяную заслону і хавала ад вока ўсё...

Арцём хадзіў па вузкай сьцежацы, што вяла цераз сад у гумно, чакаў Юльку маладую, як дзікая краска палявая, прыгожую. Чакаў наіўную Юльку і кроў гарачая стукала ў віскі. Ці даваў сабе справаздачу Арцём у тым, што робіць, ці пытаўся ў самога сябе ці кахае сапраўды Юльку, ці гэта толькі момант—скарыстаць і кінуць, даказаць сваё? Не. Менш ад усяго думаў аб гэтым Арцём. Чакаў Юльку, забыўшыся аб ўсім на сьвеце.

І яна такі прышла... Мільганула ў зелені саду белая хусьцінка. Нячутна босымі нагамі па халоднай расе падыйшла Юлька... кінуўся настрэчу Арцём, моцна сьціснуў у вабдымках маладое гарачае цела... А яе рукі міжвольна абвілі яго шыю.

— Любая, ці кахаеш?

— Кахаю дарагі...

І ногі яе падкасіліся.

Здаровы, дужы Арцём, як пёрка падхапіў Юльку на рукі і панёс у пуню...

А зялёнатварыя яблыні шумелі... Паціху шумелі...

---

VI.

«Чаму гэта жыцьцё так пабудована? Цячэ спакойна, ціха, роўна і прыгожым такім здаецца, а то раптам наляціць, як дзікі віхор, закружыць, кіне, як ліст пажаўцелы, што адарваўся ад дрэва ветрам халодным і нясецца ветрам па пыльнай дарозе. Такое жыцьцё, такая доля»...

Глядзела Юлька ў акно і думала. Абрыўкамі праходзілі ўспаміны перад вачыма, то ружоваю чарадой, то доўгаю чорнаю, істужкай...

Пахудзела Юлька. Блажэйшаю з твару зрабілася. Завялі ружовыя шчокі, блядымі сталі. А чорныя вочы яшчэ глыбей запалі. На прыгожым ілбу ляглі дробныя маршчынкі ад задуменнасьці ціхай, ад задуменнасьці сумнай. І яшчэ больш прыгажосьці было ў яе блядым твары з чорнымі брывамі, з чорнымі вачамі. А ў вачох гэтых сум сьвяціўся.

Прытулілася Юлька да вакна, глядзіць на вуліцу праз замёрзлыя, праз развузораныя марозам шыбы... А за вакном вецер сярдзіты носіць сьняжынкі белыя і засыпае імі зямлю мёрзлую.

Халодны зыбучы сьнег.

Халодны, дзікі вецер.

І сумна, сумна да болю ў вісках...

— Юлька!—паклікала маці з печы.

Нічога Юлька не адказала, мусіць ня чула, углыбіўшыся ў думкі свае невясёлыя.

— Юлька!...

— Чаго, мама?

— Што гэта, дачушка, з табой? Мо' захварэла?..

— Нічога, мама. Так сабе, нявесела неяк...

Нічога болей ня пыталася матуля старая. Нічога больш не адказвала дачка.

Белым прасьціралдам кладзецца сьнег. Сьняжынка, за сьняжынкай... Колькі іх, сьняжынак гэтых беленькіх? Вось калісьці ў весну гэтак пялёсткі сыпаліся з вішняў, з яблынь... Ах, як здаецца гэта даўно было, а яно зусім нядаўна. Голыя голейкі абсыпаюцца сьняжынкамі гэтымі. Бялеюць стрэхі шэрыя ад іх...

А было:

Вечар сіні, сіні...

Зоры залатыя, залатыя... Бліскучыя такія...

І шумяць, шумяць яблыні зялёныя..

І зьліваецца з гэтым шопатам, шопат мілага, прыгожага.

І найпрыгажэйшай музыкай здаваўся гэты ласкавы шопат: ці кахаеш, любая?... ці кахаеш, дарагая?

— Кахаю, любы... Кахаю ненаглядны...

Тады хацелася жыць. Тады хацелася зьліцца з сусьветам у вадно цэлае. Тады хацелася піць жыцьцё і шчасьце кубкам поўным...

А пасьля было так:

Памерклі зоркі ясныя ў небе сінім і халадней сталі вечары, і гусьцей туманы. Тады халадзець пачала кроў, астываць запал гарачы. І пакінуў мілы на спатканьні хадзіць. Тады ў халодныя вечары доўга пазірала Юлька праз вакно ў шэрую муць быццамбы старалася разгадаць нейкую мудрую задачу.

Ах, гэта маленькае кволае шчасьце!...

Бы прыгожы сон праляцела яно. Ды ці шчасьце гэта? Хто яго ведае, хто яго знае... Бывае—у сонечны ясны дзень налящяць хмары чорныя, навальнічныя, грозныя такія.

Так і цяпер.

Ашукаў. Скарыстаў. Кінуў.

Выпіў кубак да дна і пасьля разьбіў яго.

Дзе шукаць выйсьця?

Як знайсьці яго?

Туліцца Юлька тварам пахмурным да шкла марозцам развузоранага, халоднага; думае думы невясёлыя. Проста так—ня думае, а самі думкі плывуць навыперадкі...

Сьветлыя... Цёмныя...

Цёмныя... Сьветлыя...

Ясныя... Чорныя..

Чорныя... Чорныя..

Было апошняе спатканьне такім:

— Дарагі мой!... Арцёмачка!... Чуе сэрца маё нешта нядобрае. Чуе сэрцайка і дрыжыць ад прадчуваньня нечага нязьбежнага... Скажы, скажы ўсю праўду?

— Ну што я скажу? Ня будзе-ж гэтак вечна...

— Не гавары... Што я буду рабіць без цябе, саколік мой ненаглядны...

— Супакойся Юлька! Ня можна-ж так... Я прышоў вось сказаць табе...

— Што кінеш?... А?... Гавары?... Ня муч!...

— Не... я... я прышоў сказаць, што... што нам трэба растацца... Бо... Дакуль-жа так?... Трэба абарваць...

— А—а...

І страсанулася ад плачу горкага нястрымнага і сьлёзы горкія закапалі на траву халодную...

А калі прышла ў сябе—ня было Арцёма... Крыўда горкая. Крыўда балючая.

А пасьля не страчалася больш з Арцёмам. А калі ён і бачыў яе, дык адварачваўся, нібы незаўважыўшы праходзіў...

Глядзіць Юлька ў акно і ня бачыць нічога. Шарэе надвор'е. Пасьвіствае вецер у комін. Варушыць салому страхі. А сьняжынкі ў прадвячэрняй імгле падаюць і падаюць... І падаюць на падаконьнік каплі сьлёз горкіх... Сьлёз ад сэрца пакрыўджанага, ад душы параненай... Маленькае шчасьце, нікчэмнае, а гора вялікае, балючае.

VII.

Арцём піў, Арцём гуляў, як і раней... Забыўся пра Юльку чорнавокую. Ды ці мала іх такіх. Было — праляцела, дык ці будзе спыняцца думка на гэтым. Праляцела плямінай сьветлай гэта каханьне, ды ці каханьне? Не. Так сабе. Было прыгожым пакуль было, а цяпер? Цяпер—нічога. Нават абрыўкі успамінаў зьніклі. А засталося... Што засталося? Усё тое-ж вясёлае разгульнае жыцьцё. Дык якая яму справа да чужога гора, да таго, што можа душу чужую апаганіў, што можа жыцьцё чужое папсаваў.

Так і ў гэты час. Так і ў гэты дзень.

Было зімовае марознае надвор'е. У срабрыстай шэрані стаялі дрэвы... Нярухома, ня кратаючы гольлем стаялі яны, бы ў нейкім сьне цудоўным зачараваныя... А вакол усе белае ў сьнягу сыпучым. А вакол усё спакойна, нярухома. Толькі цішыню гэтую мёртвую нарушаў падчас звонкі скрып палозьзяў, калі хто небудзь праяжджаў па вуліцы паўзвароты.

Арцём, у кароценькім паўкажушку, падперазаны рамянём шырокім, з чырвоным ад марозу калючага, тварам, паіў коняй. Чэцьвера сытых гладкіх коняй, самі за сабе гаварылі аб тым, што гаспадар, Арцёмаў бацька, жыве ня бедна.

Арцём весела пакрыкваючы на коняй naліваў ваду ў карыта, спрытна выцягваючы вядро з калодзежу.

Раптам, рыпнуўшы варотамі, сьпяшучы прабегла маці Арцёмава. Дабегла да ганку, хапілася за клямку, а пасьля абярнулася і нэрвова, быццам-бы нешта вялікае здарылася, трывожна закрычала.

— Арцём!.. Хутчэй ідзі ў хату... Хутчэй кажу табе. Што-ж гэта такое ён вырабляе?.. А божухна-ж ты мой!.. — ужо плаксівым голасам замарматала яна, кідаючыся ў хату.

Арцём зьдзіўлёна, але не сьпяшаючыся ўвайшоў у хату. Маці накінулася на яго.

— Ды што-ж гэта такое? Ды што-ж гэта ты Арёмачка робіш, каб цябе выламал, га? Ды дакуль-жа я мучыцца буду?..

— Што, што такое здарылася? Ці мо' памёр хто? — пытаўся Арцём зьдзіўлёна гледзячы на матку і стоячы сярод хаты—што я нарабіў, калі? дзе?

— Сыночак ты мой акаянны, каб на цябе ліха... Слухай-жа гад, слухай... Мар'я старая плачучы, валасы дзяручы на сабе, вось толькі цяпер, як ішла я каля варот яе, расказала мне...

— Што? якая Мар'я, што ты матуля гародзіш?..

— Маўчы гад! Маўчы. Гадавала цябе, карміла цябе, думала ўцеха пад старасьць будзе, а ты .. Дык-жа слухай—казала мне Мар'я валасы дзяручы, сьлёзы льлючы, што Юлька, дачка яе дзіцё радзіла, што ты гэта з ёю цэлую весну блудзіў, што ты дачку яе загубіў...

Арцём стаў бляды, як палатно. Нечаканая вестка, як пяруном стукнула... Шавяльнулася нешта ў душы падобнае на жаласьць... Замітусіліся думкі ў галаве трывожна, спалохана: чэрвень зялёны.., яблыні густыя, цяністыя .. Пуня цёмная... Голас ціхі і палкі—«твая, я ўся твая... Любі мяне сокал ненаглядны... Любі...». Але гэта момант. Думкі пераскочылі на другое: «дык што-ж рабіць? Як-жа гэта так, чаму-ж раней гэтак не здаралася, ці-ж першая яна?»... І зноў абарваліся думкі...

— Дык што-ж ты маўчыш! га? Дык што-ж рабіць будзеш? Гавары, гад, гавары!..

І пісклівы голас мацеры нейкім прыкрым, няпрыемным здаўся... Злосьць забірала..

— Па ўсім сяле разьнясьлі, толькі й гавораць...

— Годзе маці... Якое мне дзела да ўсяго гэтага?..

— Як, якое дзела? У суд падасьць галота гэтая абадраная... Самім есьці няма чаго, дык-жа чым байструка карміць будуць... Што-ж гэта ты нарабіў?..

І маці Арцёма захлюпала, заплакала.

Нічога не сказаўшы выйшаў Арцём на двор, ляпнуўшы дзьвярыма аж вокны зазьвінелі...

— Чорт яго ведае што рабіць?.. Жаніцца? На такой галоце? Не .. дык што-ж?—паўставала назойліва запытаньне.

— Эт!..—махнуў рукою Арцём і пашоў за вароты...

Настрэчу ішоў Міхалка Восіпаў, паскрыпваючы ботамі па сьнягу. Падышоў пад Арцёма, хітра падміргваючы сказаў:

— Чуў?

— Што?.,

— А Юлька...

«І тут?» мільганула ў Арцёма. Ужо ўсе ведаюць, ужо разносяць. І накіпала злосьць.

— Што Юлька?—Нарочна спытаўся...

— А помніш у Марыны спрачаліся?.. Га-га-га! Дык-жа такі даказаў, на тваім выйшла... Яна, брат, цяпер,..

І асекся, глянуўшы на пасінелы ад злосьці твар Арцёма.

— М-маўчы... З-заб'ю..

Тады Міхалка кінуўся ўцякаць, а адбегшыся зарагатаў.

— Га-га-га!.. Татуля!.. Татка!.. Га-га-га!..

Гэта насьмешка балюча аддавалася ў вушшу Арцёма. Пасьля злосьць прайшла. Найшла апатычнасьць нейкая.—«Ат усёроўна, мацьіх...».

І пайшоў удоўж вуліцы, а куды і сам ня ведаў.

---

VIII.

— Дзіцятка ты маё!.. Беднае ты маё!.. Лепш-бы не радзіцца табе на сьвет гэты... Сыночак ты мой бедненькі... Гора ты маё... Сьпі золатка,. Сьпі ненаглядное... Сьпі даражэнькае маё ..

Гаварыла Юлька бедная і сьлёзы з воч капалі. На блядым змучаным твары стамлёнасьць і гора адбіваліся. Гаварыла Юлька ціхім дрыжачым голасам:

— Дзіцятка ты маё!.. Ну што я рабіць з табой буду?.. Як выгадую цябе, калі самой есьці няма чаго... Утапіць-бы цябе, ды самой з табой разам утапіцца, але-ж шкода золатка ты маё шкода цябе і люблю я цябе крошка ты мая... Ну ня крычы, ня крычы. Ну сьпі, сьпі сыночак мой маленькі. Ну сьпі саколік...

А-а... А-а... мой сы-нок

А-а... А-а...

І ціха пасьля стала у хаце... Ціха і цёмна. Слабы сьвет пахмурнага зімовага дню не прайходзіў праз замёрзлыя шыбы вакон і таму неяк шэра было ў хаце... Памаленьку калыхала Юлька калыску і аб нечым думала. Думала сваю думу горкую...

Беднасьць лезла ў вочы са ўсіх куткоў яе маленькай халупіны. Закапцелая вялікая печка ў кутку хаты з чорнай пасткай здавалася нечым страшным, нейкай грамадзінаю бруднай... Лавы ля сьцяны, два вакны на двор, стол, а над ім «Мікола чудатворац», загаджаны мухамі і пажаўцелы за шмат гадоў, ды пол ад сьценкі да печы, на якім валялася лахмоцьце рознае, а над палом калыска,—вось і ўся бедная абстаноўка хаты Юльчынай маткі...

Сядзела Юлька нярухома, абхапіла галаву рукамі і думала.

Аб чым?

Хто яго ведае. Прытупіўся проста розум за апошнія часы і таму ня было ў галаве думкі пэўнай. Так сабе — мільгалі вобразы перажытага і ніклі, бы ў тумане шызым вырысы няясныя.

І маці Юлькі за апошнія часы жыць не давала ёй. Азьвярэла проста. Зьненавідзела дачку сваю. А завошта? Піліла і піліла словамі абразьлівымі штодня. Уцякла-б Юлька, пабегла-б куды небудзь, ды куды-ж пабяжыш? Моўчкі зносіла сваё гора і цярпела. І кубак цярплівасьці і гора поўніўся цераз берагі. Хацела Юлька рукі налажыць на сябе, ды раздумалася. Можа-б і не раздумалася але Маланьня — удава маладая ўстрымала. Шмат яна дапамагла Юльцы ў горы яе. Ад Маланьні толькі й чула словы ласкавыя, словы цёплыя, ад яе толькі і мела ўцеху ў горы сваім Юлька.

Бабы вясковыя—хто сплёткі разносіў, хто шкадаваў Юльку, а дапамагчы ніхто не падумаў. А дзяўчаты - таварышкі Юльчыны зусім адвярнуліся ад яе. І так мала сябравала Юлька з імі, бо дзікая была з дзяцінства і вырасла такой, а цяпер дык і зусім адчураліся яе дзяўчаты, нават і праведаць ні адна ня прышла. Бы «грэх» такі ня можа з кожнай з іх здарыцца? Гады маладыя, гады гарачыя, гады прыгожыя, дык не заўсёды істота розуму цьвярозага слухае, а яшчэ калі і розум атуманены прыгажосьцямі вясновымі, калі ўпоены хмелем лета квяцістага. І толькі Маланьня падтрымала Юльку. Калі Юлька ў пасьцелі хворай пасьля радоў ляжала, тады прышла Маланьня, уцешыла Юльку, супакоіла словам простым, словам сяброўскім. А пасьля кожны дзень прыходзіла яна да Юлькі, прыносіла малачка цёплага дзіцяці... Яе прыходу заўсёды рада была Юлька. Маланьня расказала Юльцы і сваё няшчасьце, і сваё гора мінулае... Пасьля блізкімі адна другой яны сталі. Так могуць сыйсьціся два чалавекі толькі ў няшчасьці ці ў горы.

Цемна было ў хаце... Дзіцянё ў калысцы заснула і яго роўнае чуць чутнае дыханьне супакойваючы дзейнічала на Юль-

ку. Ад бяссоньніцы цяжалела галава, акуналася ў дрымотнасьць цяжкую..

Юлька і ня чула, як маці ўвайшла ў хату і толькі тады, калі на комінку весела пачалі трашчэць смалякі, яна ўздрыгануўшыся падняла галаву.

Маці моўчкі глянула на дачку і нічога не сказала. Падабраўшы сухія, бяскроўныя, зморшчаныя губы, адвярнулася. Строгім зіркам упілася ў агонь і некалькі хвілін стаяла моўчкі. Відаць, хацелася сказаць нешта, але ўстрымлівалася і маўчала. Глыбока ўздыхнуўшы падварушыла смалякі на комінку, узяла прасьніцу, прысела каля комінку і пачала прасьці. Верацяно жужжэла паціху і нітка паўзла і паўзла. Так вось і жыцьцё яе цяжкае, маруднае, бязрадаснае цягнулася.

Мусіць жаль агарнуў старую за загубленую маладосьць дачкі, бо на твары жоўтым, зрэзаным глыбокімі маршчынкамі сьлязінкі буйныя адна за аднэй пакаціліся. Гаручыя, пякучыя, горкія сьлёзы...

Нарэшце няўстрымалася

— Юлька!

Падыйшла і худой кастлявай рукой кранулася да пляча дачкі.

— Юлька!

Усхамянулася Юлька. Узьняла голаву і недаўменна глянула ў вочы матцы.

— Старая я стала. Нядужаецца мне. Як папрадаю крыху, дык сярэдзіну, як адніме. А костанькі ныюць і ныюць... Прасьці больш не магу. А кіну прасьці—есьці ня будзе чаго. Што-ж рабіць?

Балючы надарваны голас. Балюча аддаецца ён у вушшу Юлькі. Праўда жыцьця гаротнага, горкая праўда чулася ў словах матчыных Манатонны і дрыжачы голас старой маці, як іголкі ўпіваецца ў сэрца Юлькі.

— Ах, дочка ты мая... Што-ж ты нарабіла?

Ня было ў голасе жорсткасьці, сварлівасьці звычайнай. Была роспач.

Што магла адказаць Юлька?

— Даруй матуля родная... Ня вінавата я. Моладасьць—, кроў была гарачая. Паверыла...

І голас абарваўся, як туга нацягнутая струна.

— Ашукаў і кінуў. Даверылася на згубу на сваю... Пацярпі матуля. Вось акрэпну крыху—мо' дзе працаваць пайду.

На тым і скочылася гутарка.

У той-жа вечар, крыху пазьней бегла Юлька па сьцяжынцы белай у зімовы марозны вечар да Маланьні.

Дзічылася Юлька людзей. Пальцамі каб не паказвалі не хадзіла ўдзень нікуды. А ўвечары бегала да Маланьні.

Разумная баба—гэта Маланьня. Шмат чаго новага даведалася ад яе Юлька. Раней Маланьня уцяшала, супакойвала Юльку, а цяпер спакайней глядзела на Юльчына гора. Ведала Юлька, што дэлегатка нейкая Маланьня. а якая такая дэлегатка, дык ня ведала. Толькі верыла Маланьні і спадзявалася на яе.

Сягоньня Маланьня весела спаткала Юльку. Ад таго і ў Юлькі сьвятлей твар рабіўся. Пасьміхваючыся гаварыла Маланьня чырвонашчокая пра гора Юльчына:

— Кінь галубка мая гараваць дарэмна... Плюнь ты на гора на сваё, ды нагою разатры. А сынка гадуй—піанэр добры вырасьце...

— О-ох! цётачка мая. Гадуй!—а як гадаваць калі ў хаце з крошкі на крошку перакідваемся. Вось і гадуй і сама жыві...

— І гэтаму гору паможам галубка. Гаварыла я з партыйцамі нашымі, што з ячэйкі Бярозаўскай. Мярзаўца такога, кажуць, трэба за каршэль узяць...

Сорамна стала Юльцы. Недалёкае мінулае нахлынула на яе. І вобразы яго замітусіліся дзесьці на глыбіні душы. Калісьці гэты «мярзавец» любым ёй быў, дарагім і блізкім быў. Але гэта толькі мільганула на момант і зьнікла нейдзе, так-жа хутка, як і прайшло. А Маланьня далей гаварыла:

— Дык вось галубка ты мая, з крыламі падрэзанымі, знайшлі мы твайму гору дапамагчы чым. Бацька дзіцяці твайго дапамагчы павінен.—Вось...

— Не памінай ты мне пра яго.,. Не хачу я чуць аб ім больш. Ведаць не хачу.

— Кінь ты Юлька! І ведаць табе яго ня трэба пастылага. Вось слухай: парадзілі мне партыйцы нашыя ў суд падаць на Арцёма на гэтага, каб на ўтрыманьне дзіцяці даваў. Не марыць-жа яго нявінаватага ні ў чым з голаду. Трэба, трэба ў суд падаць...

Маўчала Юлька. Што будзеш рабіць? Не хацелася, дужа не хацелася кратаць раны старыя, што загойвацца пачалі, але хацелася і адпомсьціць Арцёму за крыўду сваю..

— Дык рабеце цётачка, што небудзь...

— А вось у суд заяву напішам, ды і ўсё. Сходзім заўтра да настаўніка нашае школкі, вось ён і напіша нам, а ў горад буду на гэтым тыдні ехаць, дык завязу. Добра?

— Добра, толькі... да настаўніка, да гэтага ісьці нейк сорамна.

— Плюнь ты на сорам свой, забягу я заўтра да цябе адвячоркам, вось і сходзім мы да яго...

---

## IX.

Па дарозе двое саней ехалі. Сьперадзі ехалі двое сялян з суседняй вёскі, а ззаду Юлька з дзяцёнкам сваім, яе матка і Маланьня неспакойная, гаварлівая...

Дарога шырокая, бясконцая... Губляецца ў белых прасторах. Дарога белая, дарога доўгая. Бадзёра скрыпяць палозьзі саней. Бадзёра вызваньваюць капытамі коні. Пералескі, хвойнічкі асерабрыліся шэраньню срабрыстай. Стаяць задуменна, не калышуць галовамі сваімі кудлатымі. Стаяць і думаюць думы казачныя...

Праедзеш—тады ізноў поле сьнегам, як абрусам белым пакрытае. Раўніны белыя, раўніны неабсяжныя... Сьнягі глыбокія, сьнягі сьцюдзёныя.

Маўчала маці старая, ад самай хаты нічога не гаварыла. Маўчала Юлька з вачамі сарамлівымі, з вачамі чорнымі. Сорамна, ой, як сорамна ехаць у гэты суд, у гэты няцрыветны горад. «Пытацца будуць—а што, а як»... Пры аднэй думцы аб гэтым заліваў яе блядыя шчокі румянец. Таму маўчала, нічога не казала, толькі кутала ўсё цяплей дзіцянё сваё, сыночка свайго.

Адна Маланьня гаварыла, жартавала, ды нокала на сыценькага свайго коніка, бо ня было ў Юльчынай маткі ні каня ні скацінкі.

— Вось прыедзем хутка і ў горад... Ты Юлька, галубка, не саромейся—гавары праўду... Суд савецкі цяпер за нашага брата стаіць. Безабаронную жанчыну ў крыўду не папусьціць. Вось пабачыш!...

А Юлька маўчала.

Ззаду зазьвінелі званочкі весела. Звон срэбраны пакаціўся па прасторы сьнежным, рассыпаўся пацеркамі зьвінячымі...

Па цьвёрдым насту паўз дарогу праімчаўся вазок зялёны, новенькі, запрэжаны сытым буланым жарабцом, пазваньваючы званочкамі. А ў вазку Арцём і сусед яго—той самы Міхалка, што сьмяяўся з Арцёма нядаўна. За імі яшчэ сані, а ў іх бацька Арцёмаў, ды яшчэ двое, незнаёмных нейкіх...

Глянула Юлька і сэрца часта-часта застукала і кроў да галавы прыліла.

—Ен!...

Сустрэліся погляды на момант. І ў яго зірку ўбачыла Юлька насьмешку крыўдную над сабой. Горка стала. Плакаць

захацелася, але стрымала сьлёзы, сьціснула зубы і адвярнулася.

А званочкі ўжо зьвінелі ўперадзі.

— У, кулакі праклятыя!...—ссунуўшы густыя бровы сказала Маланьня—Пачакайце!...

* * *

Доўга чакалі ў судзе. Шмат разьбіралася спраў, пакуль дайшла чарга да Юльчынай. Судзіліся старыя, маладыя,—з доўгімі сівымі барадамі дзядзькі і малажавыя, ў саку, бойкія сяляне. Судзіліся за зямлю і словамі нязграбнымі, каравымі, як іх мазольныя рукі апавядалі пра патрэбы пра свае. пра крыўды свае. Судзіліся бацька з сынам... Судзіліся іншыя...

— Мы што? Мы Савецкую ўлась паважаем... Таму. што гэта ўлась наская. І з камуністымі разам—таму што за нас ідуць...—гаварыў цягуча і нязграбна чорненькі нізенькі селянін у старым палапленым кажушку.

— Гражданін, гаварэце па сушчаству!—сярдзіта абрываў яго старшыня суда, гладка выбрыты з маленькімі чорнымі вусікамі мужчына, у круглых акулярах з чорнаю рогаваю аправаю...

— Як? пытаўся селянін, не разумеючы, што казаў яму старшыня суда.

— Па сушчаству гаварыце, кажуць вам!

Селянін зьдзіўлёны паглядаў па бакох і паціскаў плячыма. У публіцы пачуўся сьмех. Старшыня суда пастукаў алоўкам па стале.

— Ну, ды пра зямлю, пра вашу, пра дзела кажыце...

— А-а!.. Знацца пра зямлю...—ужо ўзрадаваўшыся, што зразумеў, гаварыў селянін—дык вось значыць на хутары разьбілі зямлю нашу, бо, значыць, выгадней нам гэтак, але вылучылі мне кавалачак, ды ў самым далёкім мейсцы, ды хужэйшы самы... Было 5 дзесяцін на 9 душ, а цяпер дык нават менш вышла, каля трох з паловай нешта... Кулакі ў нас, таварыш судзьдзя, усю ўладу захапілі арудуюць, як хочуць...

— Не разумею я ўсё-ж такі. Менш абстрактна выражайцеся гражданін!

Зноў зьдзіўлёна аглянуўся селянін па бакох, нібы шукаючы дапамогі ў прысутнічых і нялоўка пераступаючы з нагі на нагу...

—Не разумею я, таварыш судзьдзя, мудрона нейк вы гаворыце...

— Ды я ў вас пытаю, — хто-ж зямлю вашу адабраў, ды вучастак дрэнны даў вам? Гаварыце канкрэтна.

— Дык я-ж кантрэтна. Зямельная камісія была, кантрэтная, значыць, а пасьля каморнікі разьбівалі на хутары...

— Коморнікі?! Гэта што-ж такое?

— Ну, гэта... што зямлю мераюць, значыць...

Так цягнулася доўга. Маланьня зьбегала кудысьці, пасьля прыбегла і паклікала сваіх:

— Тутака зямельныя справы разглядаюць, нам у другую камэру—праказала яна і павяла Юльку з яе маткай у другую камэру.

Хутка пачалася і Юльчына справа.

Выклікалі Арцёма, пасьля Юльку, пасьля сьведак. Пыталіся прозьвішчы, колькі гадоў і г. д. Пасьля пыталіся сьведак, якім прапанавалі выйсьці ў другі пакой.

Нарэшце пачалі апытваць Арцёма.

— Арцём Ліцкевіч, ці прызнаеце вы, што жылі з грамадзянкай Юліяй Якубёнкавай?—пытаўся судзьдзя.

— Нет, таварыш судзьдзя, ні з якой Юлькай я ня жыў і ведаць нічога ня ведаю. Апытайце сьведак, яны гэта падцьвердзяць. Наогул я ня ведаю пры чым я тутака. З ёй кахаўся ну і там... іншае, дык гэта зусім Міхалка Андрановіч, які тут жа і сам гэта скажа...—сьмела, завучана гаварыў Арцём.

Гэтыя словы, як малатком стукалі ў галаву Юлькі. Хацелася крыкнуць, але ў горле нешта сьціснула і не давала гаварыць. Так ілгаць, так ілгаць.. Самай найвялікшаю для яе абразай было яшчэ тое, што Міхалку прыплёў сюды Арцём, з якім яна ніколі і не гаварыла Арцём стаяў на сваім. На ўсе запытаньні адказваў, што нічога ня ведае.

Пасьля выклікалі Юльку.

Саромячыся, голасам пакрыўджанага дзіцяці гаварыла яна, трымаючы дзіцё на руках.

— Яго-ж сынок, таварышы судзьдзі, як выліты ён...—і заплакала...

Выклікалі сьведак. Апытвалі Міхалку. Шырока расставіўшы ногі і прыкметна хістаючыся ён гаварыў:

— Дарагія судзьдзі... ік... я значыцца прызнаюся, што я... жыл дзісьцьвіцільна з гэтай жэншчынай... таму как... вапчэ... гавара канкрэтна—сын мой, у чым і прызнаюся... Но жыць з гэтай жэншчынай я не хачу... Таму как яна ні толька са мной, а распусная...

На судзьдзяў пахнула самагонным перагарам ад Міхалкі.

Пасьля апытвалі сьведак. Усе сьведкі, падкупленыя Ліцкевічамі падцьвярджалі тое, што паказвалі Арцём і Міхалка.

Калі суд выйшаў на нараду па вынясеньню прыгавору, Ліцкевічы—бацька і сын весела ўхмыляючыся, паказвалі пальцамі ў той бок, дзе сядзела Юлька з маткаю і Маланьня. П'яны Міхалка тут-жа ў залі пачаў рыгаць на падлогу і яго вывялі.

Прысутнічыя недаўменна паглядалі на гэты працэс. Яны нічога не маглі зразумець у гэтай заблытанай справе. Шчырасьць і непадкупнае гора Юлькі выклікала ў прысутнічых да сябе сымпатыю, але цьвёрдыя паказаньні сьведак і рашучае адмаўленьне Арцёма ад абвінавачаньня і настойнае запэўненьне Міхалкі, хоць і п'янага аб тым, што бацька ён, а ніхто іншы, канчаткова зьбілі ўсіх з панталыку.

... І суд, скарыстаўшы ўсе паказаньні сьведак вынес прыгавор—Міхалку плаціць на ўтрыманьне дзіцяці 10 рублёў штомесячна, але «па тэй прычыне, што на падставе данных, якія маюцца ў судзе» і г. д. і г. д. Міхалка ня можа плаціць, бо ні кала, ні двара ня мае, адкласьці выплату алімэнтаў да тае пары, пакуль Міхалка будзе магчы са сваёй гаспадаркі выплочваць прысуджанае.

Гэтага толькі і трэба было Ліцкевічам. Толькі на гэта яны і спадзяваліся, падстроіўшы ўсю гэтую махінацыю. Калі кончылі чытаць прыгавор, бацька Арцёма нячутна захіхікаў у сваю сівую калматую бараду—«ведай нашых».

Арцём выйшаў з залі, баючыся нават глянуць у бок Юлькі. Яго паліў сорам за зробленае ім і разам з тым было весела, што так лёгка адчапіўся ад усяго гэтага. Прыціснутыя нечаканым вырашэньнем суда і ня ў сілах даказаць няправату прыгавару Юлька з маткай і Маланьня ня ведалі што рабіць.

Арцёмаў бацька, праходзячы каля Юлькі, зьняважліва працадзіў скрозь зубы.

— Ш-што, сукі паршывыя, высудзілі? Га?..

---

X.

... Рагатаў за ваколіцай гармонік...
... Рагатаў пералівамі звонкіх галасоў...
... Заміралі галасы ў бязбрэжжы шырокіх палёў...
... Шумелі таполі высокія, таполі зялёныя...
... Квітнеў, як і тры гады таму назад, зялёнакудры чэрвень..

Гады прыгожыя, гады маладыя... Усё зьлечваюць яны. Нават самыя глыбокія раны. Недалёкае і адначасна далёкае мінулае, засталося дзесьці пазадзі.

Так і з Юлькай.

Тры гады таму назад, яна першы раз пакахала вось у такі-ж чэрвень зялёны—

Было каханьне палкае, гарачае, шчырае..
Было гора, гаручае, няўцешнае...
Былі сьлёзы ад сэрца пакрыўджанага...
Была крыўда, балючая, горкая...

Гэта прайшло. Час усё вылячыў і загаіў.

Тры гады працавала Юлька ў горадзе. Дзіцё гадавалася ў дзіцячым доме. Тры гады праляцелі, як сон ніколі незабыўны.

Была ўцеха ў працы кіпучай...

Была радасьць у стальным говару калёс заводу, што стаў родным і блізкім за тры гады...

Было шчасьце ў няўмоўчным рытме гарадзкога руху і жыцьця.

Далей:

Пацягнула ў родны кут жаданьне, сум па родных гонях, па зялёных палетках, па квяцістых сенажацях.

Тады:

Дамаглася Юлька — партыйка, каб на працу ў свой сельсавет накіравалі.

І:

Прыехала Юлька ў родную вёску, Юлька — жанарганізатарша... Бачылі ўсе якой Юлька стала і хвалілі, і высока падкідалі маленькага сынка, што блытаўся пад нагамі яе на сваіх слабенькіх ножках. І ўжо ня звалі байструком, а цмокаючы ў пухлыя яго шчочкі, звалі акцяброначкам...

* * *

— Дзякую табе Маланьня, дзякую даражэнькая, што ты стрымала мяне калі кацілася я ўніз... Дзякую ад усяго сэрца, што падтрымала, што на дарогу вывяла, што ў горад мяне накіравала. Там жыцьцё сапраўднае. Толькі сумна стала мне сярод камяніц хмурых, ды вуліц неспакойных і... я тутака ізноў, толькі ўжо ня тая..

Ветла і радасна глядзела Маланьня на Юльку і ўсьміхалася.

* * *

... А за ваколіцай рагатаў гармонік...
... А за ваколіцай зьвінелі камсамольскія песьні...

Полацак, 1926 году.

**С. ХУРСІК.**

# Адказ.

Так было калісьці—вецер захліпаўся
І вілася цемра у таемны вір...
Над краінай роднай вораг пацяшаўся.
Размывала думкі, як вадою жвір.

Так было калісьці, калі край палілі.
Й палівалі кроўю маладняцкі ўсход..
Раніцою яснай, грамадой шумлівай
Мы зьбіралі к зорам агнявы паход...

Так было калісьці... У дарозе цёмнай,
Калі кожны ў бойцы надрываўся з нас,
Палахлівым стогнам, палахлівым чорным,
Нас спаткала здрада ў нечаканы час...

Разыйшліся моўчкі па пуцінах розных,
Разыйшліся моўчкі, як пасьля хаўтур...
«Маладняк» ня кіне цаліны, барознаў
«Маладняк» збудуе свой вялікі мур!

Ну, няхай там плача вецер на разорах,
Ну, няхай праклёны яны шлюць нам ўсьлед...
Нас вітаюць зьзяньнем карагоды зораў,
Нас вітае раньня пераліўны сьвет.

8 кастр. 1926 г. Валынцы



С. МІЛЕВІЧ.

# Выйдзем, выйдзем на пакосы!..

Гэй! рыхтуйце хлопцы косы!
Надыходзіць ўжо пара
Выйсьці з імі на пакосы
Калі ўзыйдзе ў рань зара.

На лугі травы шаўковай
Выхадзі малы і стары!
Хай пакрые звон сталёвы
Беларускія абшары!

Над палямі, над лясамі
Хай зазвоніць працы звон.
Мы будуем сабе самі
Будаўніцтва новых дзён...

Пад напевы песень звонкіх
Будзе праца нам лягчэй.
Хай ўсьміхаецца старонка
Сіньню—просіньню вачэй.

А калі памкнецца вораг—
Возьмем мы стальныя косы,
Станем, станем на дазоры,
Як сягоньня на пракосах!

20—VI—26 г., м. Ветрына.

БАРЫС СЬВЕРДЛІН.

# Плывуць дзянькі...

Плывуць дзянькі, нібы чаўны у моры,
Кудравіць вецер кучаравы гай,
Гамоніць сум ліпнёвы у прасторы,
Пад сонцам нікне ціхая туга...

Праходзіць лета, а за ім і восень,
Праходзіць восень, а за ёй зіма...
І дні шумяць як голас стромкіх сосен...
А тых што адыйшлі— няма...

Плывуць вясёла вольныя гадзіны,
Мінае час свавольнага жыцьця...
Сумуюць сёньня восеньню каліны,
І струны ў сэрцы галасьней зьвіняць.

А дні плывуць, нібы чаўны у моры
Кудравіць вецер кучаравы гай
Гамоніць сум ліпнёвы у прасторах
Пад сонцам нікне ціхая туга.

У. ЯЦКЕВІЧ.

* *
*

Край ты мой!.. Залатое калосьсе
У адвечнай блакіцені даль.
Ветры дзікія больш не галосяць
І палі ня зьвівае жуда.

Край ты мой!.. Балаты і раўніны
Ды вазёры як люстры гараць,
Стужкай рэчкі плывуць па далінах
Люба ім берагі цалаваць.

А лясы ды курганы ад вока
Хаваюць абшары раўнін...
Разышліся дарогі далёка
За палі, ў васількoвую сінь...

Адвячоркамі з сіняга гаю
Люба песьні пяяць салаўям...
О, краіна мая залатая!..
Беларусь, дарагая мая!..

# Кнігапіс.

**«УЗДЫМ», літаратурны зборнік Бабруйскай філіі «МАЛАДНЯКА».**

*Выд. Бабр. акр. філіі «Маладняка» 1926 г. ц. 50 кап.*

Беларуская мастацкая літаратура ўключыла ў сябе яшчэ адну кніжку, калектыўны літ. зборнік Бабруйскай філіі «Маладняка»

Зборнік на 100 стар. зьмяшчае ў сабе 2 артыкулы, 2 апавяданьні, 25 вершаў і аддзел «Аб усім».

Кніжка выдадзена прыгожа і абмылкі, зробленыя ў часе набору вынесены ў канцы, што гаворыць аб уважлівасьці да сваёй працы.

Першае, што кідаецца ў вочы— гэта бадзёры маладнякоўскі настрой у творчасьці ўдзельнікаў зборніку.

Івашын гаворыць:

Ня стрымаць,
Ня спыніць
Нас сягоньня
Ў нашай працы
Мяцежна—разгоннай!

Імкненьне працаваць для працоўных, разам з працоўнымі— відаць з усяго зборніку. Бо паэты, ня толькі паэты, а й барацьбіты за калектыўнае жыцьцё, за заваёвы Кастрычніка. «Нашы сэрцы б'юцца камсамолам і буяніць песьняй маладняцкай кроў», і калі «завеі завіхураць зьмеямі, пасягне хто ўкрасьці чырвань нашых дней,—кроў наша у жылах ой. не пасінее, яна стане толькі чырваней». (Суніца).

Перад намі вартаўнікі заваёў Кастрычніка, якія ў калектыве і разам з калектывам закладаюць муры сацыялізму.

Хто яны, што выдалі зборнік? «я пясьняр малады, я сяла весна-ход, дрывасек, і пастух, і араты!.. (Бужан) «Вясковы хлапец», які «думкі ў песьні свае выкладае», і гэтых песень «словы— стальны згартаваны клявец, голас — шум веснавейнага гаю» Гэтыя думкі, пералітыя ў песьні «пяюць аб сьветлай волі» (Хмель). Іх песьня— ...«Звон, песьня вясковая» (Верас). Як бачыце, песьня вясковая, але па зьместу і настрою яна інакшая ад старых песень.

Сьвядомасьць клясавая нітуецца з сьвядомасьцю нацыянальнай—«І калі мяне спытаюць хто-ты?—Адкажу з каханьнем «Беларус».

За зьместам у паэзіі шукаюць і формы, якія цесна нітуюцца паміж сабой. Якую-ж мастацкую каштоўнасьць мае зборнік?

У рытму зьмешчаных вершаў перадалася нэрвовасьць жыцьця нашай эпохі—«ня стрымаць, ня спыніць нас сягоньня!»... У зборніку маюцца новыя мэтры і рытмы,—«няроўныя, сечаныя радкі»,

новы энэргічны рытм для вуха, звыклага да павольных 4—5—стопных ямбаў і харэяў. Есьць і новая сьвежая рыфмоўка, але ёсьць і старая зацяганая. Вобразы ўзяты ў большасьці з народнай творчасьці:

«Сонца мые свае косы ў хвалях рэчкі срэбралітай»...
«трава б'е паклоны касцом»...
«там не хмары, ой, не градавыя»...

І калі на гэтыя вобразы глянуць ня вылучана з творчасьці, дык можна ўбачыць, што яны не зьяўляюцца самамэтай, а сродкам пры разьвіцьці тае, ці іншае тэмы.

У зборніку зьмешчаны два апавяданьні аднаго аўтара: «З пережытых год» і «Гой». Відаць мала празаікаў у філіі. Абодва апавяданьні хаваюць у сабе рэалізм, праўдзівасьць жыцьця. У апавяданьні «З пережытых год» аўтар такімі яскравымі фарбамі абмалёўвае голад, што жахі яго паўстаюць перад чытачам як жывыя. Роўны прыгожы стыль апавяданьняў, добрая мастацкая апрацоўка надаюць яшчэ больш вартасьці ім.

Апавяданьне «Гой» больш адпавядае нашай сучаснасьці, бо аўтар узяў тэму з жыцьця Беларусі і разьвязвае цікавае пытаньне,--перажыткаў нацыянальнага антаганізму, спадчыны царызму. У апавяданьні яскрава паказана, што няроўнасьць паміж людзьмі грунтуецца не на нацыянальнай глебе, а на сацыяльнай, што «новыя годы лечаць жыцьцё, зажыўляюць мінулага раны»... Гэта кожны з чытачоў і выносіць з апавяданьня.

Неяк не да месца ў гэтым зборніку аддзел «Аб усім». Псуюць уражаньне ад усяго зборніку газэтныя фэльлетонныя агітацыйныя малюнкі.

Зборнік прадстаўляе вялікую каштоўнасьць для беларускае мастацкае літаратуры і дае ўпэўненасьць, што уздым ні нізіны не пакоціцца.

**Гр.**

**С. ХУРСІК. «Першы паўстанак». Апавяданьні.**

*Выданьне Ц. Б. «Маладняка». Менск. 1925 г. 64 стар. цана 20 кап.*

Два гады, як выйшла ў сьвет кніжка маладняковуца С. Хурсіка, у якой зьмешчаны два апавяданьні «Адам Залес» і «Вырвалася».

Гэрой апавяданьня—Адам Залес расказвае ў вагоне аўтару сваю гісторыю. Аўтар нібы запісаў прамову пра сябе лішняга ў нашыя часы чалавека, адарванага ад жыцьця. Такая пабудоўка апавяданьня.

Гэрой апавядае шчыра пра сябе і гэта шчырасьць здольна захапіць чытача.

Адам Залес тыпізуе сабой выхадца з бедных сялян, які пражыў дні свайго юнацтва ў горадзе, вмхоўваючыся ў старой гімназіі, парваўшы з працай, не прыстасаваўшыся да жыцьця. У часы гострае клясавае барацьбы Залес, атручаны умовамі свайго жыцьця, надзеўшы пагоны, вядзе барацьбу супроць рэвалюцыйных рабочых і сялян.

Пасьля Залес перайшоў да

бальшавікоў, але ня мог звыкнуцца і тут, бо ня ўмеў працаваць. Тутака ён капаецца ў сваім «я», сумуе і адзін выхад знаходзіць у набажэнстве. Прыехаўшы да бацькі ў вёску, ён ня здольны разабрацца ў зьявах новага жыцьця. Бацька яго ўбачыўшы, што сумуе ён таму, што няма ў ім яго, бацькаўскага «духу», духу працавітасьці, што ён лішні ў яго, выпраўляе з дому. Залес—валацуга. Ён ня можа знайсьці свайго месца ў жыцьці і правільна ахарактарызаваны камсамольцам—гніль.

Тэма, узятая аўтарам, ў нашай беларускай літаратуры зьяўляецца новай і аўтар можна лічыць, што справіўся з ёю. Прадстаўнікі сваёй эпохі ў расейскай літаратуры далі такіх тыпаў.

Залесы ў наш час—гэта трэскі, ускінутыя хвалямі рэвалюцыі, якія ня могуць прыбіцца ні да аднаго берагу і носяцца на грэбнях гэтых хваляў. Яны маюцца ў нас і цяпер. Гэта—пошасьць нашай савецкай грамадзкасьці, ад якой мы паступова вызваляемся.

Заслуга аўтара ў тым, што ён у даволі яскравых фарбах перадаў нам прадстаўніка рэшткі гэтых нікчэмных адміраючых людзей. Цікава чаму наша крытыка абыйшла моўчкі гэты твор (ня лічачы невялічкай газэтнай рэцэнзіі).

У апавяданьні «Вырвалася» менш шчырасьці і нібы шаблённасьць.

Каця—дачка сялян прымушалася бацькам выйсьці за кулака, быўшага гімназістага, Колю. Камсамол, у які Каця ўступіла, расчыніў ей вочы на жыцьцё і штурхануў яе да вучобы. Яна ўцякае ў горад, пастулае ў школу, а прыехаўшы бацька гоніць яе дамоў. Яна не згаджаецца.

Тэма «Вырвалася» не скарыстана цалкам, няма шчырасьці, пасьлядоўнасьці. Апавяданьне гэта менш захапляе чытача.

Стыль аўтара даволі лёгкі, толькі часамі трапляюцца цяжкія сказы. Мова жывая сялянская. Сустракаюцца і русіцызмы. Але гэтыя хібы былі два гады таму назад і ў апошніх творах Хурсіка іх няма.

**М. Я.**

# ЗЬМЕСТ





# КНІГАСЬПІС

## МАЛАДНЯКОЎСКІХ ТВОРАЎ.

Цана р. к.

[illegible] 1925 . . . . . . . . 25

[illegible]

Падабед —*Вершы*. Выд. ЦБ «Маладняка» [illegible]
Слуцкія песьняры.—*Вершы*. Выд. ЦБ «Маладняка» Менск. 1926. . . . . . . . . 20
Трус.—*Вершы* Выд. ЦБ «Маладняка» Менск. 1925. (разышл.) . . . . . . . . . 15
Трус. Ветры буйныя—*вершы*. БДВ. (друкуецца) . . . . . . . . . . . .
Хадыка —Суніцы *вершы*. Выд. ЦБ. «Маладняка». Менск. 1926. . . . . . . . . . 20
Хурсік.—Першы паўстанак *апавяданьні* Выд ЦБ «Маладняка». Менск. 1925. . . 20
Чарот. —Завіруха—*вершы*. Менск. 1922 (разышлася) . . . . . . . . . . . . .
Чарот. —Босыя на вогнішчы—*поэма*. БДВ. 3 е выд Менск. 1925. . . . . . . . .
Чарот Веснаход—*апавяданьні*. БДБ. Менск. 1926. 2 е выд. . . . . . . . . . 1 10
Чарот.—Выбраныя вершы. Выд ЦБ. «Маладняка». Менск 1925. . . . . . . . . 15
Чарот. —Выбраныя апавяданьні. БДВ. Менск. 1926. . . . . . . . . . . . .
Чарот. —Карчма—*поэма*. Выд. ЦБ. «Маладняка». Менск. 1926. . . . . . . . . 20
Чарот.—Марына—*поэма*. БДВ. Менск 926. . . . . . . . . . . . 20
Чарот —Ленін *поэма*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. . . . . . . .
Чарот. - Сьвінапас—*аповесьць*. БДВ (друкуецца) . . . . . . . . .
Чарот.- Беларусь лапцюжная—*поэма* (друкуецца) . . . . . . . . . . .
Чарот - Чырвонакрылы вяшчун *поэма* (друкуецца) . . . . . . . . . .
Якімовіч.—*Вершы*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1925. . . . . . . . . . . . 20

### Пераклады.

Софокль.—Антыгона—*драма* з грэцкай мовы. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. 40
Уайльд.—Баляда. Рэдынскай турмы— з ангельскай мовы Выд. ЦБ «Мал.». Менск. 1925. 20

### Часопісі і альманахі.

«Маладняк» - орган ЦБ «Маладняка».
«Маладняк Калінішчыны».
«Аршанскі Маладняк».
«Уздым»—альманах Бабруйскай філіі «Маладняка» . . . . . . . . . . . . 50
«Наддзьвіньне»—альманах Полацкай філіі . . . . . . . . . . . . . . 50
Маладняк Барысаўшчыны.
«Пачатак»—альманах Віцебскай філіі.

## ЗАЎВАЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ ДРУКУ:

| Старонка. | Радок. | Надрукована. | Трэба чытаць. |
|---|---|---|---|
| 3 | 4 | ні сваіх пачуцьцяў. Зараз | ні сваіх пачуцьцяў, зараз |
| 3 | 20 | літаратурай. | літаратурай, |
| 7 | 1 | Акоу | Акоў |
| 51 | 23 | шалена | шалёна |
| 68 | 2 | На Беларсуі | На Беларусі |
| 72 | 1 | Пэрлы дзен | Пэрлы дзён |
| 73 | 25 | беласус | беларус |
| 83 | 9 | З каукаскіх папевау | З каўкаскіх напеваў |
| 89 | 1 | Над дзьвіной | Над Дзьвіной |





# КНІГАСЬПІС

## МАЛАДНЯКОЎСКІХ ТВОРАЎ.

| | Цана р. к. |
|---|---|
| **...лександровіч.**—Па беларускім бруку—Менск, БДВ, 1925. | 25 |
| **...лександровіч.**—Сутарэньне—*апавяданьні*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1925 | 20 |
| **...лександровіч.**—Прозалаць—*вершы*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. | 20 |
| **...лександровіч.**—Паўстанцы—*поэма*. БДВ. Менск. 1925. | 8 |
| **...лександровіч і А. Вольны** Комсамольская нота—*вершы*. Менск. 1924. | 25 |
| **...лександровіч, Вольны, Дудар.**Ваўчаняты—*роман*. БДВ. Менск. 1925. | 60 |
| **...обрык, Звонак, Туміловіч.** Пунсовае раньне—*вершы*. Выд. ЦБ. «Мал.» Менск. 1926. | 20 |
| **Бандарына, Вішнеўская, Пфляўмбаўм.**—*Вершы*, Выд ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. | 20 |
| **Барашка**—У прасторы—*апавяданьні*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. | 20 |
| **Гаўрук**—Вясковыя рыскі. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. | 25 |
| **Галубок**—Апошняе спатканьне—*п'еса*. Выд. Наркамасьветы Менск. 1919. | 25 |
| **Дудар**—Беларусь бунтарская—*вершы*. БДВ. Менск. 1925. | 20 |
| **Дудар.**—Сонечнымі сьцежкамі—*вершы*. Выд. ЦБ «Маладняка». 1925. | 15 |
| **Дудар**—Шанхайскі шоўк—*поэма*. Выд. ЦБ «Маладняка». 1926. | 15 |
| **Дудар.**—І залацісьцей і сталёвей—*лірыка*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. | 30 |
| **Журба.**—Заранкі—*вершы*. БДВ. Менск. 1924. | 30 |
| **Зарэцкі.**—У віры жыцьця—*апавяданьні*. БДВ. Менск. 1925. (разышл.) | 1 50 |
| **Зарэцкі.**—...ела вясна—*апавяданьні* Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1925. | 20 |
| **Зарэцкі.**—Пад сонцам—*апавяданьні* БДВ. Менск. 1925. | 50 |
| **Зарэцкі.**—Голы зьвер—*аповесьць* БДВ. Менск. 1926. | 30 |
| **Зарэцкі.**—42 дакумэнты—*апавяданьні*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926 | 30 |
| **...ракоў.**—Пялесткі—*вершы*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926 | 25 |
| **...ашка.**—Стрэл начны ў лесе—*апавяданьні* Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. | 30 |
| **...новіч.**—Золак—*апавяданьні*. БДВ. Менск. 1926 | 75 |
| **...ікановіч**—Радасьць—*апавяданьні*. БДВ. Менск 1926. | 25 |
| **Падабед**—*Вершы*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. | 15 |
| **Слуцкія песьняры.**—*Вершы*. Выд. ЦБ «Маладняка» Менск. 1926. | 20 |
| **Трус.**—*Вершы* Выд. ЦБ «Маладняка» Менск. 1925. (разышл.) | 15 |
| **Трус.** Ветры буйныя—*вершы*. БДВ. (друкуецца) | |
| **Хадыка**—Суніцы—*вершы*. Выд. ЦБ. «Маладняка». Менск. 1926. | 20 |
| **Журсік.**—Першы паўстанак—*апавяданьні* Выд ЦБ «Маладняка». Менск. 1925. | 20 |
| **Чарот.**—Завіруха—*вершы*. Менск. 1922 (разышлася) | |
| **Чарот.**—Босыя на вогнішчы—*поэма*. БДВ. 3 е выд Менск. 1925. | |
| **Чарот**—Веснаход—*апавяданьні*. БДВ. Менск. 1926. 2 е выд. | 1 10 |
| **Чарот.**—Выбраныя вершы. Выд ЦБ. «Маладняка». Менск 1925. | 15 |
| **Чарот.**—Выбраныя апавяданьні. БДВ. Менск. 1926. | |
| **Чарот.**—Карчма—*поэма*. Выд. ЦБ. «Маладняка». Менск. 1926. | 20 |
| **Чарот.**—Марына—*поэма*. БДВ. Менск 926. | 20 |
| **Чарот**—Ленін—*поэма*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. | |
| **Чарот.**—Сьвінапас—*аповесьць*. БДВ (друкуецца) | |
| **Чарот.**—Беларусь лапцюжная—*поэма* (друкуецца) | |
| **Чарот**—Чырвонакрылы вяшчун—*поэма* (друкуецца) | |
| **Якімовіч.**—*Вершы*. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1925. | 20 |

### Пераклады.

| | |
|---|---|
| **Софокль.**—Антыгона—*драма* з грэцкай мовы. Выд. ЦБ «Маладняка». Менск. 1926. | 40 |
| **Уайльд.**—Баляда. Рэдынскай турмы—з ангельскай мовы Выд. ЦБ «Мал.». Менск. 1925. | 20 |

### Часопісі і альманахі.

| | |
|---|---|
| **«Маладняк»**—орган ЦБ «Маладняка». | |
| **«Маладняк Калініншчыны».** | |
| **«Аршанскі Маладняк».** | |
| **«Уздым»**—альманах Бабруйскай філіі «Маладняка» | 50 |
| **«Наддзьвіньне»**—альманах Полацкай філіі | 50 |
| **Маладняк Барысаўшчыны.** | |
| **«Пачатак»**—альманах Віцебскай філіі. | |

